

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

30 ЧЭРВЕНЯ 2000г. № 26/4058 КОШТ 85 РУБ.





*Дарога праз стагоддзі,*
*Дарога праз гады,*
*Праз цішыню ў народзе,*
*Праз выбухі жуды...*

Фота А. ПРУПАСА



# КОЛА ДЗЁН

***Прайшоў месяц лета. Было і спякотна, і холадна, і нават замаразкі былі. А дажджоў было мала. І кожны гаспадар ужо думае пра тое, што будзе восенню. Нехта скажа, што яшчэ пра восень рана думаць, але той, відаць, так думае пра ўсё: і пра восень, і пра Беларусь... А наперадзе 3 ліпеня — Дзень Рэспублікі. Свята. Яно разлічана на тры дні. Старт яму будзе дадзены 1 ліпеня вялікім авіяцыйна-спартыўным святам у пасёлку Баравая пад Мінскам. У гэты ж дзень на праспекце імя Ф. Скарыны ад плошчы Незалежнасці да плошчы Кастрычніцкай адкрыецца гарадская панарама "Паказваюць раёны Мінска". На наступны дзень з гарадской панарамай "састыкуюцца" фестывалі духавых аркестраў Мінскай вобласці і Міністэрства абароны. Вечарам у Палацы Рэспублікі адбудзецца ўрачысты сход і святочны канцэрт, прысвечаны святу. Цэнтральная падзея — 3 ліпеня, з 10 да 12 гадзін, — шэсце ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны па праспекце імя Ф. Скарыны ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Перамогі. Працягне сваю работу і гарадская панарама "Паказваюць раёны горада", пройдуць таксама масавыя гулянні ў парках і скверах. Дзень завершыцца святочным салютам у 23 гадзіны. Словам, святкуйма, хлопцы і дзяўчаты!..***

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

24 і 25 чэрвеня Валожын святкаваў сваё 600-годдзе. Такога маштабнага свята ў горадзе яшчэ не было. Шматвяковы юбілей супаў з шасцідзесяцігоддзем раёна. Было на што паглядзець і што паслухаць. Валожынцы не толькі ўмеюць добра і плённа працаваць, але і святкаваць.

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

У сувязі з ростам майскай сярэдняй зарплаты рабочых і служачых краіны ў ліпені адбудзецца чарговы пераразлік пенсій. У наступным месяцы мінімальная працоўная пенсія складзе 14 407 руб., а максімальная пенсія працуючых пенсіянераў (пры стажы 45 гадоў у мужчын і 40 гадоў у жанчын і індывідуальным каэфіцыенце 1,3 і вышэй) — 30 368 руб. Максімальная пенсіі непрацуючых пенсіянераў дасягнуць у ліпені 41 836 рублёў. Выдаткі Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва на выплату пенсій у наступным месяцы складуць 67 млрд. 490 млн. рублёў. Можа, нехта і скажа, што пенсіі немалыя, але хай бы той за гэтакія пенсіі пажыў...

### ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што па стане на 1 мая 2000 года дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе ў Беларусі падалі 210 489 чалавек. Паводле вынікаў пераразліку 91 266 грамадзянам прад'яўлены да даплаты падаходны падатак у суме 720,2 мільёна рублёў, 9 758 грамадзянам належыць вярнуць падатак у суме 30 мільёнаў рублёў. У выніку праведзенай работы да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута больш за 1,5 тысячы фізічных асоб, у тым ліку за ўхіленне ад падачы дэкларацыі — 1 444 чалавекі, якім прад'яўлены да ўплаты штраф на агульную суму 29,9 мільёна рублёў. На прайшоўшым пасяджэнні калегіі ДПК вынікі працы інспектараў ДПК па дэклараванні сукупнага гадавога даходу за 1999 год прызначаны здавальняючымі. І зразумела — не ўсе, каму трэба, дэкларацыі падалі...

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Міністэрства аховы здароўя Беларусі ў мэтах прафілактыкі захворванняў у насельніцтва, звязаных з дэфіцытам ёду, прыняло пастанову паводле якой з 1 студзеня 2001 года ў нашай краіне будзе забаронена выкарыстоўванне нёёдавай солі. Чарнобыль...

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, сярэдняя налічаная зарплата па краіне ў маі павялічылася ў параўнанні з красавіком на 14,1 працэнта і склала 53 832 рублі. Самымі высокімі майскія заробкі былі ў работнікаў банкаў — 107 165 рублёў (у параўнанні з красавіком яны ўзраслі на 16,1 працэнта). Сярэдняя зарплата па авіяцыйным транспарце склала 80 895 руб. (рост за апошні месяц — 21,9 працэнта), страхаванні — 70 309 руб. (21,8 працэнта), чыгуначным транспарце — 67 444 руб. (10,1 працэнта), прамысловасці — 65 632 руб. (10,4 працэнта), навуцы і навуковым абслугоўванні — 62 865 руб. (11,8 працэнта), фізічнай культуры і спорце — 46 586 руб. (25,5 працэнта), ахове здароўя — 43 553 руб. (20,7 працэнта), адукацыі — 42 663 руб. (20,5 працэнта), культуры — 38 161 (24 працэнты), мастацтве — 37 619 руб. (17,4 працэнта). Самыя малыя заробкі ў работнікаў саўгасаў — 36 926 руб. (20,7 працэнта), калгасаў — 29 212 руб. (19,3 працэнта) і сацыяльнай абароны — 27 798 руб. (22,3 працэнта). Па звестках статыстыкі бачна каму ў Беларусі жыць добра, а каму...

### ТРЫВОГА ТЫДНЯ

На сённяшні дзень дарожная галіна нашай краіны налічвае каля 4 700 мастоў і пуцеправодаў. Аднак, больш як 2 тысячы мастоў і пуцеправодаў (45 працэнтаў) зараз не адпавядаюць нормам па габарыце і грузападымальнасці, да ўсяго каля 470 з іх — па абодвух параметрах адначасова. На падліках спецыялістаў, на дарогах, па якіх ажыццяўляецца каля 80 працэнтаў усіх перавозак, не адпавядаюць гэтым нормам каля 50 працэнтаў мастоў і калі не будзе выканаы шэраг тэрміновых мерапрыемстваў, то праз 5-7 гадоў маставая гаспадарка цалкам выйдзе са строю. Так што, спадарства, трэба нешта рабіць!

### БОЛЬ ТЫДНЯ

26 чэрвеня Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый аб'яўлены Міжнародным днём барацьбы з наркаманіяй і наркабізнесам. У нашай краіне за пяць месяцаў гэтага года супрацоўнікамі МУС выяўлена 1 331 злачынства, звязанае з наркабізнесам. Міліцыя канфіскавала сёлета больш за 200 кілаграмаў наркатычнай сыравіны і больш як 86 кілаграмаў гатовых наркотыкаў. Штогод афіцыйная колькасць ахвяр наркаманіі ў нас павялічваецца ў сярэднім на 1000 чалавек. Зараз у Беларусі афіцыйна зарэгістравана больш за 6 тысяч 300 наркаманаў. Лічбы невясёлыя...

### ПАДАРАЖАННЕ ТЫДНЯ

Прайшло два месяцы, як апошні раз павышаўся кошт гарэлкі. І вось — новая падаражанне. Праўда, цэны выраслі нязначна, у сярэднім на 50—60 рублёў. Цяпер, каб купіць пляшку "Вадалея" ці "Новага веку" трэба выкласці 1 327 рублёў. "Беларусь сінявокая" і "Люкс" каштуюць па 1 221 рублю, "Крышталь-люкс", "Белая Русь" — па 1 216 рублёў, "Крышталь-100" - 1174, "Беларусь" — 1 161, "Сталічная", Маскоўская", "Пшанічная", "Руская", "Сталіца" і "Палеская" — па 1 158, "Два буслы" — па 1 137 рублёў. Кошты палохаюць, але толькі не тых хто п'е і не збіраецца кідаць.

ЮБІЛЕІ

# У мілых сэрцу Чорнага мясцінах



Трыццаць шэсць пісьменнікаў нарадзіла капыльская зямля. Сярод іх такія славутыя імёны, як класік (а яшчэ яго называюць дзядулем) яўрэйскай літаратуры Мендэль Мойхер-Сфорым, Цішка Гартны, Алесь Адамовіч, Анатоль Астрэйка, Адам Русак, Сцяпан Александровіч... Аднак, несумненна, у гэтым спісе першае месца належыць класіку нашай літаратуры Кузьме Чорнаму. А што гэта і на самай справе так і выдатны майстар прозы з'яўляецца для капылян "першай любоўю", лішні раз засведчылі мерапрыемствы, якія прайшлі ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння таго, хто, сказаўшы аднойчы: "Чалавек — гэта цэлы свет", надзіва таленавіта і глыбока даследаваў жыццё тых, хто спаконвеку жыў, жыве на нашай зямлі і разам са сваімі героямі знаходзіўся ў "пошуку будучыні".

А рыхтаваліся капыляне да гэтага юбілею загадзя. І першае, што зрабілі, устанавілі справядлівасць адносна месца нараджэння славутага земляка. Як вядома, усе даведнікі, у тым ліку і энцыклапедычныя, сведчаць, што Мікалай Раманоўскі з'явіўся на свет ў былым маёнтку Боркі Слуцкага павета (тэрыторыя цяперашняга Капыльскага раёна). Аднак старажылы, якія жывуць у тамашніх мясцінах, даўно не пагаджаліся з падобным сцвярджэннем. Прынамсі, з вёскі Жабчава. Нарадзіўся К. Чорны не ў Борках, а ў Лапацічах.

24 чэрвеня, у дзень нараджэння Мікалая Карлавіча, ля самага Жабчава і адбылося ўрачыстае адкрыццё двух мемарыяльных знакаў. Адзін з іх сведчыць аб тым, што будучы класік беларускай літаратуры ўпершыню пабачыў свет менавіта ў Лапацічах. Другі ж, што непадалёку ад першага, сведчыць, наколькі моцнай была ў К. Чорнага повязь з зямлёй маленства. Позірку адкрываецца як бы раскрытая кніга, на якой словы, што даўно сталі хрэстаматыйнымі: "Родныя мясціны! Як мая душа рвецца туды! Яна заўсёды там. Там жывуць усе мае персанажы. Усе дарогі, пейзажы, дрэвы, хаты, чалавечыя натуры, пра якія я калі-небудзь пісаў. Гэта ўсё адтуль, сапраўднае. К. Чорны".

Добра падрыхтаваліся да юбілею і супрацоўнікі Цэнтральнай раённай бібліятэкі. У рамках тыдня краязнаўства ў ёй прайшла літаратурная кампазіцыя "Святло яго таленту". Удзельнікі клуба "Спадчына" яшчэ больш даведаліся аб жыццёвым і творчым шляху Мікалая Карлавіча. А ў чытальнай зале была разгорнута выстаўка кніг пісьменніка, эпіграфам да якой сталі словы з аповесці "Люба Лук'янская": "З літар складаецца слова. Слова піша чалавек. Напісанае чалавекам слова праз сотні, тысячы год можа загучаць вялікай сілай. Чалавек гаворыць слова, яно прагучыць і сціхне, хто яго слухаў не чуў — ніколі больш не пачуе. Хто чуў — можа забыць. Напісанае слова гучыць заўсёды, па-свойму, але гучыць, яно плыве, яно даносіць свой сэнс праз час, праз код часу".

А ў памяшканні Капыльскай дзіцячай школы мастацтваў — свая выстаўка. У экспазіцыі яе — шматлікія малюнкі, выкананыя хлопчыкамі і дзяўчынкамі па творах К. Чорнага "Трэцяе пакаленне", "Насцечка", "Дарагуся", "Браты", "Радасць жанчыны" і іншых. З работамі юных мастакоў змаглі пазнаёміцца і госці з Мінска — пісьменнікі, навукоўцы, сярод якіх былі і тыя, хто нарадзіўся на Капыльшчыне ці доўгі час жыў на гэтай спеўнай, багатай на таленты зямлі. І канечне ж, завіталі яны на месца, дзе некалі стаяла хата, у якой нарадзіўся К. Чорны.

Пазнаёміліся госці і з экспазіцыяй літаратурнага музея Кузьмы Чорнага, які знаходзіцца ў Цімкавічах: адсюль родам бацькі Мікалая Карлавіча, тут ён рабіў першыя крокі да ведаў, тут працаваў у валасным ваенкамаце, сюды часта наведваўся да землякоў. А ў 1944 годзе, знаходзячыся ў Маскве, пісаў у дзённіку: "...можа, мне суджана яшчэ пабачыць мілыя Цімкавічы..."

Упершыню музей адчыніў дзверы 24 чэрвеня 1964 года — плён намаганняў мясцовых настаўнікаў (школа ў Цімкавічах носіць імя К. Чорнага) на чале з тадышнім яе дырэктарам, заслужанай настаўніцай БССР З. Раманенкай. А ў 1980 годзе музей атрымаў званне народнага. Цяпер ён з'яўляецца філіялам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. У сувязі з юбілеем экспазіцыя абноўлена і перадае сам дух жыцця і творчасці К. Чорнага.

У Цімкавічах прайшлі і асноўныя чорнаўскія мерапрыемствы. Перад прысутнымі выступілі старшыня Капыльскага райвыканкама А. Уласевіч, дачка К. Чорнага Рагнеда Мікалаеўна, прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А. Вайтовіч, народны пісьменнік Беларусі І. Навуменка, М. Тычына, А. Пісьмянкоў, А. Бельскі, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Н. Гальпяровіч, дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь Л. Хадкевіч, А. Вярцінскі... Парадаваў землякоў К. Чорнага і ансамбль народнай музыкі "Свята", знакамітая Н. Мікуліч і іншыя.

**Дзяніс ВЯРЭЙКА.**
*Фота В. СІБРЫКАВА.*

# Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

**Зацверджана палажэнне аб парадку прысваення звання "Нацыянальны" творчым саюзам Рэспублікі Беларусь, у якім гаворыцца:**

"1. Званне "Нацыянальны" прысвойваецца творчаму саюзу Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за асаблівы ўклад гэтага саюза ў развіццё нацыянальнай культуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь.

2. Званне "Нацыянальны" можа прысвойвацца творчаму саюзу, які:

2.1. мае:

Адметныя дасягненні ў сферы культуры і мастацтва на працягу не менш чым пятнаццаць гадоў яго дзейнасці;

грамадскае прызнанне дасягненняў у сферы культуры і мастацтва ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі;

структурныя падраздзяленні, што актыўна дзейнічаюць ва ўсіх або ў большасці абласцей Рэспублікі Беларусь;

у сваім складзе членаў (удзельнікаў) з ганаровымі званнямі, лаўрэатаў айчынных і міжнародных прэмій у галіне культуры і мастацтва;

шматгадовы станоўчы вопыт падрыхтоўкі творчай моладзі;

2.2. уносіць дзейсны ўклад у распрацоўку і рэалізацыю прыярытэтных напрамкаў дзяржаўнай культурнай палітыкі;

2.3. ажыццяўляе актыўную статутную дзейнасць (прапаганда вынікаў працы, сустрэчы з працоўнымі калектывамі і рознымі групамі насельніцтва, міжнародныя кантакты і інш.).

3. Рашэнне аб прадстаўленні творчага саюза да прысваення звання "Нацыянальны" прымаецца калегіяй Міністэрства культуры сумесна з каардынацыйнай радай асацыяцыі грамадскіх аб'яднанняў "Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў". Адпаведныя матэрыялы накіроўваюцца Міністэрствам культуры на разгляд у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь для наступнага ўнясення ва ўстаноўленым парадку Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь".

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Стагоддзю з дня нараджэння Кузьмы Чорнага была прысвечана вечарына ў Нацыянальнай бібліятэцы. Адкрываючы яе, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч гаварыў аб значэнні К. Чорнага для сённяшняга пакалення літаратараў, аб мерапрыемствах, якія ладзіць творчы саюз у гонар класіка айчыннай літаратуры.

Цікавымі і змястоўнымі былі выступленні пісьменнікаў Аляксея Рагулі, Генрыха Далідовіча, Міхася Тычыны, Язэпа Янушкевіча, дачкі Кузьмы Чорнага Р. Раманоўскай, намесніка старшыні Капыльскага райвыканкама Марыі Шэінай, намесніка міністра культуры Валерыя Гедройца.

Актыўны ўдзел у мерапрыемстве браў Дзяржаўны музей беларускай літаратуры на чале з дырэктарам аб'яднання літаратурных музеяў Леанідам Хадкевічам.

•

Актыўна ідзе падрыхтоўка да сустрэчы ўдзельнікаў Літэкспрэса "Еўропа-2000", якая будзе на Беларусі 9—10 ліпеня. Складзены праграмы наведвання Вязынкі, намечаны сем пляцовак, дзе адначасова 10 ліпеня адбудуцца сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з замежнымі калегамі.

А ў Доме літаратара ў вялікай і канферэнц-залах пройдуць сустрэчы і дыскусіі, будуць арганізаваны выстаўкі літаратуры, адбудуцца гутаркі з кнігавыдаўцамі.

Аргкамітэт па сустрэчы ўдзельнікаў Літэкспрэса ўзначальвае намеснік міністра культуры В. Гедройц, каардынацыйны цэнтр — дырэктар музея Я. Купалы Ж. Дапкюнас. Ад Саюза пісьменнікаў каардынатарамі выступаюць С. Панізнік, А. Масарэнка, Я. Каршукоў, І. Качаткова, З. Вішнёў, Т. Галіна.

**Н. К.**

ДАТЫ

# Адкрыў свету Васіля Быкава

Чэрвеньскі каляндар, такі багаты на юбілеі, звязаны і з імем выдатнейшага рускага паэта Аляксандра Твардоўскага. Пры тым гаворка ідзе адразу аб трох датах. Галоўная з іх — 90-годдзе з дня нараджэння Аляксандра Трыфанавіча, а адбылося гэта 21 чэрвеня 1910 года на былым хутары Загор'е цяперашняга Пачынкаўскага раёна Смаленскай вобласці (Расія). На сумежжы Беларусі і Расіі, а калі дакладней — на этнічнай беларускай тэрыторыі. А да гэтай даты прымыкае і другая, калі можна так сказаць, таксама радасная: 50 гадоў назад А. Твардоўскі быў прызначаны галоўным рэдактарам часопіса "Новый мир". Але ці не заўсёды ў нас радасць "со слезою пополам": 30 гадоў назад А. Твардоўскага знялі з гэтай пасады (першы раз у 1954 годзе, але тады неўзабаве "грахі" даравалі, цяпер жа адправілі "на заслужаны адпачынак").

Даты гэтыя цесна звязаны між сабой, бо кожная дае мажлівасць зноў і зноў згадаць, КІМ і ЯКІМ быў Твардоўскі. КІМ у жыцці і літаратуры. ЯКІМ у жыцці і літаратуры. А Твардоўскі — гэта найярчэйшыя старонкі сучаснай паэзіі, якая, застаючыся ў сваёй сутнасці традыцыйнай, пераживае модныя плыні і цячэнні і не паддаецца пераацэнкам, як бы шмат ахвотнікаў гэта рабіць не знаходзілася. Твардоўскі — найлепшы прыклад ПАЭТА-ГРАМАДЗЯНІНА. А яшчэ Твардоўскі — прыклад РЭДАКТАРА.

Менавіта дзякуючы Аляксандру Трыфанавічу часопіс "Новый мир" за кароткі час ператварыўся ў самае аўтарытэтнае выданне такога тыпу ў Савецкім Саюзе. І дзякуючы "Новому миру" свет упершыню даведаўся пра пісьменнікаў, якіх ён сёння па-ранейшаму ведае і шануе. І сярод іх — народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі Васіль Быкаў, чые творы ў "Новом мире" з'явіліся тады, калі на Беларусі Васіля Уладзіміравіча не хацелі прызнаваць.



*А. Твардоўскі з П. Броўкам. (З фондаў музея П. Броўкі).*

А ўвогуле, стасункі А. Твардоўскага з беларускай зямлёй моцныя і даўнія. Аляксандр Трыфанавіч удзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі, часта наведваўся да нас на розныя пісьменніцкія мерапрыемствы. Беларусі А. Твардоўскі прысвяціў вершы "Слова пра зямлю", "Запрашэнне гасцей", "Мінская шаша" і іншыя, нарысы, што ўвайшлі ў кнігу "Радзіма і чужына". Ён пераклаў асобныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова, М. Засіма, М. Сурначова. У сваю чаргу творы А. Твардоўскага пераўвасаблялі па-беларуску П. Броўка, К. Крапіва, М. Танк, А. Куляшоў, М. Лужанін, Э. Агняцвет, Г. Пашкоў... А. Куляшоў, як вядома, прысвяціў Аляксандру Трыфанавічу паэму "Варшаўскі шлях".

Згадваючы імя А. Твардоўскага, нязменна прыходзіш да высновы, што сапраўдны паэт, сапраўдны літаратар — гэта яшчэ і грамадзянін. І ў якія б часы ён ні жыў, калі сумленне ў яго не дрэмле, ён жыве годна.

**А. М.**

КАНЦЭРТЫ

# З германскімі музыкамі ў суладдзі

Слушнасць выслоўя "музыка межаў на ведае" пацвярджаецца досыць сталым і плённым супрацоўніцтвам Мінскай абласной капэлы "Санорус" і нямецкага хору "Унтэрмайн". Іх мастацкія кіраўнікі — Аляксей Шут ды Готфрыд Кернер — ажыццяўляюць супольныя творчыя праекты і абменьваюцца візітамі. Прынамсі, 25 чэрвеня маэстра Кернер ужо трэці раз прыехаў у Мінск і праз пару дзён прадырыжыраваў канцэртам, які стаўся адметнай падзеяй нашага па-летняму запаволенага філарманічнага жыцця.

Увечары 27 чэрвеня Вялікая зала Беларускай дзяржаўнай філармоніі прыняла тых, хто хацеў паслухаць "Нямецкі рэквіем" Яганеса Брамса (іх, дарэчы, аказалася не так і мала). Гэты маштабны сямічасткавы твор, які гучыць амаль паўтары гадзіны, падрыхтавалі капэла "Санорус" пад кіраўніцтвам А. Шута, наш госць — хор "Унтэрмайн" з маэстра Г. Кернерам, салісты Таццяна Пятрова (Беларусь) ды Штэфан Клас (Германія). Дырыжыраваў, як ужо зазначалася, Готфрыд Кернер.

У гучанні аб'яднанага хору адчувалася музычнае суладдзе (нават вонкава, з-за колеравага падабенства строяў жаночай групы харыстаў, і госці, і гаспадары падаваліся адзіным калектывам). Далікатна гучаў аркестр; мяккім дапаўненнем да галоўных, паводле інтэрпрэтацыі маэстра, вакальных фарбаў успрымаліся струнныя, яркімі акцэнтамі — падкрэсленны эпізоды медных духавых... Спецыяліст у сферы рэлігійнай музыкі, Г. Кернер прапанаваў досыць стрыманую трактоўку музыкі Я. Брамса, пазначанай унутранай рамантычнай экспрэсіяй: рэквіем ёсць рэквіем.

Беларускія меламаны прыхільна ўспрынялі гэты інтэрнацыянальны творчы праект і з цікавасцю чакаюць новых супольных акцый "Саноруса" ды "Унтэрмайна".

**С. Б.**

НОВАЕ

# Максім Гарэцкі: падступы да Поўнага збору твораў

Так сталася, што толькі апошнім часам пачалі рабіцца плённыя заходы па вяртанні чытачу ўсёй творчай спадчыны выдатнейшага пісьменніка, класіка беларускай літаратуры, аднаго з самых адданых сыноў Бацькаўшчыны Максіма Гарэцкага. А таму да Збору яго твораў у чатырох тамах, выпушчанага выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1984—1986 гадах, дзякуючы намаганням Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, дабавіўся дадатковы, што пабачыў свет у 1990 годзе. Тая ж "Мастацкая літаратура" ў 1992 годзе перавыдала "Гісторыю беларускае літаратуры" М. Гарэцкага. Напярэдадні, несумненна, выданне Поўнага збору твораў пісьменніка. А каб яно ажыццявілася як мага хутчэй і пры гэтым трапіла ў яго больш твораў М. Гарэцкага, якія па розных прычынах пакуль не вернуты з небыцця, неабходны сумесныя намаганні і літаратуразнаўцаў, і гісторыкаў. Не абысціся ў дадзеным выпадку і без дапамогі бібліёграфаў, архівістаў, работнікаў бібліятэк і музеяў.

А што такая праца дасць жаданыя вынікі, яскрава сведчыць кніга М. Гарэцкага "Публіцыстыка. 1918—1919 гг.", выпушчаная пад эгідай Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканскага фонду імя братоў Гарэцкіх і ўкладзеная Вячаславам Селяменевым і Віталем Скалабанам. Наклад яе невялікі, усяго 100 асобнікаў і, безумоўна, зборнік адразу стане бібліяграфічнай рэдкасцю, таму адно спадзяванне, што з ім зацікаўлены чытач зможа пазнаёміцца ў бібліятэках, найперш у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Несумненна, аднак, і тое, што жадаючых будзе шмат, бо кніга пашырае ўяўленне аб М. Гарэцкім-публіцысце, дазваляе ў многім прасачыць, як станавіўся ён на шлях свядомага служэння Бацькаўшчыне, свайму народу, пазбаўляючыся пэўных ілюзій, што авалодалі ім у перыяд, калі бальшавікі ўзялі ўладу ў свае рукі і напачатку абяцалі нацыянальнае адраджэнне Беларусі і беларускаму народу.

Як адбывалася станаўленне М. Гарэцкага-публіцыста і яго грамадзянскае сталенне, аб тым, як супрацоўнічаў ён у 1918—1919 гадах у перыядычным друку, можна даведацца з уступнага артыкула В. Скалабана "Смаленск—Менск—Вільня, ці На шляху да Поўнага збору твораў Максіма Гарэцкага". А "Смаленск—Менск—Вільня" М. Гарэцкі назваў свае ўспаміны, змешчаныя пад псеўданімам Дзед Кузьма 9 жніўня 1927 года ў газеце "Звязда" ў сувязі з яе 10-гадовым юбілеем.

Спачатку М. Гарэцкі супрацоўнічаў у "Известиях Смоленского Совета" (у лістападзе 1918-га газета была перайменавана ў "Западную коммуну"). Потым працаваў у "Звяздзе", у "Вестках Часовага рабоціцка-сялянскага радавага ўрада Беларусі", што выходзілі на беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай мовах... Матэрыялы падаваліся пад крыптанімамі Д. К., Д. К-а, псеўданімам Дзед Кузьма. В. Скалабан закранае і публікацыі, падпісаныя інакш. У адных выпадках ён выказвае верагоднасць аўтарства М. Гарэцкага, у другіх сведчыць, што так сцвярджаць "падстаў няма".

Самі ж матэрыялы, што трапілі на старонкі кнігі М. Гарэцкага "Публіцыстыка. 1918—1919 гг.", з цягам часу ўвойдуць у Поўны збор твораў гэтага класіка нашай літаратуры.

**А. М.**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Вечарына ў гонар Кавалёва

Спаўнілася 85 год з дня нараджэння вядомага паэта Дзмітрыя Кавалёва — аўтара 30 зборнікаў, які нарадзіўся ў Ветцы і доўгі час жыў у Маскве. З нагоды юбілею ў Ветцы адбылася памятная вечарына. Пра славутага земляка, яго творчасць расказваў старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Васіль Ткачоў. Была арганізавана экспазіцыя кніг паэта, дакументаў, звязаных з ягоным жыццём і творчасцю.

## Свята юнацтва

Манумент Дружбы народаў на мяжы трох краін — Беларусі, Расіі і Украіны — стаў сімвалам славянскага адзінства. Днямі моладзь трох братніх народаў сабралася тут на свята. На імправізаваных сцэнах выступалі самадзейныя калектывы з Гомеля, Бранска, Чарнігава.

## Грані творчасці

Жывапісец і графік Генадзь Говар, які стварыў цыкл карцін пра старажытныя гарады вобласці, афарміў экспазіцыю вядомых музеяў, у апошнія гады заняўся літаратурай: выдаў зборнік вершаў "Мае апаленыя крылы". Днямі адкрылася персанальная выстава мастака. Сярод работ — партрэты беларускіх пісьменнікаў, цыкл новых графічных работ "Дваццаць стагоддзяў" пра адметныя перыяды сусветнай гісторыі і слынных асоб, якія стваралі зямную цывілізацыю.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## За два дні да "Славянскага базару"...

З трэцяга ліпеня ў горадзе над Дзвіной распачне сваё шэсцце 9-ы міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". На працягу месяца ўсе мясцовыя газеты друкавалі цэлыя палосы з праграмай фестывалю, якая па традыцыі здзіўляе сваёй разнастайнасцю. У летнім амфітэатры, дзе хуткімі тэмпамі завяршаецца рэканструкцыя, відовішча пачнецца гала-канцэртам дзіцячых мастацкіх калектываў з 16 краін свету. Акрамя ўдзельнікаў конкурсу — маладых выканаўцаў эстраднай песні, канцэртаў майстроў мастацтваў Беларусі і Украіны, на сцэну выйдуць і зоркі расійскага балета. З асобнай праграмай "Пакуль я помню, я жыву" выступіць Мікалай Скорыкаў і Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга. З сольнымі канцэртамі прыедуць у Віцебск А. Пугачова, І. Нікалаеў, А. Газманаў, М. Баскаў. Эксклюзівам для "Славянскага базару" стануць "Тэатральныя сустрэчы-2000". На сцэне драмтэатра імя Якуба Коласа будуць іграць М. Няёлава, М. Карачанцаў, Л. Палішчук, Б. Шчарбакоў. Гледачы пабачаць п'есы "Старасвецкія паны" паводле М. Гогаля, "Двое на арэлях" У. Ібсена, "Спакуса" А. Нікалаі, "Мілы лжэц" Д. Кілці. Коласаўцы ж пакажуць спектакль "Прамы вагон на Парыж з усімі перасадкамі".

Як заўсёды, "Славянскі базар" выйдзе з асобнымі праграмамі на плошчы і вуліцы старажытнага горада; пройдуць і міжнародныя шагалаўскія дні.

**Святлана ГУК**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Ушанаванне спевака

Славуты беларускі тэнар, які спяваў нацыянальныя народныя песні ў многіх тэатрах Еўропы, Міхась Забэйда-Суміцкі пакрысе вяртаецца на радзіму. У Пружанах прайшло раённае свята з нагоды 100-гадовага юбілею спевака. Пра ягоны жыццёвы і творчы шлях расказвала багатая кніжная выстава, яму былі прысвечаны літаратурна-музычная кампазіцыя (гучаў у запісе і голас самога Забэйды-Суміцкага), канцэрт самадзейных артыстаў школы мастацтваў імя Р. Шырмы і гарадскога Дома культуры. Бадай, самай яркай часткай імпрэзы было выступленне стрыечных пляменнікаў спевака — Валянціны Слабады і Васіля Вераб'я, таленавітых выканаўцаў песень, музыкаў, кампазітараў-аматараў. Чаго не паспелі арганізатары свята, дык гэта адкрыць мемарыяльны знак у вёсцы Шэйпічы на радзіме славутага земляка. Аднак няўвязкі ліквідоўваюцца, і ўрачыстае адкрыццё знака неўзабаве адбудзецца.

## Медыкі любяць паэзію

Нягледзячы на гарачы час сесіі і дзяржэкзаменаў, у Брэсцкім медвучылішчы прайшла сустрэча навучэнцаў і выкладчыкаў з літаратарамі-землякамі Зінаідай Дудзюк, Алесем Каско, Аляксеем Філатавым. Такія сустрэчы тут сталі традыцыйнымі, бо ў вучылішчы здаўна склаўся свой творчы асяродак. Вось і на гэты раз уласныя паэтычныя творы чыталі будучыя медыкі Вольга Братчук, Таццяна Вабішэвіч і Таццяна Чумак. Усе яны — выхаванкі настаўніка беларускай мовы і літаратуры Івана Мікалаевіча Нягерыша, які таксама піша вершы.

## Гісторыя ў акварэлях

Выставачная зала Музея выратаваных каштоўнасцяў у гэтыя дні аддадзена пад творы вядомага акварэліста Аркадзя Дзеніхевіча, якому споўнілася 60. Экспазіцыя адкрылася пад назвай "Наша спадчына" і складаецца са шматлікіх карцін і замалёвак, прысвечаных гістарычным мясцінам і помнікам архітэктуры Берасцейшчыны. Маляўніча і велічна паўстае з іх Косаўскі замак-палац, Чарнаўчыцкі касцёл, цэлы шэраг праваслаўных храмаў, старыя вулачкі абласнога цэнтра... Выстава збірае нямала наведвальнікаў. І гэта сведчыць пра цікавасць жыхароў горада як да творчасці мастака, так і да гістарычнай спадчыны краю.

**Сымон АКСЕНІН**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Капэла запісала дыск

Летась Магілёўская гарадская капэла пад кіраўніцтвам Сяргея Лешчанкі выступала ў Германіі. Творы Рахманінава, Гендэля, Баха і Чайкоўскага, а таксама народныя спевы настолькі спадабаліся немцам, што яны прапанавалі запісаць калектыву кампакт-дыск. І вось 22 чэрвеня ў гарадскім Цэнтры культуры і вольнага часу адбылася яго прэзентацыя.

## 35 год на сцэне

Нядаўна ў Бабруйскім тэатры драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча прайшла творчая вечарына, прысвечаная юбілею вядомай у горадзе актрысы Жанэты Зарэмбы. Юбілярка, якая аддала 35 год сцэне, прымала віншаванні, падарункі і кветкі. Былі паказаны фрагменты спектакляў з удзелам актрысы. Дарэчы, яе юбілей супаў з закрыццём 30-га тэатральнага сезона.

## Конкурс маладзёжнай песні

У Бялынічах адбыўся восьмы абласны конкурс ваенна-патрыятычнай і маладзёжнай песні імя Героя Савецкага Саюза Леаніда Лорчанкі. У конкурсе ўдзельнічала каля 200 выканаўцаў. А завяршыўся ён вялікім гала-канцэртам.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## Прысутнасць Міколы Касяровіча



**Вялікі беларускі краязнаўца Мікола Касяровіч нарадзіўся ў вёсцы Ізабалёва ў 1900 годзе. Сёння Ізабалёва ўшчыльную падышла, злілася з вёскай Чырвоны Кастрычнік (цэнтральная сядзіба калгаса "Кастрычнік" Пухавіцкага раёна). І школа сёння — базавая, дзевяцігодка — знаходзіцца ў Чырвоным Кастрычніку, фактычна на памежжы, судакрананні Пухавіцкага, Асіповіцкага, Чэрвеньскага раёнаў. А як па-ранейшаму — у Ігуменскім павеце.**

**— Вось і прынялі рашэнне пухаўчане, — сведчыць намеснік старшыні Пухавіцкага райвыканкама Тамара Шчэкоціна, — мемарыяльную дошку ў гонар Міколы Касяровіча адкрыць менавіта ў Чырвоным Кастрычніку.**

**А адкрыццю дошкі папярэднічалі імправізаваныя Касяровічаўскія краязнаўчыя чытанні ў Пухавіцкім раённым музеі (у вёсцы Блонь). Кіраваў іх работай намеснік дырэктара Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан. А сваімі разважаннямі пра жыццёвы і творчы лёс Міколы Касяровіча падзяліліся Аляксандр Мікалаевіч Касяровіч — сын вялікага даследчыка, доктар тэхнічных навук (Новасібірск), Вітаўт Кіпель (ЗША), доктар філалагічных навук, кандыдат гістарычных навук Аляксей Каўка (Масква), а таксама вучоныя, архівісты, пісьменнікі з Мінска — Ганна Запартыка, Навум Гальпяровіч, Аляксандра Гесь, Таццяна Кекелева, Алесь Карлюкевіч.**

**Алесь ГЛУШКА.**

*На здымку: настаўнікі і вучні Чырвонакастрычніцкай базавай школы сустракаюць сына краязнаўца — Аляксандра Мікалаевіча Касяровіча.*

## У вянок памяці

**17 чэрвеня ў Паставах адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Дубоўкі. Урачыстасць праходзіла ў межах V Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". А наогул ушанаванне памяці выдатнага земляка пачыналася задоўга да гэтага дня. Яшчэ напрыканцы ліпеня 1996 года ў вёсцы Агароднікі, дзе нарадзіўся пісьменнік, намаганнямі паэта Ігара Пракаповіча быў арганізаваны семінар "Даўжанскія вечары". Тады літаратары з Мінска, Глыбокага, Пастаў на працягу трох дзён ладзілі літаратурныя гутаркі, абмяркоўвалі творы пачаткоўцаў, вандравалі па родных мясцінах У. Дубоўкі, сустракаліся з ягонымі землякамі.**

**Цэнтрам сёлетніх юбілейных урачыстасцяў сталі два мерапрыемствы: літаратурна-музычнае свята і адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку дзіцячай бібліятэкі, якая з гэтага дня будзе насіць імя Уладзіміра Дубоўкі. Ладзіў іх аддзел культуры Пастаўскага райвыканкама. На спатканне з пастаўчанамі прыйшлі пісьменнікі, артысты, музыказнаўцы. Уражаннямі ад сустрэч са знакамітым сваяком падзяліўся пляменнік паэта Усевалад Дубоўка. Гучалі вершы, песні, згадваўся трагічны лёс паэта, амаль на трыццаць гадоў беспадстаўна пакаранага зняволеннем у сталінскія часы.**

**Першае мерапрыемства ў нованазванай бібліятэцы таксама адбылося ў гэты ж дзень. Ім стала прэзентацыя літаратурнага альманаха "Дзвіна", што нядаўна пабачыў свет у Віцебску. З цікавымі развагамі пра літаратуру і новымі творамі выступілі перад прысутнымі аўтары выдання Алесь Жыгуноў, Ігар Пракаповіч, Аркадзь Нафрановіч, Ніна Захарэвіч, госць з Мінска Янусь Малец, маладая паэтка Аксана Марозава.**

**"О Беларусь, мая шыпшына,**
**Зялёны ліст, чырвоны цвет..." — пісаў пра айчыну У. Дубоўка. Пры жыцці ён зведаў і выключную папулярнасць, і нечалавечыя выпрабаванні. Ды час усё расставіў на свае месцы, няветлая да справы нацыянальнага адраджэння радзіма павярнулася ўрэшце да паэта "цветам" і "лістом".**

**Свята атрымалася. Увасобленая ў мемарыяльнай дошцы на будынку бібліятэкі памяць пра выдатнага паэта і чалавека паспрыяе высакароднай ідэі служэння Бацькаўшчыне.**

**Франц СІЎКО**

ТВОРЦЫ

# Набыткі Уладзіміра Капшая

Уладзіміру Капшаю споўнілася шэсцьдзесят год. Імя Капшая добра вядома не толькі музейным супрацоўнікам. Кола мастакоў, якія сапраўды прафесійна і з душою ствараць вартыя ўвагі музейныя экспазіцыі, на Беларусі вельмі абмежаванае. І таму, што расцэнкі на гэта далёкія ад адпаведных, але і праца назвычай карпатлівая і марудная. Музей народнай творчасці ў вёсцы Моталь Іванаўскага раёна Капшай завяршыў у 1995 годзе, але перад гэтым былі шэсць год працы па зборы матэрыялаў і падрыхтоўцы трохпавярховага памяшкання. Былі праблемы і пры стварэнні музея А. Міцкевіча ў Завоссі (1998 г.). Год прысвяціў мастак не толькі самому праекту экспазіцыі, але пошуку спецыялістаў, якія б здолелі зрабіць мэблю пры максімальным захаванні старажытнай тэхналогіі. З захапленнем згадвае мастак і працу над экспазіцыяй музея старажытна-беларускай культуры ў Інстытуце мастацтвазнаўства Акадэміі навук Беларусі. З асаблівай цеплынёй распавядае пра Юрыя Хадыку, які дапамагаў у тыя гады складаць і ўсталёўваць экспазіцыю. У гэтым музеі ўпершыню па прапанове Капшая зрабілі сістэму "адкрытых" фондаў, якім зайздросцілі нават спецыялісты з музея Маскоўскага Крамля. Перадусім на рахунку Уладзіміра Капшая музей Янкі Купалы ў Вязынцы, музей беларуска-польскай баявой садружнасці ў пасёлку Леніна, музей гісторыі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, які цяпер не працуе і будынак якога аддадзены царкве, музей прыроды Беларусі.

Пра сваю музейную працу Уладзімір Капшай распавядае з захапленнем як сапраўдны энтузіяст гэтай справы. "Перад непасрэдным працэсам стварэння экспазіцыі мне даводзіцца вывучаць усе існуючыя матэрыялы, што датычаць тэматыкі будучага музея, — распавядае мастак. — Толькі пасля я распрацоўваю канцэпцыю. Так, напрыклад, пры стварэнні музея Міцкевічу ў Завоссі мне давялося па старых гравюрах, па апісаннях сучаснікаў аднаўляць інтэр'еры шляхецкага маёнтка. Дарэчы, палякі, якія наведвалі гэты музей пасля яго адкрыцця, падкрэслівалі менавіта дакладнасць тагачаснай атмасферы і адпаведнасць рэчаў у інтэр'еры. І гэта пры тым, што на Беларусі амаль не захавалася сапраўднай мэблі таго часу... Найбольш папрацаваць давялося ў Мотальскім музеі, дзе складанасці ўзніклі не толькі са зборам калекцыі, але і з навучаннем музейнай справе будучых супрацоўнікаў. Бо ўсе яны — вясковыя дзяўчаты, і сакрэтаў стварэння і захавання музейных фондаў не ведалі. Была ў мяне ідэя і павялічыць плошчу музея старажытна-беларускай культуры за кошт прыбудовы ў межах унутранага дворыка. Зрабіць гэта было б нескладана і вельмі танна, а музей атрымаў бы дадатковыя залы, якіх яму так не хапае. На жаль, справа гэта пакуль так і стаць на месцы". Захоўваюцца ў майстэрні Капшая шпалеры, якія ён распрацаваў для музея Марка Шагала ў Віцебску. Цікавы яны тым, што сапраўдных шпалераў таго часу нідзе не захавалася і мастак вышукаў прыклады ўзораў на палотнах віцебскіх мастакоў, сучаснікаў Шагала. І сапраўды, гэтыя шпалеры ў пакоях музея Шагала адразу стварылі каларыт тагачаснай кватэры. Уладзімір Капшай прызнаўся, што фабрыка прапаноўвала яму зрабіць тыраж такіх шпалераў "а-ля Шагал", але мастак вырашыў захаваць іх у адным музейным экземпляры. "Музей — гэта адказнасць, а не паўфабрыкат маіх фантазій. Шкада толькі, што ў нашай краіне мы не маем сапраўдных тэхналогій стварэння музейных экспазіцый і захавання музейных фондаў. Але гэта, зрэшты, не перашкода, каб займацца музейнай справай".

Але ёсць яшчэ адна іпастась асобы Уладзіміра Капшая. Яго невялікая майстэрня ўражвае колькасцю жывапісных твораў. Да свайго юбілею Уладзімір Капшай адкрыў у Нацыянальнай мастацкай галерэі выставу жывапісных твораў. Алейныя палотны мастака невялікія па памеры, някідкія і больш выразна глядзяцца нават не ў вялікіх экспазіцыйных залах, а ў камерным памяшканні майстэрні. Уладзімір Міхайлавіч піша краявіды шчырыя, замілаваныя. Яны не здзіўляюць кіпеннем фарбаў, але зачароўваюць непасрэднасцю, імгненнасцю прыроднага настрою, жывымі і буйнымі мазкамі. "Захад на Ясельдзе", "Краснагорскі ўзгорак", "Цішыня", цыклы, прысвечаныя Нарачы, Браслаўшчыне, дзе мастак набыў сабе хату і стаў сталым госцем, мотальскія краявіды, кубанскія мясціны... Усё гэта напісана хутка, заўжды з абавязковымі пленэрнымі выездамі на прыроду.



Ну а наперадзе ў мастака — новая ідэя. Цяпер ужо музея Напалеону Ордзе ў вёсцы Варацэвічы Іванаўскага раёна, дзе аддзел культуры райвыканкама плануе для гэтай справы знайсці грошы. І думаецца, Уладзімір Капшай якраз той чалавек, які здолее на базе былой школы-інтэрната стварыць маёнтак з садам і сажалкай, музей, мастацкую галерэю, гатэль і базу для міжнародных пленэраў.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

ПОШТА

# Давайце вось так хваляваццa!

Можна зразумець Васіля Аўраменку ("Паэзія супраць песні", "ЛіМ" за 2.06.2000 г.), якому не вельмі спадабаліся словы Навума Гальпяровіча наконт бяздарных паэтаў-песеннікаў ("Адлюстраванні", "ЛіМ" за 7.04.2000 г.). Але Н. Гальпяровіч мае рацыю, калі так гаворыць, бо галоўная аснова с а п р а ў д н а й песні — словы. Прычым, гэта павінен быць не так званы т э к с т, а менавіта в е р ш. І верш гэты абавязкова павінен быць п е с е н н ы м. Песеннасць верша — у той, толькі яму, гэтаму вершу, уласцівай мелодыі, якая аўтаматычна закладаецца паэтам у момант стварэння гэтага твора. І менавіта гэтая мелодыя прыцягвае да сябе ўвагу кампазітара, які яе чуе і запісвае нотамі. Тут галоўнае — настроіцца і пачуць. Па вялікім рахунку, музыканты, якія ствараюць песні, паклаўшы перад сабой вершы, не могуць называцца кампазітарамі. Яны — р а с ш ы ф р о ў ш ч ы к і. І калі расшыфроўка паэтычнай мелодыі бывае ўдалай, то і адбываецца з'ява пад назвай "песня". Сапраўдная песня вызначаецца непарушнасцю сувязі слоў і мелодыі, — калі, як гаворыцца, не ўбавіць, не прыбавіць.

Зразумела, што выканаўца песні — важны момант. Але хто ўспомніць першага выканаўцу "Падмаскоўных вечароў" ці "Ручнікоў"? А песні гэтыя спяваюцца і будуць спявацца, прычым на "вышэйшым" узроўні — за святочным сталом.

Што тычыцца аранжыроўкі, то, магчыма, яна і ўпрыгожвае народжаную песню, але ў большасці выпадкаў усе аранжыровачныя "навароты" ствараюцца дзеля таго, каб адцягнуць увагу слухача ад пустаты верша і такой жа пустой мелодыі. У гэтых жа мэтах існуюць розныя сцэнічныя эфекты, падтанцоўкі, грудастыя бэк-вакалісткі з прыгожымі нагамі і гэтак далей. У гэтай сувязі ўспамінаецца апошняя канцэртная праграма Алы Пугачовай, дзе не было аніякіх эфектаў, дзе толькі адзін прамень пражэктара высвечваў апранутую ў сціплае цёмнае адзенне спявачку. Тут нічога не перашкаджала асноўнаму: данесці да слухача с л о в а, непарушна з'яднанае з мелодыяй.

Не магу згадзіцца з В. Аўраменкам у тым, што менавіта рытм уводзіць слухача ў стан медытацыі і "спрыяе сінхранізацыі нейрапсіхалагічных працэсаў". Зразумела, нельга адкідваць рытм у гэтай справе, але калі гэта сапраўдная песня, то на першым месцы тут зноўку словы ў спалучэнні з мелодыяй. Прыглядзьцеся да слухачоў, асабліва рок-канцэртаў: здаецца, вось дзе прастор для рытму, але ж прысутныя с п я в а ю ц ь разам з выканаўцамі. І атрымліваюць ад гэтага тое, дзеля чаго яны сюды прыйшлі. Сапраўды, такія м а с а в ы я мерапрыемствы больш падобныя на агульныя малітвы. І вельмі добра, калі выканаўцы праз свае песні нясуць светлы пачатак і дапамагаюць слухачу, асабліва маладому, выплюхнуць свае энергію і эмоцыі ў напрамку ўзнёсласці і добразычлівасці. Гэта на самай справе псіхатэрапеўты, і вельмі важна, калі гэтыя тэхналогіі ўздзеяння на масавую свядомасць (і падсвядомасць) знаходзяцца ў надзейных руках.

Не згодны я і з пазіцыяй В. Аўраменкі наконт таго, што сучаснай песні неабавязкова мець складаны сюжэт і шматвобразнасць. Усё гэта ў песні павінна прысутнічаць, але ў ёмкім, лаканічным выглядзе. Гэта вельмі складана, гэтага цяжка дабіцца, але калі гэта атрымліваецца, то ты слухаеш зробленае і — аж мурашкі па спіне. Я заўсёды прыгадваю верш Генадзя Бураўкіна "Я разумею...", мелодыю якога я меў гонар пачуць і зрабіць песню. Там ёсць такія радкі:

***Я разумею, разумею —***
***Нашто аб гэтым варажыць?***
***Але жыццё ўсё меней, меней***
***Да мне адведзенай мяжы.***

***Як ні жартуй, як ні храбрыся,***
***Не абмінеш зямны статут.***
***І там, за тою страшнай рысай***
***Сяброў ужо не менш, чым тут.***

Гэта ж сапраўдны Сусвет! Некалькі сціплых радкоў — а які абвал пачуццяў, думак, філасофскіх разважанняў. Вось гэта і ёсць вышэйшы песенны пілатаж. І спявачка Нэлі Багуслаўская, на мой погляд, паклала сэрца ў выкананне гэтай песні, прычым абышлася без яркай вакальнай каларытуры і ўсялякіх упрыгожванняў.

Канешне, гэтую песню не заспяваеш на свяце — гэта для душы. Але ж у мяне ёсць і другая песня — "Браток-сусед" на верш Кастуся Цыбульскага. Там такія радкі:

***Гэй, сусед, стаў на стол,***
***што у хаце маеш,***
***Калі любіш мяне, калі паважаеш!***
***Гэй, сусед, будзь здароў! Хай жыве спакуса***
***Выпіць, брат, за сяброў ды за беларусаў!***
***Вып'ем, брат, за сяброў ды за беларусаў!***

Калі я выконваю гэту песню ў сваіх канцэртах, то я вельмі добра адчуваю і проста бачу, як у маіх слухачоў выпростваюцца плечы і вышэй узнімаюцца галовы. Праз вось гэтыя вельмі простыя словы я стукаюся да б е л а р у с к а с ц і маіх слухачоў, і недзе там, у глыбінях іх падсвядомасці, адбываецца нейкі пэўны станоўчы працэс. І людзі гэтыя пачынаюць адчуваць, што яны б е л а р у с ы, якія вартыя таго, каб за іх падняць келіх і пажадаць ім усяго самага добрага. Здаецца, што сам Мікалай Скорыкаў, які першы выканаў гэту песню і выказванне якога нагадаў у сваіх "Адлюстраваннях" Н. Гальпяровіч, пакуль што, на жаль, не вельмі зразумеў, што "Браток-сусед" — гэта нешта крыху большае, чым проста песня.

Не веру я і ў словы В. Аўраменкі, што паэзія — жанр высокі, элітарны і па гэтай прычыне не вельмі зразумелы для шырокіх народных мас. Калі гэта паэзія не "завумная", не паэзія дзеля паэзіі, а нешта сапраўды хвалюючае і — галоўнае! меладычнае, то абавязкова словы гэтыя загучаць і паляцяць у свет у пэўнай музычнай афарбоўцы. І людзі будуць мець магчымасць слухаць н а р м а л ь н у ю беларускую мову, а не той сурагат, які амаль штодзённа выліваецца нам на галовы з радыё- і тэлеэфіру і які сілкуе пагардлівыя адносіны беларускага народа да сваёй роднай мовы. Часта ўспамінаю юбілейную вечарыну Навума Гальпяровіча, дзе мне давялося спяваць свае рамансы на яго вершы. У кожным рамансе ўсяго па дванаццаць радкоў, але там закончаная думка, акрэсленае пачуццё, высокая паэтычная ўзнёсласць. Да мяне потым падыходзілі вельмі здзіўленыя слухачы і гаварылі, што нават і не ўяўлялі, што словы могуць т а к пераплятацца з мелодыяй. А тут нічога дзіўнага няма: гэта мелодыя менавіта Н. Гальпяровіча, ён яе заспяваў, а я гэты цуд проста "падслухаў" і паклаў на нотны аркуш. Магу пацвердзіць (спецыяльна для В. Аўраменкі): Навум Гальпяровіч не сядзіць у "вежы са слановай косткі", ён сапраўдны паэт-песеннік, нягледзячы на тое, што піша ён даволі складаныя вершы. І ён мае права выказваць свае аўтарытэтныя меркаванні наконт усяго таго, што звязана з такім паняццем, як "песня".

Вельмі добра, што ўзнікла такая дыскусія, што выказваюцца розныя меркаванні — значыць, гэта хвалюе. А такое хваляванне — адзін з элементаў развіцця нашай культуры. Давайце ж і надалей вось так хвалявацца!

**Мікола ЯЦКОЎ**

**_Беларускі універсітэт культуры рыхтуецца да 25-годдзя. Гэта — самы плённы творчы ўзрост. Дый ці пагражае бездапаможная састарэласць установе, якая з першых дзён узнікнення свайго займаецца самым каштоўным, што ёсць у беларуса, — культурнай спадчынай. Мова, абрады, звычаі, традыцыі — ацаляюць, гаючай вадой са старажытных радаводных крыніц наталяюць смагу па беларушчыне, кроўнай повяззю аб'яднoўваюць тых, хто насуперак усяму жадае быць неад'емнай часткай Бацькаўшчыны, каму баліць ад паўсюднай бязроднасці, абыякавасці і "талерантнасці"._**

**_Універсітэт адзначае народзіны. За святочным сталом — культура наша і мастацтва. Як доказ таму, што не перарваўся ланцуг пераемнасці, што тое, святое і непадманнае, з чаго пачынаўся колісь беларус, — жыло, жыве і будзе жыць. Будзе натхняць і радаваць, мацаваць і абнадзейваць, уліваць новую бурлівую кроў у жылы ўнукаў нашых і праўнукаў..._**

**_На пытанні нашага карэспандэнта адказвае рэктар Беларускага універсітэта культуры Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ._**

# "Я проста выконваю свае абавязкі"

**— Ядвіга Дамінікаўна, з чаго ўсё пачыналася? Як інстытут з цягам часу здолеў узняцца на універсітэцкую прыступку?**

— Пачыналася ўсё з саўмінаўскай пастановы, у адпаведнасці з якой 1 верасня 1975 года адкрыўся Мінскі інстытут культуры. А заснаваны ён быў на базе бібліятэчнага факультэта пецінстытута і факультэта культурна-асветніцкай работы Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Стварэнне ўстановы, якая займаецца асветніцкай дзейнасцю ў галіне культуры, мастацтва, бібліятэчна-інфармацыйнай справы, вывучэннем і фіксацыяй беларускага фальклору, было разумным і своечасовым. Краіне былі неабходны такія спецыялісты. Адсюль і "эвалюцыйны" прагрэс у развіцці інстытута. У верасні 93-га пераўтварыліся ва універсітэт. А летась набылі статус вядучай ВНУ ў нацыянальнай сістэме адукацыі ў сферы культуры. Статус гэты маюць толькі БДУ, педагагічны і эканамічны універсітэты, політэхнічная і сельскагаспадарчая акадэміі. Статус вядучай вышэйшай навучальнай установы дазволіў нам значна паправіць матэрыяльнае становішча выкладчыкаў, аспірантаў, магістрантаў, студэнтаў, атрымаць шматлікія акадэмічныя свабоды...

**— Па дні народзінаў вы — "вераснёўскія". Але шэраг святочных мерапрыемстваў (падвядзенне вынікаў навуковай працы на дзвюх міжнародных канферэнцыях, урачыстае пасяджэнне вучонай рады, гала-канцэрт творчых калектываў універсітэта) адбудзецца ў траўні...**

— Верасень — для вучобы. Май (пэрдадзень лета, завяршэнне навучальнага года) — для святкаванняў. Дый не забывайце, што наш універсітэт — незвычайны. Нават у самыя напружаныя дні сесій акадэмічнай цішы ў калідорах і аўдыторыях не бывае. Спектаклі, спевы, танцы. Так што па вялікім рахунку ў нас кожны дзень — свята... А калі сур'ёзна — у верасні мы не змаглі б у поўнай меры паказаць на канцэрце нашы вялікія калектывы — сімфанічны, народны, духавы аркестры, хоры, танцавальныя калектывы. А напрыканцы навучальнага года яны ў выдатнай форме.

**— У чым асноўная мэта навуковай універсітэцкай дзейнасці?**

— У вывучэнні, фіксацыі, аднаўленні і перадачы наступным пакаленням беларускага традыцыйнага мастацтва, фальклору, нацыянальнай культурнай спадчыны; у даследаванні сучасных тэндэнцый развіцця культурных працэсаў і прагнозе іх далейшага руху.

**— І якімі сіламі, Ядвіга Дамінікаўна, працуеце на гэтую мэту?**

— 25 кафедраў, звыш 300 выкладчыкаў плюс сумяшчальнікі. 18 прафесараў, 13 дактароў навук, 6 акадэмікаў, 10 заслужаных работнікаў і дзеячаў культуры, мастацтва і адукацыі. Звыш чатырох тысяч студэнтаў дзённай і завочнай формы навучання, 12 спецыяльнасцяў, 43 спецыялізацыі. Магістратура, аспірантура і дактарантура. Агульныя адукацыйныя комплексы са сталічнай гімназіяй-каледжам N 24, Магілёўскім бібліятэчным тэхнікумам. Філіял завочнага факультэта ў Мазырскай музычнай вучэльні. Падрыхтоўка культуролагаў, драматургаў, сацыяльных педагогаў, рэжысёраў народных абрадаў і свят, арганізатараў народнай творчасці, артыстаў эстрады, кіраўнікоў мастацкіх калектываў, музейшчыкаў, бібліятэказнаўцаў, арганізатараў вольнага часу... Словам, сілы немалыя.



**— Будзем лічыць, што "ўводна-статыстычная" частка гаворкі завершана. Чытач ужо ведае, чаго, колькі і навошта ў Беларускім універсітэце культуры. Давайце зараз пра рэчы разумовыя, а таму досыць абстрактныя... Адзін з адмоўных герояў (не памятаю хто) зазначыў, што пры слове "культура" ягоная рука цягнецца да зброі. Зрэшты, для нашых сённяшніх палітыка-дзяржаўных рэалій не такі ўжо і адмоўны герой... Што ўзгадваеце вы, калі чуеце слова "культура"?**

— Перш-наперш успамінаю сваіх студэнтаў. Іх прыгожыя светлыя твары, высокі інтэлект, прафесійныя ўменні. Адкрытасць і цягу да ведаў, жаданне займацца сваёй прафесіяй і працаваць на Беларусь.

**— А калі канкрэтней, якія яны — сённяшнія студэнты БУКа?**

— У параўнанні з нашым пакаленнем студэнты больш разумныя, развітыя, больш свабодныя і адукаваныя. Ведаюць свае абавязкі, але ў большай ступені — свае правы. Актыўныя і прагматычныя, імкнуцца ўжо з малодшых курсаў працаваць і да чацвёртага маюць дадатковы заробак. Але гэта не толькі імкненне да самасцвярджэння, колькі неабходнасць выжыць: маленькая ў 5-8 тысяч стыпендыя вымагае шукаць шляхі выжывання. Дрэнна харчуюцца, не ўжываюць вітамінаў, адмаўляюць сабе ў мясных стравах. Звычайны абед у сталоўцы: салацік, першае, чай з булачкай. Лягчэй трохі тым, чые бацькі на вёсцы: больш дапамагаюць натуральнымі прадуктамі, ды й вясковыя дзеці лепш прыстасоўваюцца да сацыяльных цяжкасцей, мабільна і адэкватна рэагуюць на змены, накіравана ідуць да мэты, знаходзяць карацейшы шлях.

**— Відаць, невыпадкова першая буйная навучальная ўстанова на Беларусі — Інбелкульт. Увогуле для беларуса слова "культура" — ледзь не культавае і адначасова недасягальнае ў рэальным асэнсаванні. Колькі ні існуе, столькі ж амаль безвынікова сябе адраджае. На самых высокіх дзяржаўных узроўнях не спыняецца гаворка пра "адраджэнне і захаванне нацыянальнай самабытнасці". А нясвіжскі палац развальваецца, а мастакі, артысты і пісьменнікі бядуюць ад няшчымніцы... Слова "культура" так і застаецца словам? Дык мо наспеў час беларускай "культурнай рэвалюцыі"?**

— Само спалучэнне "культурная рэвалюцыя" не мае права на існаванне. Культура як сукупнасць не толькі матэрыяльных, але і духоўных каштоўнасцей пэўнай чалавечай супольнасці ці аднаго чалавека — ёсць паступовае вырошчванне сусветнай дабрыні, сусветнай інтэлектуальнасці, маральнасці, духоўнасці. Культура не спалучальная ні з якімі карэннымі ломкамі і сацыяльнымі катаклізмамі, бо якраз яны і разбураюць культуру. Яе робіць народ, людзі, і не ў сілах чыноўнік, няхай і высокага дзяржаўнага ўзроўню, неяк істотна паўздзейнічаць на культурнае развіццё дзяржавы, ці спыніць яго. Так, замаруджваць крыху можа па прычыне неадукаванасці ды неабачлівасці. Не больш таго. Але культура заўжды вышэй за палітыку, лёсамі яе ў рэшце рэшт кіруюць не начальнікі, а ўсе мы — носьбіты культурных традыцый, жыхары нашай краіны: і тыя вясковыя бабулькі, якія збіраюцца на вячоркі, каб паспяваць для душы і самарэалізавацца ў песні, і студэнты, якія занатоўваюць і вывучаюць духоўныя здабыткі роднага слова, песні, танца, а значыць — захоўваюць любоў да сапраўднай Бацькаўшчыны. Гэта і рабочыя з высокай культурай працы, і выдатна гатуючыя стравы гаспадыні, і пішучыя законы юрысты, і разумныя гаспадарнікі. Важна зразумець, што творца культуры — кожны з нас, бо нашы дзеці возьмуць ад нас і перададуць наступным пакаленням нашы традыцыі, звычкі, стыль жыцця, інтэлектуальныя і духоўныя дасягненні. А гэта і ёсць культура нашага народа. Вось гляньце, над маім сталом "павучок" саламяны да столі прымацаваны. Іх плятуць нашы студэнты. Калісьці такія "павучкі" вешалі над дзіцячымі калыскамі, каб нячыстую сілу і ўсё дрэннае адагнаць ад дзіцяці. Кажуць, што сапраўды пад такім "засцерагальнікам" нейкае адмысловае спрыяльнае поле. А адзеньце саламяны капялюшык у гарачыню замест штучнага — і сонца не пячэ, і дождж не прабівае, і як вынік — галава не баліць, стомленасць неадчуваеш. Вось і эмблема нашага універсітэта — саламяная птушка шчасця.

**— А што канкрэтна робіць універсітэт для таго, каб птушка гэтая не была на Беларусі выпадковай ды палахлівай госцяй?**

— Я ўжо казала, што вывучэнне, фіксацыя і трансляцыя нацыянальнай культуры з'яўляецца прыярытэтам дзейнасці нашага універсітэта. На жаль, яна яшчэ кепска вывучана і губляецца з кожным днём. І занатаваць яе, спыніць разбурэнне, захаваць, зафіксаваць яе тыповыя праявы — пачэсная і годная справа. Я маю на ўвазе і старадаўнія язычніцкія песні і звычаі, абрады беларусаў і традыцыйныя рамёствы, і беларускі танец, сапраўднае ўяўленне аб якім проста адсутнічае. Наша лабараторыя танцавальнай творчасці, якая вядзе запіс танцаў ад непасрэдных носьбітаў, толькі полек на Беларусі зафіксавала звыш сотні. І якія полькі! Адноўлена тэхналогія шматлікіх беларускіх промыслаў. Распрацоўваюцца па старадаўніх апісаннях і ствараюцца беларускія духавыя інструменты. Адпаведныя універсітэцкія лабараторыі аднавілі звыш 30 народных інструментаў, традыцыі вырабу якіх былі згублены. Створаны ансамблі акарын, жалеек, драўляных труб, дудароў. Наспела ўжо неабходнасць адкрыцця новай спецыялізацыі — "традыцыйная культура беларусаў". Да гэтага мы рыхтуемся ўжо год. Фіксавацца будуць не толькі абрады, святы, мастацкія здабыткі, але і тэхналогія прыгатавання нацыянальных страў, хатнія традыцыі, звычаі, традыцыйныя рамёствы беларусаў...

**— А адкуль вы родам?**

— З Бабруйшчыны. Вёска мая Даманоў — на правым беразе Бярэзіны. Дом — высока над ракой. Магутнай, вялікай, да ста метраў шырынёй, павольнай, велічнай... Беларусы — людзі прыроды, частка яе неадрыўная. Хто з лесу, хто з ракі, хто з поля. Я — з ракі. У дзяцінстве менавіта па ёй мералі рух жыцця. Стала Бярэзіна — зіма прыйшла. Уночы выбухнула крыгаходам — вясна. Таму і мастацтва наша такое самабытнае і жыццядзольнае...

**— Ядвіга Дамінікаўна, а як вам смак рэктарскай улады?**

— Не ва ўладзе справа. Я проста імкнуся якасна выконваць сваю работу. Мне здаецца, калі чалавек мэтамі сваёй дзейнасці адпавядае руху ракі пад назвай Час, робіць важную для людзей справу, лёс дапамагае яму і аддзячвае працоўным шчасцем і ўдачамі. Можа быць, мая дзейнасць гэтыя гады была патрэбна універсітэту. Я спадзяюся на гэта.

**— Хтосьці напрарочыў, што прэзідэнтам Беларусі абавязкова будзе калісьці жанчына... Вы феміністка?**

— Якраз наадварот. У традыцыі беларусаў — гарманічнае спалучэнне роляў і абавязкаў мужчыны і жанчыны. Але ж, заўважце, мужчына быў заўсёды галавой, асновай і абаронцам сям'і. Ён быў настолькі моцным у сваім сацыяльным і дзяржаўным статусе, што прадстаўляў жанчыне прava думаць, што яна шыя пры галаве: куды захачу, туды і павярну. Хоць гэта, канешне, было не так. Дарэчы, ніколі не прыніжаў сябе да падняцці рукі на жонку. Ён быў занадта моцным для гэтага і ўпэўненым у сабе. Нялішне ўспомніць, што мы — нашчадкі вялікага Вітаўта і Скарыны, Сапегі і Еўфрасінні Полацкай, Радзівілаў і Рагнеды.

**— Як вам жывецца ва універсітэце, як да вас адносяцца калегі?**

— Па-рознаму. Кіраўніку даволі цяжка ведаць сапраўдныя адносіны да яго падначаленых. Можна толькі адчуваць. Думаю, большасць мяне прымае, бо я адна з іх, абраная імі, а не "засланая" збоку. Іншая справа, што для мяне вялікі гонар працаваць у нашым калектыве разам з такімі знакамітымі дзеячамі беларускай культуры і навукоўцамі, як Юлія Чурко — доктар мастацтваў, харэограф, даследчык, педагог; прафесар Барышаў — доктар мастацтвазнаўства, ён адкрыў для беларусаў беларускі тэатр XVIII стагоддзя. Дактары навук, прафесары М. Крукоўскі, А. Грыцкевіч, А. Сабалеўскі... На жаль, пайшоў з жыцця доктар навук Мікалай Грынчык, вядомы літаратуразнаўца, смелы, прынцыповы, непахісны чалавек — сумленне універсітэта... Ягоны партрэт знаходзіцца ў зале пасяджэння Вучонай рады. Мы — аднадумцы, паплечнікі, супрацоўнікі працуем на адну важную для нашай дзяржавы і для кожнага з нас справу — на беларускую культуру.

**Гутарыў Яўген РАГІН**

КРЫТЫКА

## “На ростанях айчыннай гісторыі”

**Адраджэнскія працэсы ў беларускім грамадстве, якія, нягледзячы на пэўныя цяжкасці апошняга часу, працягваюцца і, несумненна, набылі незваротны характар, выклікаюць усё большую цікавасць да айчыннай гісторыі як з боку даследчыкаў, пісьменнікаў, журналістаў, так і чытачоў. І як вынік таму — выданне асобных кніг, з'яўленне артыкулаў у газетах і часопісах. Не застаецца ўбаку ад гэтай добрай і патрэбнай справы і часопіс “Права і эканоміка”. Больш таго, ён ажыццяўляе выпуск серыі кніг “Гісторыя Бацькаўшчыны”. Адна з іх “На ростанях айчыннай гісторыі” Анатоля Сарокіна, што мае падзагаловак “Беларуская вёска: ад Дэкрэта да Кодэкса аб зямлі(1917—1990-я гады)”. Аб характары выдання ў пэўнай ступені ўжо можна меркаваць па аўтарскім прысвячэнні: “Ахвярам сацыяльных эксперыментаў...”**

**Асэнсоўваючы галоўныя моманты, вузлавыя праблемы пераўтварэнняў, што адбываліся на сяле пасля рэвалюцыі, А. Сарокін аргументавана паказвае, як паўплывалі яны на лёс насельніцтва ды і на лёс вёскі ў цэлым. Вядома, усе гэтыя аспекты закраналіся даследчыкамі і раней, аднак на працягу сямі дзесяцігоддзяў у беларускай савецкай гістарыяграфіі панаваў прынцып, паводле якога “некалькі пакаленняў грамадазнаўцаў вялі “творчы пошук” пераважна становучага ў вопыце сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця. Запыняючы на гэтым увагу ва ўступным артыкуле, А. Сарокін сведчыць, што “пераадоленне ідэалагічных стэрэатыпаў патрабуе адыходу ад спрошчанага ўяўлення аб тэндэнцыях развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці на розных этапах “савецкай эпохі”. Але з-за адсутнасці сур'ёзных, адпавядаючых крытэрыям навуковага падыходу спецыяльных прац па гэтым шмат у чым трагічным перыядзе гісторыі Беларусі пераадолець старыя схемы і догмы не проста”. Тым больш удзячная справа, за якую ўзяўся аўтар кнігі “На ростанях айчыннай гісторыі”. А для даследчыка, які хоча дайсці да ісціны, зрабіць усё магчымае, каб менела “белых плям” і ў гэтай важнай праблеме, шырокае поле дзейнасці, а таму А. Сарокін “імкнецца трохі па-іншаму зірнуць на тых, хто звязваў надзеі на прагрэс з верай у айчынны варыянт сацыялізму.**

**Паглыбленае вывучэнне тэмы карысна і таму, што дазваляе ўсвядоміць змяненні ў лёсе адной з важнейшых галін эканомікі і адной з прадстаўнічых сіл сацыяльнай структуры нашай краіны. Менавіта ў ім, як у люстэрку, адбіўся складаны комплекс супярэчнасцей Беларусі савецкай эпохі”. Матэрыялы, выкарыстаныя ў кнізе, а яны ўзяты з некаторых ранейшых даследаванняў, але дамінуюць тыя, што сабраны, сістэматызаваны самім аўтарам, дазваляюць зірнуць на праблему ва ўсёй яе складанасці і шматграннасці. А таму А. Сарокін запыняе ўвагу на такіх аспектах, як характар успрымання сялянамі аграрнай палітыкі савецкай улады; арганізацыйны і прававы механізмы рэалізацыі сацыяльна-эканамічных і палітычных задач па арганізацыі функцыянавання калгасаў і саўгасаў; сутнасць і эвалюцыя рэпрэсій савецкага рэжыму; сацыяльныя зрухі на вёсцы ў складзе сельскіх рабочых і іншых.**

**Праца напісана такім чынам, што, нягледзячы на спецыфічнасць, з цікавасцю будзе запатрабавана не толькі выкладчыкамі і студэнтамі гістарычных спецыяльнасцяў вышэйшых навучальных устаноў, каму ў першую чаргу адрасавана, а і настаўнікамі і ўвогуле усімі, хто цікавіцца нацыянальнай гісторыяй і хоча яе ведаць без ідэалагічнага прэпарыравання, без замоўчвання вострых і спрэчных момантаў. Не лішне нагадаць, што А. Сарокін — доктар гістарычных навук, даўно даследуе праблемы сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця Беларусі навейшага часу, рэпрэсій, гістарыяграфіі. Вызначаў і апрабіраваў найбольш перспектыўныя методыка-метадалагічныя падыходы да аналізу праблем аграрнай гісторыі Беларусі савецкага часу. Несумненна, кніга “На ростанях айчыннай гісторыі” паспрыяе больш уважліваму стаўленню да праблемы іншых даследчыкаў, ды і сам А. Сарокін вернецца да яе, каб асобныя моманты разгледзець больш дэталёва.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

# Беспрытульны

***Творчасць народнага пісьменніка Івана Шамякіна канца 80-х — 90-х гадоў адлюстроўвае асноўныя заканамернасці нашага жыцця, тыя віравочныя працэсы, якія карэнным чынам закранулі кожнага чалавека. Ніхто, відаць, з сённяшніх празаікаў за гэты час не напісаў так шмат. Некалькі раманаў, аповесці, успаміны і г. д. На розныя тэмы, пачынаючы ад складаных часоў усталявання добрасуседскіх адносін паміж Маскоўскай дзяржавай і землямі Літвы (“Вялікая княгіня”), раскрыццём трагедыі ўсходнееўрапейскіх славян і іншых народаў ад наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС (“Злая зорка”), заканчваючы аналізам эканамічнага, сацыяльнага, маральнага стану жыцця нашага сучасніка — пісьменніка, мастака, артыста, вучонага, палітычнага дзеяча (“Вернісаж”, “Выкармак”, “Адна на падмостках” і г. д.). Амаль за 60 гадоў творчага жыцця (першае апавяданне датуецца 1944 годам) І. Шамякін заўсёды быў летапісцам сваёй эпохі, адгукаўся на актуальныя пытанні, якія ставіла перад чалавекам жыццё.***

Паказальнай і характэрнай для яго творчасці канца XX і пачатку XXI ст. з'яўляецца аповесць “Пошукі прытулку”, надрукаваная ў апошнім за 1999 г. нумары часопіса “Полымя”. Аб чым жа гэты твор? Можна сказаць, што аб старасці, якая непазбежна даганяе любога з нас і не заўсёды прыносіць радасць. Зусім невыпадкова эпіграфам да аповесці паслужылі сумныя радкі А. С. Пушкіна: “Под старость жизнь такая гадость”. Такая думка праходзіць скразным лейтматывам, адцяняе няпростыя думкі галоўнага героя аповесці Ігната Андрэевіча аб той пары жыцця, калі трэба падсумоўваць здабыткі, рабіць агледзіны мінулага, разважаць аб вечным, думаць аб незваротнасці маладосці. А яшчэ ў творы падымаецца вечная і актуальная праблема ўзаемаадносін старэйшага і малодшага пакаленняў. Ігнат Андрэевіч крыўдзіцца на нявестку Паліну, якая працуе выкладчыцай на універсітэце, на сына — следчага пракуратуры. Гэта занятыя на працы людзі, якім не заўсёды хапае часу і ўвагі для старога чалавека. Да таго ж ён баіцца паміраць так, як скончыла свой век яго ная жонка Ангеліна, якая цяжка хварэла на рак.

З роспачу падсумоўвае славуты акадэмік зробленае ім у селекцыі кукурузы, бульбы, цукровых буракоў: сотня навуковых артыкулаў, тры манаграфіі, якія, на вялікі жаль, не зрабілі пераварот у сельскай гаспадарцы, хаця мелі вялікае практычнае значэнне ў свой час. Не дарэмна ж былі вялікія чэргі аграрнікаў з Расіі, Украіны, Беларусі за яго новымі гатункамі бульбы. Да 63 гадоў узначальваў навукова-даследчы інстытут, затым 7 гадоў сектар у ім. А пасля — пенсія. Раней з яго думкай лічыліся. У навуковых колах, міністэрстве, урадзе. А цяпер, “за пяць гадоў пенсіянерства забыліся, што не вельмі даўно быў такі нацыянальны вучоны. Праўда, за гэтыя гады свет пераварнуўся дагары нагамі, усё, што стваралася дзесяцігоддзямі, развалілі маладыя “рэфарматары”. Але што далі іх рэформы народу?”. Такія нярадасныя, горкія і разам з тым настальгічныя думкі не даюць спакою, штурхаюць на роздум, самааналіз.

Складанае ўнутранае жыццё Ігната Андрэевіча складае асноўны мастацкі канфлікт аповесці, які час ад часу моцна “падсвечваецца” пакручастымі паваротамі лёсу цяперашняга пенсіянера. У кампазіцыйных, стылёвых, жанравых адносінах гэты твор канца 90-х гадоў вельмі нагадвае некаторыя раманы 60—70-х (асабліва “Снежныя зімы”, “Вазьму твой боль”). Успомнім, напрыклад, як Іван Васільевіч Антанюк са “Снежных зім” цяжка пакутаваў у якасці заўчаснага пенсіянера, выгнанага з Міністэрства сельскай гаспадаркі за прыхільнасць да травасеяння, як ворага “каралевы палёў” — кукурузы. Антанюк змагаўся з усімі: жонкай, дзецьмі, сябрамі. А найбольш — з самім сабою. І перамог у барацьбе з хрушчоўскім валюнтарызмам, быў пакліканы на ранейшую пасаду. Але не пайшоў. Гонар не дазволіў, высокая чалавечая годнасць, усведамленне сваёй запатрабаванасці. У канцы рамана Антанюк паказаны аўтарам каля вялікай кучы зерня, падрыхтаванай калгаснікамі ў далёкім саўгасе для пасяўной. Снежныя зімы згодна з народнымі прыкметамі абяцаюць добры ўраджай. На такой аптымістычнай ноце заканчваўся актуальны для свайго часу твор. Псіхалагічны стан галоўнага героя быў намаляваны вельмі пераканаўча. Як і ў раманах “Атланты і карыятыды”, “Вазьму твой боль”. Ці не ў гэты час І. Шамякін дасягнуў найвышэйшага ўзроўню ў паказе ўнутранага жыцця чалавека.

Больш таго, аповесць “Пошукі прытулку” і раман “Снежныя зімы” збліжае адзін і той жа кампазіцыйны прыём. Гэта шырокая рэтраспекцыя, зварот у мінулае свайго героя, у ягоную маладосць. У Антанюка гэта партызанскае жыццё ў час мінулай вайны. Ён быў камандзірам аднаго з атрадаў. Трымаўся незалежна ў адносінах да тагачаснага партыйнага кіраўніцтва, неардынарна паводзіў сябе як прыватная асоба. Пакінуў, напрыклад, пры сабе ў атрадзе цяжарную жонку паліцэйскага, прызнаў ужо ў мірны час народжанае тады дзіця за сваю дачку.

У Ігната Андрэевіча быў у маладосці шлюб з Марынай, жыла побач, у Мінску, дачка Тамара. Узаемаадносіны з ёю, а таксама ўся гісторыя наведвання пенсіянерам першай жонкі складае асноўны змест аповесці “Пошукі прытулку”. Акадэмік вырашае раптам паехаць праз паўстагоддзя ў калгас, у якім пачалося ягонае сталае жыццё, кар'ера. У чым прычына такога нечаканага павароту лёсу? Відаць, грахі маладосці прымушаюць пакутаваць. Аб гэтым сведчаць радкі, перададзеныя аўтарам як плынь свядомасці: “Невядома, як бы я пражыў з Марынай, а з Ангелінай амаль паўстагоддзя пралецела, што адзін міг, — часта думаў Ігнат Андрэевіч у бяссонныя ночы. — Але адляцела мая галубка ў паднябессе — і скончылася маё шчасце. Беспрытульны я стаў. Каму патрэбны?”

# Мастацкі покліч стагоддзяў

Старонкі гістарычнай прозы — як лакмусавая папера, што паказвае не толькі агульны ўзровень развіцця літаратуры, але і сведчыць пра яе знакавую сутнасць, дазваляе меркаваць аб узроўні яе жанрава-стылёвай распрацаванасці. Канешне, паказальны ў гэтым і проза сатырычная, і дакументальная, і ўсялякая іншая, аднак гістарычная прэзентатыўная найперш — асабліва ў чытача другой паловы XX стагоддзя: Вальтэр Скот, Генрых Сянкевіч, Валянцін Іваноў, Уладзімір Караткевіч...

Мы, беларусы, на пачатку другога тысячагоддзя ад Раства Хрыстовага шчодра наздзелены багатай гісторыяй, на сконе тысячагоддзя засталіся ёй... абздзеленымі. Абздзеленымі не па сваёй волі. Таму і ўласна-беларуская (нацыянальная) гістарычная навука, і беларуская гістарычная літаратура ў новым часе ўзнікалі ў нас з вялікімі затрымкамі, услед за суседскімі.

Пасля значных поспехаў гістарычнай прозы ў Беларусі напрыканцы 20-х гадоў — пачатку 30-х адбылося “замарожванне” гэтага тэматычна-стылёвага накірунку. Замест герояў нацыянальных гісторый у літаратуры, музыцы і жывапісе паўставалі адно вобразы расійскіх цароў і палкаводцаў. І ўсё ж якраз у савецкім часе беларуская гістарычная проза здолела адрадзіцца, аднавіцца — прайшоўшы доўгі пакутны шлях ад вульгарызацыі, лакіроўкі (творы П. Пестрака, І. Гурскага і інш.) да новага станаўлення (у творчасці Б. Мікуліча, М. Лобана, Л. Арабей і — найперш — У. Караткевіча). Плынь гістарычнай праблематыкі не перасыхала і ў прозе нашай паваеннай эміграцыі: апавяданні і раман У. Случанскага “Драбы”, гістарычныя нарысы-эсэ і аповесці Ю. Віцьбіча, раман А. Змагара “Случчына ў агні”, аповесць М. Цэлеша “Загібельскі летапіс” і іншыя.

Найперш мастацка-прыгодніцкую гісторыю падзеі ўзнаўляў у сваіх гістарычных раманах “Меч князя Вячкі”, “Жалезныя жалуды” Л. Дайнека. В. Іпатава ў аповесцях “За морам Хвалынскім”, “Чорная княгіня”, рамане “Залатая жрыца Ашвінаў” вымалёўвала, думаецца, мастацка-міфалагічную гісторыю пачуцця. Мастацкую гісторыю беларускага духу падаваў найперш у аповесцях “Дзень, калі ўпала страла” і “Час чумы” У. Арлоў.

Новы раман Генрыха Далідовіча “Кліч роднага звона”, які друкаваўся ў часопісе “Полымя” (першая кніга — “Мір пасярод вайны” — у NN 10, 11 за 1995 год, другая — “Гартунак вайной” — у NN 8, 9, 10 за 1999-ы) і апублікаваны ў перакладзе на рускую мову (“Нёман”, 2000, NN 4, 5), а сёлета выйшаў асобным выданнем, тыпалагічна ў гэтым кантэксце сучаснай беларускай гістарычнай прозы стаіць асобна, арыгінальна — як у плане фармальна-тэматычным, так і стылёвым. Гэта — гістарычны раман-хроніка, гістарычная дылогія, якая ўпершыню ў беларускай літаратуры асвятляе старадаўнія старонкі нашай мінуўшчыны вызначальнага XIII стагоддзя, стагоддзя ўтварэння першай беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, сэрцам якога сталі землі паміж сённяшнімі Мінскам, Слонімам, Навагрудкам і Маладзечнам. Па-навукову аналітычна і па-мастацку пераканаўча аўтар адзначае, што ідэя незалежнасці Новагародскай зямлі ў асобнай дзяржаве яшчэ з XIII стагоддзя была прадвызначана грамадска-палітычнымі абставінамі — прадвызначана як адзіная магчымасць уратавання ад крыжацкай навалы, мангольскага знявольнення і частых набегаў галіцка-валынскіх войскаў.

“Кліч роднага звона”, які стаў творчым наследаваннем навуковых прац светлай памяці Міколы Ермаловіча (“Па слядах аднаго міфа”, “Старажытная Беларусь”), найперш сваёй дакументальна-мастацкай праблематыкай станаўлення нашай дзяржаўнасці не толькі вызначаецца ў агульна-літаратурным рэчышчы — сваёй маштабнасцю, аналітычнасцю, але і лучыцца з днём сённяшнім. Часам складвалася пэўнае ўражанне, што “Кліч роднага звона”, перамагаючы межы стагоддзяў, раскрываў-датлумачваў і нашую цяперашнюю: “Якая ні мудрая і ні вабная ідэя “единой земли, единой веры, единого сердца и единого государя”, але з гэтага нічога не выйшла. Кіеў толькі праліў шмат крыві ды слёз, а ўрэшце і сам занепаў. ...за дзесяткі, сотні гадоў спакваля ўтварыліся тры Русі. Адна — вакол Ноўгарада, другая — вакол Палацеска, трэцяя — вакол Кіева. З аднаго бохана выйшла тры скібы, і марная трата сіл і духу спрабаваць іх сілай склеіць”.

Г. Далідовіч у сваім новым гістарычным рамане працягвае распрацоўваць асноўны мастацкі прынцып, плённа выкарыстаны ім яшчэ ў мастацка-гістарычнай трылогіі пра ўтварэнне беларускай рэспублікі на пачатку XX стагоддзя (“Гаспадар-камень”, “Пабуджаныя” і “Свой дом”), — даследаванне ў аднačас і гістарычных падзей, і гістарычных характараў. У “Клічы роднага звона” пісьменнік не ідзе на “салодкі падман” чытача, не намагаецца штосьць містыфікаваць і прымушаць яго верыць у “рэальнасць” апісанага — ён, падаецца, нават свядома “асучасніваe” свой твор, набліжае і клопаты, і быт сваіх герояў да рэалій сённяшніх (князь мае за Новагародкам сваё лецішча, дзе любіць песціць сваіх дзяцей; ва ўзаемаадносінах герояў (з раннехрысціянскай свядомасцю) — шэраг “адкрытых” сцэн, вядомых чытачам яшчэ па кнізе “Жар кахання”). Зрэшты, пра спрычыненасць сённяшняга чытача да падзей рамана гаворыць і ягоная назва, паўтораная ў апошнім радку эпілога — своеасаблівай часавай брамы твора — пасля слоў А. Герцэна: “Россия ....стала сильной, великой — но какой ценою? Это самая несчастная, самая порабощенная из стран земного шара. Москва спасла Россию, задушив все, что было свободного в русской жизни...” Чуем ці не чуем кліч роднага звона?

Запамінальныя і шматгранныя характары герояў рамана. Псіхалагічна выверыныя, багатым на пачуцці і эмоцыі вымаляваны новагародскі ваявода і пасаднік Усяслаў — асоба, “пакліканая да жыцця” аўтарам. Гэта выдуманы персанаж, у якім скандэнсаваліся лепшыя рысы беларускага характару: самаахвярнасць, сціпласць, мудрасць, пяшчота, мужнасць. Якраз вобраз Усяслава дапамагае “звязаць” у адно шматлікія сюжэтныя хады рамана — ад смерці князя Ізяслава (першая кніга) да смерці князя Міндоўга (кніга другая). Пераканаўчым і багатым на эмоцыі выпісаны ў рамане “Кліч роднага звона” і вобраз легендарнага князя Міндоўга — чалавека (па трактоўцы Г. Далідовіча) жорсткага, бескампраміснага, “жывога”. Запамінальнымі атрымаліся ў рамане і вобразы жанчын (найперш жонкі Усяслава Любкі). Пра тое, што любоўна-інтымная плынь і звязаная з ёй інтрыга ажыўляюць сюжэт рамана, пісаў яшчэ пасля выхаду першай кнігі “Кліча роднага звона” А. Бельскі. Паміж

ЛіМ ЧАСАПІС

## “Выбраныя творы” Гётэ

З 1996 года ў нашай краіне ажыццяўляецца грандыёзны выдавецкі праект — выпуск 200-томнай залатой бібліятэкі Беларусі пад агульнай назвай “Беларускі кнігазбор”. Напачатку ён быў задуманы ў дзвюх серыях: першая “Мастацкая літаратура”, другая — “Гісторыка-літаратурныя помнікі”. Але ў працэсе работы высветлілася, што не лішнім будзе, калі з’явіцца і трэцяя — “Замежная літаратура”, якая пазнаёміць чытача з шэдэўрамі сусветнага прыгожага пісьменства ў перакладзе на



беларускую мову. А нядаўна ў гэтай серыі з’явілася і першая кніга, якой сталі “Выбраныя творы” Ёгана Вольфганга Гётэ (укладанне і прадмова Лявона Баршчэўскага і Паўла Копанева, каментар Лявона Баршчэўскага і Васіля Сёмухі). А пачынаецца прадмова “Гётэ ў бясконцасці часу” словамі, што сведчаць аб тым, наколькі прыцягальная творчасць гэтага выдатнейшага пісьменніка: “Вечна жывое, сагрэтае ўзвышанай любоўю да свету і людзей паэтычнае слова генія нямецкай літаратуры Ёгана Вольфганга Гётэ ўжо даўно стала здабыткам усяго чалавецтва. З ім, з гэтым Словам, усе мы становімся іншымі. Яно запальвае нашы сэрцы чыстым агнём замілавання да ўсяго існага, робіць нас шчаслівейшымі, мацнейшымі, духоўна багатымі. Якраз таму творчасць Гётэ не падуладна зменліваму часу”.

Падрабязна прасочваючы жыццёвы і творчы шлях Гётэ, аўтары прадмовы згадваюць і аб тым, як слова яго пачынала гучаць па-беларуску: “Першапраходцам тут трэба лічыць Юрку Гаўрука, які апублікаваў падборку гётэўскай лірыкі ў самай першай беларускай анталогіі паэтычнага перакладу — “Кветкі з чужых палёў” (1928). У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў пераклады вершаў Гётэ, урыўкі з “Фаўста” робяць прадстаўнікі трагічнага пакалення беларускай літаратуры: Алесь Дудар, Юлі Таўбін, Яўген Барычэўскі, Сцяпан Ліхадзіеўскі. Прыкладна да гэтага часу належаць першыя пераклады з Гётэ, выкананыя Аляксеем Зарыцкім”. Сярод перакладчыкаў імёны Віталя Вольскага, Наталлі Арсенневай, а “новы этап цікавасці беларускіх перакладчыкаў да творчасці Гётэ пачынаецца з канца 50-х — пачатку 60-х гадоў і доўжыцца па сённяя. На гэты час прыпадае самаахвярная праца Васіля Сёмухі над поўным перакладам “Фаўста”, першае выданне якога выйшла ў 1976, і “Рымскіх элегій”, над падрыхтоўкай беларускага тэксту лібрэта оперы “Фаўст” А. Радзівіла”. Акрамя таго, лірыка Гётэ выйшла асобным выданнем пад назвай “Спатканне і ростань”, пераўвасобленая Алегам Лойкам, а ў перыёдыцы з’явіліся пераклады А. Зарыцкага, Ф. Баторына і іншых. З’явай стаў і выхад “Фаўста” ў серыі “Скарбы сусветнай літаратуры” (1991).

Том жа ў “Беларускім кнігазборы” складаецца не толькі з гэтай знакамітай трагедыі, дарэчы, перакладу папраўленага і ўдакладненага В. Сёмухам. Безумоўна, цікавасць у чытача выкліча і лібрэта оперы “Фауст” на музыку А. Радзівіла. З’яўленне яго ў томе аўтары каментара аргументуюць наступным чынам (а з імі нельга не пагадзіцца): “Мы называем Гётэ аўтарам тэксту лібрэта не толькі таму, што ён згадзіўся на такую пераакцэнтацыю (маюцца на ўвазе кампазіцыйныя змены ў параўнанні з самой трагедыяй. — Ю. В.), але і таму, што, згодна з ёю, зрабіў для оперы шматлікія ўстаўкі, скарачэнні, адпаведна з законамі жанру пашырыў тэкст некаторых сцэн, якія не ўвайшлі ў асноўны кананічны тэкст трагедыі. Як на прыклад выдатнага творчага супрацоўніцтва двух геніяў, як на прыклад судакранання культур двух народаў, нямецкага і беларускага, мы спасылаемся, упершыню друкуючы поўны беларускі тэкст лібрэта оперы “Фаўст”. Спецыяльна для гэтага выдання Л. Баршчэўскі пераклаў раман Гётэ “Пакуты маладога Вертэра”.

А перад гэтым змешчаны вершы і балады, пераўвасобленыя па-беларуску А. Лойкам, Л. Баршчэўскім, Ю. Таўбіным, Ю. Гаўрукам, В. Сёмухам.

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

Максім ЛУЖАНІН



# Каб у доме жыло святло

## Жывічная сіла

*Дзеля слова на працу я рады заўсёды, —*
*З вуснаў слухаць,*
*ад птушкі злавіць наўздагад,*
*Толькі нешта з людзьмі*
*не даходжу да згоды:*
*Што́ мне ў голас гукнуць,*
*што́ адвеяць у спрат.*

*Пад вяснянкавы змрок,*
*на кастрышча Купалля*
*Сушняку нацягаю, бяросты знайду —*
*Не бярэцца гарэць...*
*Сэрца скажа:*
*— Распальвай!*
*Пашчапаю яго. І агонь раскладу.*

*Набірай, наша слова, жывічнае сілы!*
*Ты — жыцця пачуццё і пачуццяў жыццё —*
*Стань свяцілам свяцілаў*
*на ўсіх небасхілах,*
*Каб ішоў чалавек*
*з настацця ў настаццё.*

1995

## З вока на вока

*Часта прыходзяць сны.*
*Кепскія, як гавораць.*
*Сёння паўзуць яны*
*Горшыя, чым учора:*

*Нехта, ўсмаліўшы корч,*
*Цягне ў агонь крукамі...*
*Што гэта, многа горш*
*Тога, чаго чакаеш?*

*Зараз жа адганю,*
*Ноч перарву, прачнуся,*
*Выветру чартаўню,*
*Хаты няхай не гнюсіць.*

*Сню адно: тлум бацькоў —*
*Папакідалі труны,*
*Сварацца на сыноў,*
*Што ў іх пустыя гумны.*
*Звыклі хадзіць, цягнуць*
*Толькі ў чужых аглоблях...*

*...Вырваўся нейк са сну,*
*Трэба ж хоць дробны пробліск.*
*Гляну, хіба, ў акно,*
*Нейкая ж свеціць зорка?*

*...Хмары вісяць радном,*
*На панадворку золка.*

*Ну, дык сяброў пакліч.*
*Змоўклі яны, не чуюць.*
*Новыя не дайшлі,*
*Але здалёк віншую —*
*Светлых і гаваркіх,*
*Дзень чый вось-вось заднее,*
*Рушыць іх ветракі*
*Вецер мае надзеі.*

1995

## Нораўы

*Мы нораваў не пераборам:*
*Адны — ў людзей, у гор і зор.*
*Гара гару спіхае ў мора,*
*Сузор’е паглынае зоры,*
*Звер звера ёсць, калі той хворы,*
*Дзяўбе слабога сябра жораў,*
*Падлесак — сушыць гушча дрэў.*
*А ў чалавека — шыршы нораў:*
*Абы зачуў дзе-небудзь скорам,*
*Усё і ўся б загроб і зжор.*

*Як свет задуман, так і створан,*
*Ён здзекуецца з непакор.*

1995

## Адказ самым малодшым

Это, барин, дом казенный —
Александровский централ.
**Народная песня**

*Пыталіся петнастоўкі:*
*— Хто кажа ́імя, хто — імя́,*
*Той — салаўкі, той — сало́ўкі,*
*Ці розніца ёсць між імі?*

*Спалі ў кустах сало́ўкі,*
*А Салаўкі не спалі:*
*Пляжылі нарыхтоўкі*
*І невады цягалі,*

*Браліся пець салоўкі,*
*А Салаўкам было млосна:*
*Посны навар сталоўкі*
*Абмальваў ім кухар злосны.*

*Лаялі ў спевах Мурман,*
*Бутырку хрысцілі файна,*
*Усе ўспаміналі турмы,*
*Пакуль не ганяў днявальны.*

*Глынуў таго акадэмік,*
*Руплівец роднага слова,*
*Так што па гэтай тэме*
*Распытвайце Ліхачова.*

*А Марыінскі лагер*
*Тыя ж падносіў стравы:*
*З ім я спяваў не шлягер,*
*А горкую — пра цэнтралы.*

1995

## Аднолюб

*Ад чарады, ад лебядзінае*
*Адзін адбіўся лебядзін:*
*Не мог ён без яе, адзінае,*
*Ляцець, шукаць цяплейшых зім.*

*Яны ж тут з дзецьмі разгаўляліся,*
*Жылі вялікаю сям’ёй,*
*Ды грымнуў стрэл і гора сталася —*
*Навек ёй адысці адной.*

*Каля гнязда, што разам роблена,*
*Самотны веку дажыве.*
*Ён ведае, ёсць людзі добрыя,*
*А да кармушкі не плыве.*

1995

## Даўгі...

*Згуляць у шахматы з камп’ютэрам,*
*Або глынуць абы-чаго?..*
*А што рабіць! На сэрцы мутарна —*
*Гара нясплачаных даўгоў.*

*Даўгі, даўгі... Перад айчынаю*
*І быў, і будзеш вінават.*
*Адзін ад кліну жураўлінага*
*Астаўся і зазімаваў,*
*Твар каля студні чыста вымыю,*
*Кашулю белую ўзлажу,*
*Сам-насам стрэнуся з радзімаю*
*І выспавядаю душу.*

*Як загадае, так і пойдзецца,*
*Хоць на зламанне галавы.*
*Падняць твой лёс не кожны знойдзецца,*
*Нясі, нясі, пакуль жывы.*

1995

## Пра душу Случчыны

*Не галячыся на пяршак*
*Уяўнага заможніцтва,*
*Як і жыла, жыве душа*
*Сама ў сябе заложніцай.*

*Змятаць ёй сорам са стала*
*Сухія крошкі ежыва*
*Ці карты з крапам тасаваць,*
*Каб больш сабе належала.*

*А хто малюе — не зважай! —*
*Прыгожа, як у баечцы,*
*Пачаў па-свойму і канчай:*
*Усім не ўпадабаешся.*

*Адкінь хлапечае сціло*
*І вымудры старэчыя,*
*Вядзі бясспрэчны маналог,*
*Без возіркаў на стрэчныя.*

*А трэба — ўпрыся рог у рог,*
*Няпраўда ж, нехта зможацца,*
*Не будзе плёну з тых дарог,*
*Дзе нуль на нуль памножыцца.*

*Ніхто не мог перабароць*
*Душу малое Случчыны,*
*І не заваблі ў аброць*
*Пад заклікі гаручыя.*

*Свае, раменнай, не было, —*
*Не брыдка — з вераўчанаю*
*Дапасці ў бацькава жытло*
*На узгорку за Трайчанамі.*

*Ці доўга ўбудзе там яна,*
*Не варажу на пальцах я,*
*Ды непарваная струна*
*Канечне напінаецца.*

1995

## Меўся і я

*Мала што за дзівацтвы*
*Могуць быць у людзей...*
*Меўся і я ў юнацтве*
*Душы рабіць святлей.*

*Хоць завіхаўся вельмі,*
*Пот залівàў чало, —*
*Шэльма застаўся шэльмам,*
*Больш нават прыбыло.*

*Можа, быў захад дробны,*
*Можа, запал аціх,*
*Можа, крыху падобны*
*Зрабіўся я сам да іх.*

1995

## Свая зямля

*Я даўно там не быў,*
*дзе дурэла маленства,*
*Дзе спявала юнацтва хлапцоў і дзяўчат,*
*У дарожнай турбоце*
*міжволі далей стаў*
*Ад разваг, ад бясед,*
*чым багаты случчак.*

*Прыгадаў і ўжо маю,*
*што сэрцу патрэбна.*
*— Добры вечар! — кажу,*
*і мне цісунць руку.*
*Адмякчэла душа, лусту жытняга хлеба*
*Пасаліўшы ў бярозавым халадку.*

*Не хаваю, не ганю вандроўніцкай прагі,*
*А зямлі, што радзіла бацькам і дзядам,*
*Ні за якія землі, ні за якія сцягі*
*Ні на што не змяняю.*
*Зародзіць і нам.*

1995

## Цесля

*Не куміўся ён з каралём,*
*Мог адным хіба ганарыцца:*
*Не паставіў нікому дом*
*З дрэў, паваленых навальніцай.*

*Можа, быў гэта забабон,*
*Што разваліцца гаспадарка,*
*Што паменее ўдалых дзён*
*І жыццё закульгае шпарка.*

*Каб у доме жыло святло,*
*Была рупнасць і добры догляд,*
*Выбіраў людзям на жытло*
*Хвоі гонкія дбайны дойлід.*

*Не чапаў ён расох-крывуль*
*І павал пакідаў у браку.*
*...Аж дасюль у дамах жывуць:*
*Хваляць майстра, гавораць:*
*— Дзякуй!*

1995



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ.

# ПЕРШЫ ДЗЕНЬ СВАБОДЫ

Іван НАВУМЕНКА



АПАВЯДАННЕ

## I

Восень позняя, лістападаўская. Але надзіва цёплыя, сонечныя не канчаюцца дні. На ўсходняй ускраіне лясной, прывабнай з выгляду вёскі стаіць, нібы ў ганаровай варце, чарада высокіх дубоў. Іх вершаліны ў асенняй пазалоце.

За вёскай, за лесам садзіцца сонца, і шапкі дубоў нібы гараць агнём. Барвовая чырвань засцілае ўвесь заходні абсяг неба.

З вышыні даносіцца раўнамернае гудзенне. Самалётаў многа, але ў шараватым вячэрнім небе іх не ўбачыш. Па гулу чуваць: ляцяць савецкія самалёты і кіруюць на захад. Значыць, бамбіць немцаў.

Грудзі маладога партызана Сашы Мялешкі распірае радасць. Калі такое было? У сорак першым годзе ў небе гаспадарылі немцы. Савецкія самалёты нават не паказваліся. І танкі генерала Гудэрыяна перлі на ўсход, не зважаючы, што пакідаюць у тыле незахопленыя гарады, гарнізоны, дывізіі.

Больш як два гады мінула з таго часу. Вось нашы зноў на Дняпры. Адтуль выразна даносяцца выбухі. Артылерыйская кананада не спыняецца ні днём, ні ноччу.

Пасля правалу наступлення пад Курскам местачковыя немцы падтулілі хвасты. Калі ж Чырвоная Армія дасягнула Дняпра, паліцаяў і розных бургамістраў як мятлой змяло — дружна драпанулі на Захад.

Тым часам настаўніца нямецкай мовы Паліна Сяргееўна, якая працавала перакладчыцай пры бургамістры, папярэдзіла Сашу Мялешку: "Знікай хутчэй з мястэчка". Яе ў сваю чаргу папярэдзіў анямечаны паляк-жандар, які хадзіў да настаўніцы вывучаць рускую мову.

Каля вёскі Байдакі немцы абсталявалі канцэнтрацыйны лагер. Проста кавалак поля абгарадзілі калючым дротам, паставілі вышкі. Піхалі ў той лагер усіх, хто, на іх погляд, даверу не выклікаў.

А Саша Мялешка, Іван Гарошык, Сяргей Ганчароў — трое сяброў-падпольшчыкаў — прымільгаліся немцам. Многага з іх немцы ў свой час арыштоўвалі, трымалі ў турме, але даказаць сувязь з партызанамі не здолелі. Вока тым часам мелі, падазрэнне вісела над галовамі хлопцаў, як цёмная хмара.

У партызанскім атрадзе хлопцы робяць тое, што рабілі, седзячы ў мястэчку. Толькі тады хадзілі з мястэчка ў лес: насілі партызанам соль, медыкаменты, табаку. Цяпер, прыходзячы з лесу на ўскраіну мястэчка да дзеда Івана Гарошыка Антона, забіраюць у сяброў-падпольшчыкаў тыя самыя, па сутнасці, рэчы.

Мястэчка як бы падзелена чыгункай на дзве палавіны. У меншую, залінейную частку, якая складаецца з вуліц Варашылаўкі і Першамайскай, немцы нос асабліва не торкаюць. Там Саша з Іванам прыходзяць да ягонага дзеда Антона, сядзіба якога туліцца да ўскрайку Першамайскай вуліцы. За ёй пачынаецца пнёўе, круг алешніку, лазовыя зараслі.

Прыгожая сядзіба дзеда Антона. Размешчаная на пагорку, атуленая дубамі-веліканамі, яна прыдатная тым, што з яе, як на далоні, відаць чыгуначная станцыя і значная частка мястэчка. Нават уласную хату Саша Мялешка можа разгледзець.

Хлопцы так напакутаваліся пры немцах, так перахварэлі душой, што наступленне Чырвонай Арміі і яе выхад на Днепр ім здаецца проста цудам. Яны бачылі армію, якая адступала — бязладна, з аднымі вінтоўкамі. Чырвонаармейцы неслі плямы солі на гімнасцёрках, брылі ў разлезлых, разбітых чаравіках. Абозы, кухні байцы разбітых палкоў страцілі і харчаваліся, чым прыйдзецца. І вось цяпер тая самая армія гоніць да зубоў узброеную, стальную армаду немцаў на захад. Як магло адбыцца такое пераўтварэнне?

Сябрам нават у галаву не прыходзіць, што і пасля вызвалення мястэчка вайна будзе працягвацца, яны мусяць пайсці на фронт. Толькі чамусьці затрымліваецца Чырвоная Армія на Дняпры. Хутчэй бы прыйшла! Страшэнна агорклі, абрыдлі немцы за гэтыя два гады з лішкам. Так абрыдлі, што нельга болей трываць...

З трывогай, з сумам глядзяць хлопцы на чыгуначную станцыю, якую найбольш любілі, калі жылі ў мястэчку. Іван і Сяргей жылі на Варашылаўцы, амаль насупраць станцыі, Саша — каля чыгуначнага пераезда. Цяпер ад станцыі, ад мястэчка яны адрэзаны назаўсёды. Той, хто пайшоў у партызаны, не можа думаць пра зварот. Бо зварот азначае смерць. Свабода для хлопцаў наступіць тады, калі выганяць немцаў.

А на Дняпры не перастае грымець...

Наваспечаныя партызаны начуюць у дзедавым хляве. Папярэджаныя дзедам, да іх прыходзяць іхнія таварышы. Прыносяць соль, цыгарэты, розныя медыкаменты, нават газету, якую немцы выдаюць у Мазыры на рускай мове.

Ёсць штосьці шчымліва-горкае і адначасна радаснае ў гэтых таропкіх, паспешлівых спатканнях. З трох толькі Сяргей жанаты, мае нават дзіця. Жонку з дзіцём прывёў у атрад. Івану васемнаццаць, Сашы семнаццаць гадоў і гэта якраз вясна іхняга жыцця. Толькі гэтай вясны дружбакі яшчэ не бачылі. Яны бадай што і танцаваць не ўмеюць і з дзяўчатамі не зналіся. Сваё маладое жыццё пачалі з таго, што вось так, з вінтоўкамі на плячы, блукаюць па ваколіцах мястэчка.

Вабіць бліскучымі агнямі разлеглая станцыя. Там кожны вечар скапленне цягнікоў. Ноччу цягнікі на прастор рэек выбірацца баяцца: чыгунку проста абляжылі партызаны. Грыміць чыгунка выбухамі. Немцы высеклі прылеглы да чыгункі лес, спалілі большую палавіну вёсак, а яна ўсё адно грыміць.

Урачыста стаяць, надзеўшы залаціста-барвовыя шапкі, дубы. Наводдаль шарэе алешнік. Яго акаляе бясконцае пнёўе. Некалі на ўсім бачным прасцягу стаялі такія, як на дзедавай сядзібе, дубы.

Саша ўспамінае, як немцы захоплівалі гэтую мясцовасць. Раён пераразаюць дзве чыгункі. Тая, другая, перасякае раён з паўночнага боку. Калі немцы захапілі Бабруйск і Жлобін, то паспрабавалі з паўночнага боку прабіцца на Палессе. Тым часам дарэмна. На чыгунцы, як укопаныя, сталі два бронецягнікі і адбівалі нямецкія атакі. Ужо фашысты захапілі Смаленск і нават далей прасунуліся на ўсход, а ў тыле іх заставаліся Мазыр, Рэчыца, Гомель.

Занялі яны Гомель у сярэдзіне жніўня, а мястэчка — у канцы. Саша баіцца, каб Чырвоная Армія не запынілася на Дняпры. Бо ён ужо мерзне: цёплай вопраткі не мае.

Немцы ўзялі мястэчка без бою. Як і ўсю навакольную мясцовасць. Па галоўнай Савецкай вуліцы прамаршыравалі чатыры аўтаматчыкі з закасанымі рукавамі (па два з правага і левага боку), з настаўленымі на нябачнага ворага аўтаматамі. Войска тым часам валіла па пыльным, пясчаным макаўскім шляху. Хутка яно запрудзіла ўсе местачковыя вуліцы. Гэта было войска без танкаў, бронетранспарцёраў і іншай сучаснай тэхнікі. Гарматы валаклі сытыя чорныя біцюгі.

Немцы крочылі міма Сашыных грыбовішчаў, рабілі там папаску. Побач з заржавелымі бляшанкамі ад кансерваў, рыбных і мясных, Саша знайшоў абрыўкі газет. Той восенню Саша іх не ўзяў: не ўмеў яшчэ разбірацца ў нямецкім тэксце. Яны зіму праляжалі пад снегам, парыжэлі, але літары былі яшчэ выразна відаць. За першую ваенную зіму — на работу Саша прынцыпова не ішоў — ён падцягнуў нямецкую мову, якую і да вайны някепска ведаў. З цяжкасцю, раз-пораз зазіраючы ў слоўнік, ён прачытаў тое, што пісалі немцы для саміх сябе. О, як высока сягалі іхнія планы! Яны бачылі схіленую да іх ног Маскву, захопленыя ўкраінскія чарназёмы, заваяваны Каўказ, пакораныя неабсяжныя рускія прасторы. Карацей, немцы марылі стаць уладарамі свету, бо ў Паўночнай Афрыцы генерал Ромель працярэбліваў шлях на ўсход, каб злучыцца з германскімі войскамі, што мыслілі захапіць Каўказ.

Тым часам ненадоўга хапіла немцам сілы, каб выяўляць такую высокую фанабэрыю і палохаць свет. Толькі дватры бязвоблачныя гады былі ў Гітлера. Гэта тады, калі адну за другой ён заваёўваў еўрапейскія краіны.

А ў Савецкім Саюзе першы выспятак далі немцам пад Масквой, другі — пад Сталінградам, трэці — пад Курскам. І вось нашы на Дняпры.

Нам таксама дасталося. Так што лішне выхваляцца не варта. Ніхто ніколі не захопліваў (няхай часова) такіх агромністых тэрыторый Расіі, як зрабілі немцы. Хіба што татара-манголы. Але тады была толькі Русь.

Пасля таго, як, захапіўшы мястэчка, немцы рушылі на ўсход, па пустой чыгунцы ўсю восень сорак першага года да самых маразоў безупынным ланцугом крочылі людзі. З захаду на ўсход і з усходу на захад. Гэта былі байцы, камандзіры разбітых савецкіх дывізій. Тыя, хто трапілі ў катлы, акружэнні, вырваліся з палону.

Немцы глядзелі на гэта досыць абыякава. Лічылі перамогу здабытай. Паліцэйскія гарнізоны як мае быць яшчэ не ўсталяваліся, так што ваенных бадзяг пакуль што ніхто не затрымліваў, не патрабаваў у іх дакументаў.

Саша Мялешка, яшчэ калі жыў у мястэчку, зрабіў адну змыслую справу. На чыгунцы працавала ўкраінская чыгуначная рота. Ніякіх украінцаў у той роце, вядома, не было, пярэсты, разналікі народ, які трапіў у палон да немцаў і, каб як-небудзь выжыць, згадзіўся працаваць на чыгунцы. Гэтыя чыгуначнікі мелі нямецкія шынялі, мундзіры без нашывак, абутак, але вінтовак не насілі. Атрымлівалі нямецкія пайкі, цыгарэты, відаць, нейкія грошы, то ці цяжка, зрэшты, было даць ім яшчэ і вінтоўкі?

Местачковыя падпольшчыкі пачалі пахаджваць вакол гэтых "украінцаў". Камандаваў чыгуначнай ротай старшы лейтэнант Міхайлаў — высокі, плячысты хлопец гадоў дваццаці пяці з адкрытым круглым рускім тварам.

Саша Мялешка працаваў касірам у лясгасе. Па абавязку службы ён наведваў воінскія часці, вось такія арганізацыі, як чыгуначная рота, якія, не пытаючы ў лясгаса дазволу, бралі дрэва. За дрэва трэба было плаціць. Такім арганізацыям Саша выпісваў рахункі, а старшы ляснічы Жылюк іх падпісваў.

На грунце фінансавых разлікаў у Сашы і завязалася знаёмства са старшым лейтэнантам Міхайлавым. Далей — болей. Саша нарэшце пераканаўся, што Міхайлаў свой чалавек.

Міхайлаў марыў перайсці да партызан. І не толькі сам: чыгуначную роту хацеў перавесці. Пра гэта, пакрысе адкрываючыся адзін другому, пачалі дамаўляцца Саша і лейтэнант.

Рота перайшла. Толькі не ўся. Дваццаць восем чалавек пакіравалі ў лес да партызан, каля палавіны роты. А як астатнія? Саша пра гэта не думае. Не думае нават пра тое, што тых, хто ў партызаны не падаўся, немцы маглі расстраляць. Такая ў іх практыка. Не маглі яны давяраць рэшткам чыгуначнай здрадлівай роты.

Калі хлопцы, ратуючыся ад лагера, ад агароджанага поля каля Байдакоў (яно размешчана каля шашы), прыйшлі ў атрад, на пытанне Мялешкі, дзе Міхайлаў, знаёмы партызан, які прыходзіў у мястэчка яшчэ першай ваеннай восенню, коратка адказаў:

— Загінуў у баі.

Гэтаму партызану яны, той няпэўнай часінай, далі батарэі для сілкавання радыёпрыёмніка, потым яшчэ сім-тым дапамаглі. Ён мог бы трохі болей сказаць пра Міхайлава. Бо сярод партызан былі такія, якія не надта давяралі перабежчыкам. А Міхайлаў быў камандзірам роты.

## II

Пад вечар да дзеда Антона прыходзіць аграном Драгун. Ён нясе на плячы старыя боты з разяўленымі перадамі: нібы боты есці хочуць.

Драгун перадае навіну незвычайную. На станцыі запыніліся два эшалоны. Адзін славацкі, які кіруе на захад, другі нямецкі з боепрыпасамі для фронту. Пад вагон з боепрыпасамі славакі паставілі скрынку з толам і, калі іх эшалон рушыў, падпалілі бікфордаў шнур.

Шнур, які трашчаў, сыплючы іскрамі, заўважыў падшывалец, што аціраўся на станцыі, сын адданага немцам чалавека, бухгалтара Дрынко. Немцы паспелі перарэзаць шнур. А што было б, калі б не перарэзалі?

Драгун паведамляе і больш важную навіну. У ваколіцах мястэчка блукаюць армейскія разведчыкі. З трыма вайскоўцамі ён гадзіны тры назад бачыўся ў саўгасе "Ведрыца". Даў арыенцір, дзе можна сустрэць партызанскіх пасланцоў. Карацей, назваў сядзібу дзеда Антона.

— Яны прыйдуць сюды вось-вось. Трэба партызан папярэдзіць...

Сапраўды, у хуткім часе ў двары дзеда Антона паяўляюцца тры маладыя хлопцы з перавешанымі праз шыю аўтаматамі. У зімовых шапках. Яны не старэй за партызан, якія іх сустрэлі.

У дзеда Антона, вядома, знайшлося пару бутэлек моцнага самагону і крышан сала. Так што сустрэчу адзначылі, як належыць.

Разведчыкі паведамляюць: савецкае войска абыходзіць мястэчка, не хоча браць яго ў лоб.

Не прыйшлося папярэджваць партызанскіх камандзіраў. Самі дазналіся, што савецкае войска пад мястэчкам. І ўжо гарцуюць на конях партызанскія камандзіры. Партызаны павядуць атрады ў абход мястэчка, каб прыкрыць дарогу для адступлення немцаў з заходняга боку.

Івану, Сяргею і Сашу Мялешку заданне: правесці разведчыкаў, некалькі сапёраў на хутар Ключэеў, каб адтуль выйсці на чыгунку і ўзарваць рэйкі на захад ад мястэчка. Каб нічога не паспелі немцы вывезці і не прыйшоў ім на дапамогу які-небудзь браняпоезд.

Старая ў вайскоўцаў карта. Даўно няма Ключэеўскіх хутароў і дарогі туды таксама няма. Але местачковыя хлопцы правядуць вайскоўцаў да любога месца на чыгунцы.

Заўтра пачнецца наступленне на мястэчка. Каб толькі немцы яго не спалілі. Бо пажар разглядаецца на ўсё неба. Неба здаецца чорным, злавесным.

Дзень быў цёплы, а ноччу прымаразак. Саша ў сваім пінжачку дрыжыць, як асінавы ліст. Цэлы цуг партызан і байцоў, перайшоўшы чыгунку, спыняецца непадалёк ад будкі, якую немцы, ахоўнікі чыгункі, зрабілі сваім апорным пунктам.

Ноч светлая, водбліскі местачковых пажараў добра відаць і адсюль, з ваколіцы мястэчка. Немцы, па ўсіх прыкметах, яшчэ не ўцяклі са свайго штуцпункта (так называюцца ўмацаваныя чыгуначныя будкі). Яны, вядома, бачылі і калону, якая перайшла чыгунку, і падрыўнікоў, група якіх, не тоячыся, вывалiла на насып чыгункі і пачала падкапвацца сапёрнымі лапатамі пад рэйкі.

Тым часам немцы са штуцпункта робяць выгляд, што нічога не заўважаюць. Сядзяць, як мышы пад венікам.

Сашу ад холаду трасе, як у ліхаманцы, зуб на зуб не трапляе. Нарэшце, калі падрыўнікі збягаюць з насыпу, ён у аднаго з іх выпрошвае сапёрную лапату. Той напачатку не хоча даваць.

— Яна табе болей не спатрэбіцца, — угаворвае падрыўніка Саша. — Капусту будзеш секчы? Заўтра немцы з мястэчка вымятуцца...

Падрыўнік нарэшце аддае лапату. Саша таропка капае ямку. Акопаў ён яшчэ не капаў, але ў лесе бачыў даўнейшыя — нямецкія, белапольскія.

Побач варушыцца Сяргей Ганчароў — мастак, які ў акупацыю маляваў багоў (іначай было не пракарміцца). Быў у сорак першым на фронце, трапіў у палон, але ўцёк адтуль. Сяргей больш практычны. У яго ёсць пляскаты нямецкі штых. Гэтым штыхам ён ямку сабе выкапаў і Сашу дапамагае.

*(Працяг на стар. 12)*

МУЗЫКА

## "Вердзіеўскі" барытон



**Паспяховыя выступленні маладых спевакоў на прэстыжных конкурсах пацвярджаюць даволі высокі ўзровень вакальнай падрыхтоўкі ў Беларускай акадэміі музыкі.**

**У італьянскім горадзе Алькама нядаўна прайшоў III Міжнародны конкурс оперных спевакоў. Прыемна адзначыць, што ўладальнікам трэцяй прэміі стаў нядаўні выпускнік вакальнага аддзялення нашай акадэміі Андрэй Марозаў. Яго прыгожы драматычны барытон і высокая прафесійная падрыхтоўка зрабілі адметнае ўражанне на кампетэнтнае журы, якое ўзначальвала сусветна вядомая італьянская спявачка Фіёрэнца Касота.**

**Андрэй займаўся ў класе народнага артыста Беларусі прафесара Анатоля Генералава. "Вердзіеўскі барытон" — так характарызуе настаўнік свайго вучня. "Я лічу, — дзеліцца сваімі думкамі Анатоль Міхайлавіч, — што Андрэй, безумоўна, павінны спяваць на прафесійнай опернай сцэне. У яго оперны голас, ён вельмі ўспрымальны і артыстычны. Яму ўласціва тонкая музычная інтуіцыя і асацыятыўнае ўяўленне".**

**У спектаклях опернай студыі Беларускай акадэміі музыкі Андрэй Марозаў з поспехам выканаў некалькі вядучых партый, у тым ліку Алека ў аднайменнай оперы С. Рахманінава, Фігара ў "Севільскім цырульніку" Д. Расіні. Ён з хваляваннем успамінае паездку ў Італію, якая была вельмі карыснай для яго як для прафесійнага спевака. З цеплынёй і ўдзячнасцю гаворыць Андрэй пра свайго настаўніка Анатоля Міхайлавіча Генералава, які вельмі дапамог яму ў падрыхтоўцы да конкурсу.**

**Між іншым, А. Марозаў мае і другую адукацыю. Ён закончыў Акадэмію музыкі па класе трубы, неаднаразова ўдзельнічаў у міжнародных конкурсах выканаўцаў на духавых інструментах і мае званне лаўрэата.**

**Хочацца верыць у шчаслівы творчы лёс таленавітага музыканта.**

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ**

## Апявае родны край

**У Брэсце адбылася вечарына, якая сабрала сяброў і прыхільнікаў творчасці заслужанага работніка культуры РБ Сяргея Любчука. Вядомы брэсцкі музыкант, кампазітар святкаваў сваё 60-годдзе. Ці магчыма ў 3 гадзіны вечарыны ўмясціць усё, што стварыла адораная душа? Але ж і невялікая частка творчасці дае ўяўленне пра песняра роднага краю.**

**Мастацкія калектывы і салісты выконвалі песні юбіляра, гучалі віншаванні. Выдатна выступіў народны ансамбль "Бярэсце", якім амаль 20 гадоў кіруе Сяргей Любчук. А сам юбіляр пранікнёна граў на баяне, і было відовочна, што на сцэне — музыка, як кажуць, ад Бога.**

**Добрым падарункам Сяргею Любчуку сталася выданне першага зборніка яго песень. Мабыць, з часам іх заспявае ўся Брэстчына і падхопіць краіна? Тады не будзе большага шчасця ў нашага земляка, чые песні народ прыме сэрцам.**

**Алена КАПАЧОВА**

г. Брэст

# Узровень zero? Ад размоў — да справы!

З 3 ПА 7 ЛІПЕНЯ СТУДЫЯ ЭЛЕКТРААКУСТЫЧНАЙ МУЗЫКІ Ў КРАКАВЕ ЎПЕРШЫНЮ ПРЫМЕ БЕЛАРУСКІХ КАМПАЗІТАРАЎ — УДЗЕЛЬНІКАЎ МІЖНАРОДНЫХ КУРСАЎ, АСНОВАЙ ЯКІХ БУДЗЕ КАМП'ЮТЭРНЫ МАЙСТАРКЛАС ПАРЫЖСКІХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

***Пра гэтую студыю кампазітар Яўген Паплаўскі распавёў год таму ў "ЛіМе" ("З Польшчы — сюрпрызы", 14.05.99 г.). Ён тады вярнуўся з Кракава, дзе ў Акадэміі музыкі прайшоў стажыроўку пад кіраўніцтвам сталых знаўцаў электраакустычнай творчасці Марэка Халанеўскага ды Магдалены Длугаш, і, апроч захаплення адкрытым для сябе новым сусветам гуку, дзяліўся ўласнымі ідэямі накont перспектывы спасціжэння гэтага сусвету "некамп'ютэрызаванымі" беларускімі калегамі.***

Ідэі заварожвалі сваёй прыгожай і, як тады здавалася, утапічнай логікай.

Электраакустычная студыя ў Кракаўскай акадэміі музыкі была заснавана ў 1973 г., стаўшыся першай у Польшчы дыдактычнай студыяй такога кшталту і другім (аднача́сова з эксперыментальнай студыяй радыё ў Варшаве) цэнтрам электраакустычнай музыкі. За няпоўныя тры дзесяткі гадоў яна ператварылася ў сусветна вядомы асяродак навукі і творчасці, дзе займаюцца ўжо не толькі студэнты **усіх** аддзяленняў Кракаўскай акадэміі, але і рэгулярна працуюць кампазітары з розных краін, адбываюцца канцэрты з сусветных узораў гэтай музыкі, праходзяць міжнародныя кансультацыі, семінары, курсы. У 1989 г. з дапамогай амерыканскага фонду "Fulbright" студыя была ўкамплектавана найноўшай камп'ютэрнай сістэмай, а яе сталыя супрацоўнікі наладзілі добрыя кантакты з іншаземнымі калегамі і, дарэчы, цяпер ужо самі чытаюць лекцыі ў ЗША.

За параўнальна невялікі тэрмін Кракаў зрабіўся пятым у свеце асяродкам электраакустычнай творчасці, што дазваляе польскім кампазітарам больш упэўнена пачуваць сябе ў суседстве з такімі еўрапейскімі цэнтрамі музычных "камп'ютэрных традыцый", як Штутгарт ці Парыж. Дык вось, на думку Я. Паплаўскага, асвоіць шлях у сучаснае сусветнае музычнае асяроддзе можа і Мінск, які сёння трымаецца на перыферыі гэтага шляху.

Так званай "электронікай" у нас займаюцца пераважна людзі з інжынернай адукацыяй. Дыпламаваныя кампазітары, за малым выключэннем, ведаюць камп'ютэр толькі звонку, нават не кратаілі яго клавіятуру, не маюць сродкаў, каб набыць тэхніку ва ўласнае карыстанне, не маюць побач кваліфікаваных кансультантаў, педагогаў, якія б ведалі і законы музычнай творчасці, і спецыфіку камп'ютэрных праграм. І гэта — на парозе новай эры!

А побач, у суседняй краіне, з якой звязвае нас і агульная музычная спадчына, і даўнія традыцыі ўзаемаабмену ў сферы мастацтва, ёсць сябры, гатовыя прыехаць і падзяліцца сваім досведам. Галоўнае — зацікаўленасць з нашага боку, уменне калегаваць, падтрымліваць стасункі, не абмяжоўвацца выпадковымі разовымі "акцыямі", пасля якіх ледзь прыкметны рух наперад вяртаецца да "нулявога варыянту". Важна, каб сяброўства, заснаванае на асабістай прыязнасці, прыватных знаёмствах, зрабілася плённым для ўсяго творчага супольніцтва, паспрыяла ажыўленню традыцый музычнай педагогікі, дабратворна паўплывала на мастацкі працэс. А гэта значыць, прыватную ініцыятыву кампазітараў павінны падтрымаць афіцыйныя ўстановы, зацікаўленыя ў развіцці айчыннай культуры і яе міжнародных сувязяў.

І што ж?

Уявіце сабе, "прыватная ініцыятыва" Я. Паплаўскага і яго шаноўных калег, кракаўскіх кампазітараў М. Халанеўскага ды М. Длугаш, сталася рэальным праектам!

●

Міністэрства культуры Беларусі, Польскі інстытут у Мінску, Беларускі саюз кампазітараў і Аўтарскі фонд, наша Акадэмія музыкі зладкавалі сёлетні вясной сціплы (хаця і міжнародны) фестываль пад назвай "Позірк у XXI стагоддзе". У Мінск прыехалі прафесар Марэк Халанеўскі, яго калега Магдалена Длугаш, а таксама віртуозны выканаўца, габаіст Марыюш Пэндзялак. Госці правялі лекцыю і майстарклас для педагогаў і студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі, пабывалі на канцэрце з твораў нашых кампазітараў, наладзілі прэзентацыю студыі электраакустычнай музыкі Кракаўскай акадэміі.

Было відавочна, што электраакустычная музыка для беларускіх творцаў — terra incognita. У канцэртнай праграме значыліся толькі тры аўтары, іх кампазіцыі датаваліся канцом 80-х — сярэдзінай 90-х гадоў, а чыннікі праслухоўвання перапрашалі, звяртаючыся найперш да польскіх калег: маўляў, зародкавы стан гэтай галіны творчасці вымушаў нас паказаць проста тое, што ёсць. Прагучалі кампазіцыі Сяргея Багданава ("Там канчаецца свет", дзе з электроннымі гучнасцямі спалучаны жаночы голас), Сяргея Бельцюкова ("Музыка для габоя і магнітафоннай стужкі", куды ўведзена і гучанне цымбалаў, а таксама "Гульня ў бісер"), Аляксандра Літвіноўскага ("Начныя званы", "Ra"). П'есы выклікалі большую ці меншую ўвагу слухачоў і роўную, дыпламатычную рэакцыю польскіх гас[цей,] з якімі мы пагутарылі адразу пасля канц[эр]та.

І пан Марэк, і пані Магдалена далікатна ўніклі канкрэтных прозвішчаў, выказаўшы агульныя ўражанні і парады. Яны не маглі не заўважыць, што электронна-акустычныя спробы беларускіх калег пачынаюцца "з узроўню zero", у той час як гэты напрамак існуе ў музыцы ўжо больш чым паўстагоддзя, і палякі спрычыніліся да яго каля сарака гадоў таму.

Зразумела, той, хто менш ведае, — ідзе на пошук, эксперыментуе часцей за спанатраных практыкаў, абцяжараных уласнай дасведчанасцю. Затое дасведчаны з асалодай і творчай свабодай карыстаецца неабмежаванымі магчымасцямі ва ўжо спазнаным свеце новых фарбаў гукапісу. А спазнаць свет электраакустычнай музыкі ніколі не позна. Напрыклад, сама пані Магдалена пачала заняткі за камп'ютэрам толькі 10 гадоў таму, а цяпер — сталая супрацоўніца студыі, прычым успамінае, як аднойчы

# Яе "спеўная душа" не стамляецца

***Мінская фірма (студыя) гуказапісу "Каўчэг" падрыхтавала і выпусціла трэцюю па ліку аўдыёкасету і кампактдыск пад назвай "Ах, любоў мая" з песнямі ў выкананні нашай папулярнай эстраднай артысткі Надзеі Мікуліч.***

Яе не зблытаеш ні з адной з цяперашніх прым беларускай эстрады. За дваццаць пяць гадоў служэння песеннаму мастацтву Надзея Мікуліч набыла сваё непаўторнае творчае аблічча, свой адметны імідж. Яшчэ працуючы ў складзе вакальна-інструментальнага ансамбля "Верасы", куды юная артыстка трапіла адразу пасля заканчэння Гродзенскага музычна-педагагічнага вучылішча, Надзея вызначалася сярод сваіх маладых калег яркімі музычнымі здольнасцямі. Атрымаўшы спецыяльнасць дырыжора-харавіка, у ансамблі яна хутка навучылася сумяшчаць ігру на электрагітары з вакалам. І ўжо тады, у паўзах паміж ансамблевымі нумарамі, нярэдка выконвала сольныя песні, часцей за ўсё рамансавага характару.

Прага творчага самасцвярджэння і пошукі індывідуальнага почырку ў мастацтве ўрэшце паспрыялі Н. Мікуліч заняць пачэснае месца на эстрадным Алімпе. Сёння гэта — сапраўдны музыкант-прафесіянал са сваім нацыянальным рэпертуарам і незвычайнай для цяперашняга часу ўраўнаважанай, някідкай манерай выканання. Эмацыянальная стрыманасць і знешняя прастата паводзін гэтай спявачкі на сцэне не замінаюць ёй, кожны раз унутрана пераўвасабляючыся, глыбока пранікаць у змест песні і быць гранічна шчырай і праўдзівай у перадачы розных чалавечых пачуццяў, думак і настрояў.

Я добра ведаю Н. Мікуліч як эстрадную выканаўцу з самых яе першых самастойных крокаў на прафесійнай сцэне, неаднаразова бываў на яе сольных канцэртах. І вось цяпер выпуск песенных альбомаў спявачкі дазваляе яшчэ раз ацаніць па заслугах яе значны выканальніцкі талент. Слухаючы пранікнёнае спяванне Н. Мікуліч, яе мяккі ўсхваляваны голас, міжволі трапляеш пад уладу створаных ёю чароўных песенных вобразаў, поўных душэўнай прыгажосці і чысціні, высокіх чалавечых памкненняў.



У творчасці гэтай салісткі перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу арганічнае спалучэнне найбольш прыкметных рыс сучаснай музычнай эстрады і традыцыйнага народнага мастацтва. Такая тэндэнцыя, наколькі я памятаю, праявілася яшчэ падчас выступленняў Н. Мікуліч на Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады (1983 г.), дзе яна атрымала дыплом за яркае выкананне новых песень беларускіх кампазітараў ("Ксеня" У. Будніка, "Аве Марыя" Э. Зарыцкага) і аднача́сова была адзначана спецыяльным прызам за ўласную апрацоў-

нуўся ў студыю 62-гадовы чалавек і, нягледзячы на "нестудэнцкі" ўзрост, паспяхова прайшоў курс навучання. Аднак стажор мусіць мець грунтоўную музычную адукацыю, слухаць, ведаць і ўмець параўноўваць мноства твораў усіх часоў, народаў і стыляў, каб потым спалучаць свой досвед з працай у адпаведнай камп'ютэрнай праграме.

А яшчэ, як мяркуе М. Халанеўскі, усялякая музыка — добрая для пэўнага асяроддзя, павінна гучаць і ўспрымацца ў адпаведнай канкрэтнай абстаноўцы. І тое, што яна не была прадумана і створана для беларускай канцэртнай праграмы, адмоўна паўплывала на ўспрыманне. Праз вялікія шыбы ў залу Саюза кампазітараў пранікала не толькі дзённае святло, а і шум вуліцы. Адцягвала ўвагу "інсталяцыя": раяль з драўлянай статуэткай кшталту народнай разной скульптуры. Наогул, цяжка было засяродзіцца на музыцы, якая гучала без удзелу жывых выканаўцаў, у запісе, затое ў шчыльным атачэнні жывапісных палотнаў. (У сціплым кампазітарскім доме размяшчаецца галерэя сучаснага беларускага мастацтва).

Словам, электраакустычную музыку трэба адгароджваць ад усяго, што адцягвае ўвагу наведнікаў канцэрта. І госці з Кракава паспрабавалі паказаць, як гэта робіцца, падчас прэзентацыі сваёй студыі — наколькі дазволіў інтэр'ер канферэнц-залы Палаца мастацтваў.

●

Усё адбывалася ў амаль абсалютнай цемры. Амаль — таму што адзінкавыя кволыя крыніцы святла скарыстоўваліся толькі функцыянальна, як частка музычна-артыстычнага дзеяння. У глыбіні залы быў устаноўлены пульт, з якога М. Длугаш ажыццяўляла праекцыю гуку. Гук, дарэчы, быў настолькі выразны, усеабдымны і... жывы, што здавалася — яго можна ўбачыць!

Праграму адкрывала "Карозія часу" Яўгена Паплаўскага — гэту кампазіцыю ён стварыў у кракаўскай студыі, засведчыўшы ўдалы вынік сваёй першай стажыроўкі і, можна лічыць, распачаўшы стасункі беларускіх творцаў з сур'ёзнай школай электраакустычнай музыкі. "Карозія часу" — мастакоўская рэфлексія з нагоды хуткаплыннасці зямнога чалавечага жыцця і неўміручасці душы — уразіла фантанам фарбаў, адценняў, эфектаў.

Польскія творцы, вядома ж, выглядалі спанатранымі, ашчадлівымі, больш пераборлівымі ў сродках выразнасці, але ж схільнымі да хэпенінгавага эпатажу. У п'есе Багуслава Шэфера для габоя і магнітнай стужкі ўражваў віртуозны і артыстычны Марыюш Пэндзялак: ён гуляў гукам, ён гуляў "рэквізітам", ён гуляў з публікай! Іграў, амаль танцуючы; разбіраў габой на часткі, каб, падзьмуўшы ў кожную, дадаць маленькі свежы штрых да гукапіснага палатна; круціў трашчотку; да ўсяго, узяў фотаапарат, навёў на залу і пыхнуў бліцам публіцы ў вочы! Пры гэтым не змаўкала музыка... У аналагічным выкананні была прадстаўлена і кампазіцыя Ганны Завадскай-Голаш: менш эпатажная вонкі, ды не менш вынаходлівая па-мастацку.

А "ТаВаМа" Магдалены Длугаш для віртуальнага кантрабаса ўзрушыла дасканаласцю мастацкай ідэі і тонкасцю яе ўвасаблення. На жаль, аўтар мусіла паказаць сваю працу ў запісе: эфект быў бы, безумоўна, мацнейшы, калі б у дуэце з "віртуальным" кантрабасам граў жывы музыкант — адпаведна задуме. І ўсё ж у час гучання "ТаВаМа" — дайце веры! — я адчувала кантрабас як жывую істоту, чула, як ён дыхае, гамоніць, рухаецца, плача. Адчувала сябе ў кантрабасе, ці мо сябе... кантрабасам?!

Прафесар Халанеўскі прадэманстраваў сваё нядаўняе інжынернае вынаходніцтва ў кампазіцыі "Dark and Lightzone" для аптычнай сістэмы і камп'ютэра. Вось гэта ўзлёт інтэлекту! Кампазітар прыдумаў "інструмент", праз які гук рэагуе на святло. Уявіце сабе чалавека на сцэне, які, пакорпаўшыся ў "Макінтошы", аплятае сябе нейкімі правадамі, размяшчае датчыкі на падлозе, потым шпацыруе туды-сюды, маніпулюючы вялікай лямпай (у ідэале мусіць быць аўтафара). На рознай адлегласці лямпы ад датчыкаў мяняецца гук: інтэнсіўнасць, тэмбр, вышыня, рытм. (Міжволі ўспомніўся тэрменвокс, адзін з першых электрычных інструментаў, гранне на якім ажыццяўлялася рэгуляцыяй даўжыні электрамагнітных хваляў — дакладнымі рухамі рук у "пустым" паветры паміж спецыяльнымі пласцінамі). Прафесар нагадваў ці то шамана XXI стагоддзя, ці то рызыкоўнага ілюзіяніста, калі "гукапісаў" з дапамогай лямпачкі і камп'ютэра, накіроўваючы святло нават сабе пад сківіцу ці на датчык, схаваны ў роце. Вось такая музыка...

Наш госць ахвотна адказваў на пытанні агаломшаных відавочцаў тэхнічнага цуду. Але пры гэтым падкрэсліваў, што сутнасць мастацтва — кантакт чалавека з чалавекам, і таму зусім не галоўнае, якая тэхніка выкарыстоўваецца творцамі. Галоўнае — жывы рух, жэст, своеасаблівы тэатр. Таму паказ электраакустычнай творчасці вымагае ўдзелу жывога чалавека: або музыканта, або відачынца, або артыста балета...

●

"Позірк у XXI стагоддзе" атрымаўся кароткі, але пільны. Першы візіт гасцей з Кракава даў надзею на далейшыя стасункі. Калі ў студыю электраакустычнай музыкі едуць павучыцца стажоры з Бразіліі ці ЗША, дык чаму не шукаць такую магчымасць беларускім кампазітарам? Для іх дзверы студыі заўсёды адкрыты. Варта толькі заключыць адпаведнае пагадненне наконт абмену культурнымі праграмамі, знайсці крыніцу фінансавання супольных праектаў. Тады можна думаць пра перспектывы ўзаемных візітаў, пра арганізацыю лекцый, майстаркласаў, фестываляў...

А пакуль некалькі беларускіх кампазітараў запрошана ў кракаўскую студыю на Міжнародныя курсы. Пра дэталі — маўчу. Каб не сурочыць.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: студыя Кракаўскай акадэміі музыкі. У цэнтры — прафесар М. ХАЛАНЕЎСКІ.*

---

ку і інтэрпрэтацыю народных песень (лірычная "Рэчанька" і жартоўная "Мой міленькі захварэў").

Непарыўная сувязь з багатымі вытокамі нацыянальнага фальклору вельмі адчуваецца ва ўсім канцэртным рэпертуары спявачкі. І тады, калі ў яе выкананні гучаць больш удумлівыя, глыбока асэнсаваныя песні нашых кампазітараў, напісаныя ў духу лепшых народных традыцый ("А ў полі бяроза" І. Паліводы, "Сумная каліна" У. Будніка, "Даражыце словамі" Н. Мікуліч); і тады, калі яна спявае эстрадныя шлягеры з сучаснымі танцавальнымі рытмамі ("Адчапіся ад мяне" М. Яцкова, "Вугольчыкі" В. Тараса, "Скрыпачка з баянам" П. Яроменкі). У адпаведнасці з гэтым і выканальніцкі стыль артысткі як бы спалучае ў сабе два розныя творчыя кірункі — эстрадны і народны, — якія яна трывала прытрымліваецца на працягу многіх гадоў, нягледзячы на заўсёдную навакольную пагоню за музычнай модай. Хаця і сама Надзея не супраць новых сродкаў тэхнічнай і музычнай выразнасці: раней спявала выключна пад гітару, а цяпер у асноўным карыстаецца "мінусовай" фанаграмай. Бо пры адсутнасці "жывога" ансамбля гэта значна ўзбагачае і пашырае інструментальныя магчымасці акампанементу.

Што датычыць галоўнай тэматыкі песень, запісаных спявачкай на касеты і першы кампактдыск, то я вызначыў бы яе коратка: усё — пра мілых жанчын, пра іх няпросты жыццёвы лёс з рознымі паваротамі і гранямі ў бурлівай плыні нашай рэчаіснасці. "Я артыстка, я загадка; я — жанчына-чараўніца..." — такімі спавядальнымі радкамі цудоўнай песні В. Сярых (вершы Н. Тулупавай) пачынаецца кожны раз яе сольная праграма. Прысвечаны памяці вядомай нашай чытальніцы Ганны Рыжковай, гэты вакальны маналог Н. Мікуліч, маючы па сутнасці аўтабіяграфічны сэнс, надзвычай хвалюе сваёй праўдзівасцю выказвання пра лёс артыстычнай асобы.

Вакол Надзеі Мікуліч у апошнія гады аб'ядналіся некалькі таленавітых кампазітараў, у тым ліку Д. Даўгалёў, С. Наско, В. Тарас, П. Яроменка, якія пішуць для яе новыя песні на вечна актуальныя "жаночыя" тэмы. Асабліва цікавы шэраг задушэўных песень-рамансаў: выкладчык адной з мінскіх музычных школ Віктар Тарас разам з паэткай Аленай Харавец падрыхтавалі для Н. Мікуліч цэлы вакальны цыкл любоўна-рамантычнай лірыкі, што запісаны на касету пад назвай "У садзе Сусвету" і часткова ўвайшоў у кампактдыск.

Вельмі плённым аказалася творчае супрацоўніцтва з незнаёмым для Беларусі новым аўтарам, дырыжорам-духавіком паводле прафесіі, Наталляй Чэлембаевай, якая прыехала да нас на сталае жыхарства з Узбекістана. Яе эстрадна-жанравыя песні "Даруй", "Раман", "Мая адзінота", якія Н. Мікуліч выконвае на канцэртах, па радыё, якія таксама запісаны на кампактдыску, выклікаюць адчуванне сапраўднай чысціні і рамантычнай узвышанасці ствараемых ёю жаночых вобразаў.

Значнае месца ў рэпертуары спявачкі займаюць уласныя песні лірычнага і жартоўнага характару, напісаныя на тэксты Я. Бароўскага, Б. Асмалоўскага, А. Стрыгалёва, І. Цітаўца. Кампазітарскія задаткі выявіліся ў яе яшчэ ў студэнцкія гады. Але па-сапраўднаму, сур'ёзна ўзяцца за складанне песень яна адважылася толькі ў сталым узросце, калі пачала выступаць на сцэне з сольнымі праграмамі.

Песні Н. Мікуліч у большасці вылучаюцца выразнасцю мелодый, адметнай напеўнасцю і яскравым народным каларытам. "Позняе каханне", "Ой, бяда", "Лета мядовае", "Грэшніца вясна", "У старым двары", "Споведзь пакінутай жанчыны", "Спеўная душа" — гэтыя і шэраг іншых твораў у цудоўным аўтарскім выкананні ўзнімаюць жыццёва важныя тэмы, абуджаюць светлыя надзеі на тое, што менш будзе ў нас "горкіх расстанняў, здрад і трывог".

Сярод іншых на першы кампактдыск трапіла вельмі ўдалая песня "Спеўная душа" (словы Л. Ляпко), якая досыць аптымістычна гучыць як фінальны нумар кожнага сольнага канцэрта Н. Мікуліч:

***Мая спеўная душа не стамляецца,***
***Бо ў надзеях і ў снах не губляецца.***
***А інача я жыць не ўмею,***
***Мо таму мяне клічуць Надзеяй.***

Сапраўды, "спеўная душа" Надзеі Мікуліч, не ведаючы стомы, з году ў год працягвае радаваць і зачароўваць усё новых прыхільнікаў айчыннай эстрады. Нездарма атрымала яна гэтай вясною званне заслужанай артысткі Беларусі.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

*Фота К. ДРОБАВА*

---

СУСТРЭЧЫ

# "Неба і Зямля Фердынанда"

Па запрашэнні Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва і Польскага інстытута ў Мінску з 12 па 14 чэрвеня на Беларусі знаходзіўся Фердынанд Рушчыц — дырэктар Нацыянальнага музея ў Варшаве. Ён быў не адзін: з жонкай Гражынай і Францішкам Цэмкам — дырэктарам дэпартамента Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы.

Іх прыезд быў выкліканы рэалізацыяй шматгадовага акадэмічнага выставачнага праекта "Беларускае выяўленчае мастацтва на мяжы тысячагоддзяў". Чарговая выстава акадэмікаў пад назвай "Неба і Зямля Фердынанда", якраз прысвячаецца 130-годдзю з дня нараджэння слыннага мастака Фердынанда Рушчыца.

У Мінску госці сустрэліся з сябрамі Арганізацыйнай рады па правядзенні І Міжнароднага акадэмічнага пленэру імя Ф. Рушчыца — беларускімі мастакамі, акадэмікамі Г. Вашчанкам, В. Шаранговічам, Л. Шчамялёвым, В. Альшэўскім, М. Баразной, У. Вішнеўскім, У. Зінкевічам, Г. Скрыпнічэнкам, В. Славуком, У. Тоўсцікам, Ф. Янушкевічам і пазнаёміліся з іх творчасцю. Сам пленэр мяркуецца правесці ў верасні на радзіме творцы.

Асобная гутарка адбылася каля макета помніка Фердынанду Рушчыцу, прапанаваным акадэмікам Валяр'янам Янушкевічам. Пад уражаннем ад праекта, проста з майстэрні, усхваляваны ўнук мастака па сотавым тэлефоне звязаўся з 86-гадовым бацькам, Эдвардам Рушчыцам, што жыве ў Варшаве і выказаў свае пачуцці.

Назаўтра развіццё падзей перанеслася на Валожыншчыну. Гасцей вітаў старшыня райвыканкама спадар Валянцін Малішэўскі. Пасля грунтоўнай размовы наконт запланаваных акадэміяй акцый па ўшанаванні памяці Ф. Рушчыца і экскурсіі па гістарычных мясцінах Валожына ўсе накіраваліся ў Багданава. На шляху наведалі нядаўна адрэстаўраваны мемарыял загінуўшым нямецкім салдатам І сусветнай вайны ў Дзесятніках (гэтыя землі да 1939 г. належалі сям'і Рушчыцаў). Там іх ужо чакалі старшыня Багданаўскага сельсавета Міхал Журкевіч і старшыня калгаса Генадзь Адамовіч. У Багданаве затрымаліся ў вельмі гасціннай хаце, дзе спыняюцца Рушчыцы, калі надараецца магчымасць наведаць магілы родных.

Могільнік Рушчыцаў — гэта асобная, на жаль, ужо рэдкая з'ява фамільных акропаляў на Беларусі. Пахаванні ператрывалі ўсе рэвалюцыйна-разбуральныя вятрыскі. Каля помнікаў зацепліліся запаленыя свечкі.

Менш пашчасціла тэрыторыі, дзе стаяла сядзіба Рушчыцаў. І зусім не пашанцавала збудаванням маёнтка. Цяпер гэта самая тыповая ілюстрацыя класавых адносін і непавагі да нацыянальных каштоўнасцяў. Праўда, тут адбылася неспадзяванка. На зарослым цагляна-каменным правале, месцы колішняй майстэрні мастака, да яго ўнука з воклічам "Эдвард, чаму ты мяне не пазнаеш? Ты такі малады..." — кінуўся згорблены стары са слязамі на вачах і кульбай у руцэ. Высвятліўшы, што той не Эдвард, дзядуля перайшоў на добрую польскую мову і расказаў як бавіўся з дзецьмі мастака. Гэта быў сын фурмана Амаляўскага (у сваіх "Дзённіках", выдадзеных у 1994-1996 гг. Рушчыц часта згадвае пра яго).

Да чарговага наведвання Багданава Рушчыцы падрыхтаваліся грунтоўна, паколькі, апроч пленэру і помніка, акадэмія плануе аднавіць сядзібу мастака як музейна-выставачны комплекс і на яго базе рэгулярна праводзіць Міжнародныя акадэмічныя пленэры. У памяці асеў сімвалічны вобраз: людзі трымалі ў руках планы зямлі, чарцяжы даўніх збудаванняў, зробленых Эдвардам Рушчыцам, а зверху праплывалі аблокі як на несмяротных палотнах яго бацькі. Выбраўшы месца для помніка, наведвальнікі Багданава сардэчна развіталіся з усімі, хто так гасцінна іх сустракаў.

Перад адлётам адбылася неафіцыйная сустрэча з міністрам культуры РБ спадаром А. Сасноўскім, падчас якой гасцей пазнаёмілі з беларускай культурнай палітыкай. Адбыўся абмен думкамі па адбудове сядзібы з прапановай беларускага боку ўзяць на сябе выкананне праектнай часткі.

Напрыканцы візіту ў Беларусь, насычанага сустрэчамі, гасцей прыняў амбасадар Польшчы Марыюш Машкевіч, дзе таксама вялася гутарка ў рэчышчы пастаўленых пытанняў аб годным ушанаванні памяці вялікага мастака, які нарадзіўся на нашай зямлі.

**Ян КАРЛОВІЧ**

## Вершы вернікаў

У светлыя дні Вялікадня з'явілася кніга паэзіі вернікаў — тых, каго аб'ядноўвае шчырае імкненне да чысціні духоўнай, да жыцця ў Хрысце.

"Ды ўваскрэсне любоў" — назва ўжо сама гаворыць за сябе. Зборнік безганарарны, выдадзены на сродкі Св. Пятра-Паўлаўскага сабора і Беларускага праваслаўнага брацтва Святых Віленскіх мучанікаў (г. Мінск).

Аснову кніжкі склалі вершы на беларускай і рускай мовах, дасланыя ў свой час у рэдакцыю газеты "Царкоўнае слова", а пасля далучыліся іншыя аўтары — прафесіяналы і тыя, хто піша, як гаворыцца, "для душы".

Нарадзілася гэтая кніжачка, і, як дзіця збірае блізкіх, так і ў царкоўнапрыходскім доме сабора сустрэліся і аўтары, і чытачы, і ўсе, хто мае дачыненне да яе выхаду ў свет.

Увіце радасць аўтараў, якія ўпершыню ўбачылі сябе надрукаванымі, ды яшчэ ў такім незвычайным выданні. Да ўсяго — магчымасць пазнаёміцца, атрымаць аўтограф.

Цёплыя, удзячныя словы гаварыліся ў адрас стваральнікаў: протаіерэя, настаяцеля храма Георгія Латушкі, адказнай за выпуск Лідзіі Кулажанкі, мастака Валерыя Сенчанкі, укладальніка-рэдактара пісьменніцы Галіны Каржанеўскай, вярстальшчыцы тэксту Алены Наследышавай. Вышэйназваныя асобы, Галіна і Алена, і ўзялі на сябе "паслушніцтва" — арганізацыю і правядзенне вечарыны-прэзентацыі. Свае вершы чыталі Аліна Легастаева, Уладзімір Пецюкевіч, Марыя Мількевіч, Людка Сільнова, Алесь Клышка і іншыя. А школьнікі — вершы паэтаў (а іх у кнізе 36), якія жывуць далёка і не змаглі прысутнічаць на свяце. Назавём асобныя імёны: Алег Бембель (Жыровічы), Лілія Мялешка (Клецк), Ігар Пракаповіч (Паставы), Наталля Сівак (Чэрвень), Сяргей Давідовіч (Мінск)...

Прызнаюся: колькі ні гартаю гэтую гожую кнігу — цяжкавата выбраць радкі для цытавання; у кожным з вершаў такія чыстыя, пранікнёныя, выпакутаваныя душой словы... Іх трэба чытаць самому, сваім блізкім, дзецям, каб умацавацца, выжыць у наш складаны час.

**Ядвіся КВЯТКОЎСКАЯ**

## Пра Косава і не толькі

Нядаўна мінуў год, як скончылася вайна ў Югаславіі. З гэтай нагоды пасольства СРЮ ў РБ наладзіла спецыяльную выстаўку дакументаў, выяўленчых і друкаваных матэрыялаў. Адкрыў яе Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Югаславіі п. Нікала Пеякавіч у прысутнасці многіх прадстаўнікоў СМІ, навуковай і творчай інтэлігенцыі, а таксама грамадска-палітычных рухаў. У праграме згаданага мерапрыемства была і прэзентацыя кнігі "Косаўская бітва працягваецца", аўтарам якой з'яўляецца прафесар Іван Чарота — вядучы даследчык і перакладчык-югаславіст Беларусі, старшыня бюро секцыі перакладу і літаратурных сувязяў Саюза беларускіх пісьменнікаў, загадчык кафедры славістыкі Белдзяржуніверсітэта.

Між іншым, частка матэрыялаў, якія склалі кнігу, у свой час друкавалася на старонках "ЛіМа", "Царкоўнага слова", "Беларусі", "Чырвонай змены" і іншых выданняў. А пазней гэта, дапоўненае і разгорнутае, аформілася ў сур'ёзны зборнік.

Іван Чарота сваю кнігу прадставіў сціпла, звяртаючы ўвагу не на асабістыя заслугі, а на змест падзей, якія адбываліся год таму назад, і значнасць іх у гісторыі не толькі сербаў і албанцаў, але і народаў славянскай супольнасці, Еўропы і ўсяго свету.

Як высветлілася, кніга пісалася і была завершана яшчэ ў час ваенных дзеянняў краін НАТА супраць Югаславіі, была непасрэднай рэакцыяй на гарачыя падзеі, але выдадзена толькі праз год, ды і то невялікім тыражом і дзякуючы падтрымцы Праваслаўнага Брацтва Архістраціга Міхаіла пры Пакроўскай Царкве горада Мінска (у Крупцах).

Нарэшце падзей, якім прысвечана кніга, у друку Беларусі выказваліся розныя меркаванні. І зараз, напэўна, інтэрпрэтацыя іх І. Чаротам можа выклікаць неадназначную рэакцыю. Але ж у любым выпадку трэба аддаць належнае той грунтоўнасці і шматбаковасці, з якой у кнізе асвятляецца шырокае кола пытанняў, звязаных з Косавам, Сербіяй, Югаславіяй. А таксама з усімі намі, грамадзянамі Еўропы канца другога тысячагоддзя.

**У. І.**

ДАТЫ

# Адляцела душа ад Веткі

### ДА 85-ГОДДЗЯ ДЗМІТРЫЯ КАВАЛЁВА

Шмат знакамітых людзей выйшла з веткаўскай зямлі, але калі размова заходзіць пра прадстаўнікоў прыгожага пісьменства, землякі з пачуццём гонару называюць імя вядомага рускага паэта Дзмітрыя Міхайлавіча Кавалёва, якога, на жаль, ужо 23 гады няма з намі.

Нарадзіўся Дзмітрый Кавалёў 17 чэрвеня 1915 года ў мястэчку Ветка — гістарычным цэнтры стараверства беглых раскольнікаў, у ваколіцах якой двойчы бываў сялянскі змагар Ямелька Пугачоў і якую ўпамінае ў адным са сваіх твораў Аляксандр Пушкін.

Дзмітрый Кавалёў — з простай сялянскай сям'і, галава якой быў кавалём. Вельмі аўтабіяграфічны ў гэтым сэнсе верш "Родословная", дзе паэт піша:

***"...Мать — русская, отец мой — белорус, —***
***Я вновь, как в Киевской Руси, един,***
***Как та вода, что пьем,***
***Хлеб, что едим..."***

Дарэчы, ён заўсёды памятаў родныя карані, зноў і зноў вяртаўся да вытокаў:

***"Время летит метко,***
***Но шумит по-весеннему вечно.***
***Вечно зеленая Ветка".***

Або яшчэ:

***"В Ветке память моя не уронена,***
***В Ветке мама моя похоронена..."***

Першыя спробы пяра будучага лірыка адносяцца да 1936 года, а ў 1938-м першыя вершы з'явіліся ў друку. У тых жа 30-х скончыў Дзмітрый Кавалёў рабфак, настаўнічаў на Гомельшчыне, выкладаючы ў школах беларускую мову, завочна вучыўся ў Ленінградскім універсітэце.

Важным этапам у яго творчасці стаў 1939 год. У жніўні ён, просты вясковы настаўнік, прыехаў у Мінск на канферэнцыю маладых паэтаў. Тут пачынаючы паэт сустрэўся і на многія гады пасябраваў з Піменам Панчанкам, з такімі ж, як сам, маладымі паэтамі (сярод іх быў, дарэчы, і Іван Мележ, які пісаў у юнацтве вершы).

Але высокім марам і парыванням маладых суджана было збыцца не адразу. Пачалася вайна. Дзмітрый Кавалёў з першага і да апошняга дня яе служыў марскім пехацінцам на Паўночным флоце, плаваў на падводнай лодцы. Ён напісаў вершы пра баі, пра ваенных маракоў, пра вернасць і абавязак. Напісаў праўдзіва, бо сам перажыў гэта:

***От всей заставы***
***Пятеро осталось,***
***И не сознанье подвига***
***— Вина.***
***В глазах — тысячелетняя усталость,***
***А только-только началась война.***

Пасля вайны Кавалёў пасяліўся ў Маскве, дзе і жыў да апошніх сваіх дзён. Тут ён скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літінстытуце імя Горкага ў 1957 годзе.

Але паэт ніколі не парываў сувязей з Беларуссю, з роднай Веткай. Невыпадкова значнае месца ў яго вершах займае пейзажная лірыка, узгаданая ўспамінамі і ўражаннямі дзяцінства. Але не толькі апісальнасць, апяванне прыроды ўласціва лірыцы паэта. Нельга не заўважыць і такую характэрную для творчасці паэта дэталь, як жывое адчуванне тапанімікі, прыгажосці ў звычайных назвах гарадоў і вёсак. Вось, напрыклад, радкі з верша "Деревенская почта":

***Грачи, не от вас ли разведка,***
***Прудок, Поколюбичи, Ветка?***
***И Чёнки, и Клёнки, и Плёсы,***
***Где облачка в Соже белесы,***
***Где солнечно вербным сережкам...***

Дарэчы, вось як успамінаў П. Панчанка пра іх першую сустрэчу пасля вайны: "Дзіма стаў да рэзкасці праўдзівым. Не любіў пустых гутарак. Запомнілася яго цяльняшка, у якой ён доўга хадзіў па Мінску".

Між іншым, тут жа, у Мінску, у далёкім пасляваенным 1947-м годзе выйшаў першы зборнік лірыкі Кавалёва "Далекие берега". А затым адзін за другім спачатку ў Мінску, а потым у Маскве сталі рэгулярна з'яўляцца на свет яго кнігі, сярод якіх "Мы не расстаемся" (Мн., 1953), "Рябиновые ночи" (Мн., 1958), "Солдатские думы" (М., 1958 ), "Тихая молния" (1961), "Молчание гроз" (1964).

Вельмі добра, дакладна сказаў аб творчым кірунку Д. Кавалёва яго сябар, народны паэт Беларусі П. Панчанка ў прадмове да адной з кніг веткаўскага паэта "Кому что дорого": "Дзмітрый Кавалёў сваё недажыў, недакахаў. Але два дзесяткі кніг яго вершаў, кніг добрых, крытычных артыкулаў — будуць жыць доўга. А мы, беларуская паэзія і празаікі, будзем заўсёды ўдзячны выдатнаму паэту і чалавеку за пераклады нашых твораў".

Так, Дзмітрый Кавалёў пакінуў нам багатую спадчыну. Яго паэзія, на першы погляд не кідкая, мае глыбокі філасофскі сэнс. Крытыкі адзначаюць, што лірыцы паэта ўласцівыя высокі пафас грамадзянскасці, адчуванне псіхалогіі чалавека, глыбокае пачуццё Радзімы і адказнасці за яе лёс.

Паэзія Кавалёва — адкрытая душэўная размова, у якой аўтар дзеліцца багаццем сваёй душы і думкі з чытачом.

**Рыгор ГАНЖУРАЎ**

*г. Ветка*

# ПЕРШЫ ДЗЕНЬ СВАБОДЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Затым Саша ідзе да копкі, якая шарэе паблізу: будачнік сена накасіў. Прынёс добры ахапак сена, частку Сяргею Ганчарову даў. Ён зашыўся ў сена і, сагрэўшыся, нават задрамаў.

Далейшыя падзеі адбываюцца золкай раніцай. З боку лесу па пясчаным шляху рухаюцца дзве нямецкія танкеткі. Заўважыўшы норкі-акопчыкі партызан (перад лесам акапалася яшчэ адна партызанская рота), яны коўзаюцца па іх, душачы людзей.

Але і самі хутка знаходзяць пагібель. Да партызан, нібы прадчуваючы бяду, далучылася некалькі армейскіх сапёраў. Яны вылазяць з кустоў і закапваюць на пясчаным шляху некалькі супрацьтанкавых мін. І якраз жа на гэтых мінах падрываюцца танкеткі. Спачатку адна, затым — другая. Танкістаў, якія адкрылі люкі і спрабавалі выбрацца з нерухомых машын, зрашэцілі кулямі партызаны.

А вось партызаны, якія перайшлі чыгунку, здрэйфілі. Немцы са штуцпункта, чалавек пятнаццаць, нарэшце кінуліся наўцёкі. Партызанам нічога не каштавала іх перастраляць. Але яны дружна кінуліся ў лес. Не захацелі ўсчынаць бойку. Праўда, і партызаны гэтыя — з брыгады імя Чапаева — напалавіну былыя паліцаі. Здаціся партызанам дружна, са зброяй і з паліцаяў ператварыліся ў народных мсціўцаў.

Узыходзіць сонца, развейваецца туман. Але гэта ўжо інакшае, чым учора, сонца, і асвятляе яно другую, чым учора, зямлю. Трэба адчуць імгненне, калі прыходзіць свабода. Саша адчуў і ўздзячны лёсу за гэта.

Мястэчка не згарэла. Немцы толькі ўласныя базы, склады папалілі, якія размяшчаліся пераважна ў райспажыўсаюзаўскіх будынках. Асабліва шкада новай, вялікай, выбудаванай з добрага сасновага цёсу будыніны ў канцы Сашавага агарода.

Саша і ва ўласную хату завітвае. З сям'і яшчэ ніхто не вярнуўся. За сталом сядзяць чалавек сем байцоў. Снедаюць. Яны раскрылі капец з бульбай у агародчыку перад хатай, наварылі бульбы, зрабілі тоўчанку і ядуць бульбяную кашу з хлебам. Акрамя хлеба, у байцоў больш нічога няма.

А сонца, як назло, у гэты дзень глыбокай восені свеціць па-летняму. Вуліцы тым часам проста забіты абозамі, фурманкамі, коньмі: падыходзяць тылавыя часці.

Немцы, відаць, ведаюць нашы падкі. Налятае штук дзесяць самалётаў. Кідаюць бомбы на вайсковыя натоўпы. Бомбы касетныя: падае адна, на ляту раскрываецца і з яе чэрава вылузваецца некалькі драбнейшых. Многа крыві нарабілі гады.

З лесу па мястэчку немцы страляюць. Але і артабстрэл, і гэты барбарынскі налёт самалётаў не могуць заглушыць перамožнай музыкі, якая звініць у Сашавай душы. Як гэта так: учора хадзілі вось па гэтай вуліцы немцы, адчувалі сябе гаспадарамі, звысака глядзелі на тутэйшыя шэрыя хаціны, а сёння іх няма. Зніклі, як прывіды. І як адчуваюць сябе нямецкія салдаты, якія збеглі з мястэчка ў лес і адтуль грозяцца снарадамі? Што, бацькаўшчыну страцілі? Ці на самай справе верылі, што яны вышэй астатніх людзей? Ва ўсякім разе, вышэй тубыльцаў гэтага шэрага драўлянага паселішча з яго гразкімі вуліцамі, пачарнелымі ад дажджоў гонтавымі дахамі хат, драўлянымі парканамі і платамі.

Да каго першага пайсці?

Саша наважвае завітаць да аграномa Драгуна. Ён найбольш актыўны ў іхняй групе: дзейсны, рухавы, вынаходлівы. Гэта ён учора вечарам сустракаў хлопцаў, якія прыходзілі на ўзлесак, на сядзібу дзеда Антона. Ён сказаў і пра разведчыкаў.

Але так здараецца, што першым, да каго завітвае Саша, аказваецца Васіль Грышкін, таксама падпольшчык, хата якога размешчана ў цэнтры мястэчка, каля базарнай плошчы. У тым жа двары сельсавецкі дом, у якім жыве настаўніца нямецкай мовы Паліна Сяргееўна. Яе муж быў старшынёй сельсавета.

Дом Паліны Сяргееўны замкнёны: відаць, недзе прыхавалася кабета, а Васіль дома. Ён не прыходзіў разам з іншымі на сядзібу дзеда Антона, і Сашу асабліва цікава пагаварыць з ім: як-ніяк, даўно не бачыліся.

Васіль такі ж марудны, павольны ў рухах, як і раней. На яго ных шырокіх плячах аж трашчыць трохі малаваты, з кароткімі рукавамі пінжачок.

— Не хаваўся? — пытае Саша.

— Ноч прасядзеў на гарышчы. Раніцай злез.

— З Палінай Сяргееўнай не гаварыў?

— Гаварыў. Пра цябе сказала, добра зрабіў, што сыйшоў у лес. У Байдакі забралі б абавязкова. З тго канца мястэчка схапілі чалавек дзесяць. Нават двух паліцэйскіх, якія адмовіліся ехаць на захад. Блізнюка, настаўніка, схапілі. Нешта сказаў такое, што немцам не спадабалася. І галоўнае, не кормяць людзей у тых Байдаках. Вязні жывуць тым, што хто-небудзь з сялян кіне праз дрот бульбіну ці бурак...

— Загад ваенкамата вывешаны, — заканчвае Васіль пералічваць навіны. — На слупе на базары. Нам з табой у армію яшчэ не трэба. На нашым годзе прызыў абрываецца...

Саша адчувае: нейкае няпэўнае падсвядомае пачуццё прывяло яго якраз туды, куды хацеў. Васіль мае агароджаную дашчаную бакоўку, у якой яны сустракаліся, вялі свае патайныя размовы. Усе два гады акупацыі. Разам з Грышкіным Саша хадзіў у адступленне. Няўдала: на Дняпры ўжо ішлі баі.

— Ты карту захаваў?

— Захаваў.

З-пад старэнькага палавіка, якім заслана падлога Сашавай бакоўкі, ён дастае, затым разгортвае карту еўрапейскай часткі Савецкага Саюза. Яна ўся спярэшчана рознымі значкамі, кружкамі, трохвугольнікамі, квадратамі, лініямі.

Пачынаючы з восені сорак першага года, хлопцы адзначалі становішча на франтах. Каля кожнага больш-менш буйнога горада стаяць нанесеныя алоўкам дзве лічбіны: калі нашы горад здалі і калі ўзялі яго назад.

Лініі азначаюць становішча на фронце ў тым ці іншым месяцы, кружкі, трохвугольнікі, квадраты — мясціны, дзе былі акружаны савецкія дывізіі, вайсковыя злучэнні, арміі. Карта аж пярэсціць такімі кружкамі-квадратамі і на паўночным абсягу, і на сярэднім, і на паўднёвым.

І вось, нягледзячы на гэтыя іхнія знакі паражэння, савецкая армія тут, у мястэчку. Ад акружэння сталінградскай групоўкі да ўзяцця малавядомага палескага мястэчка прайшоў роўна год. Столькі часу спатрэбілася дывізіі, якая ўзяла мястэчка, каб фактычна прайсці агромністую адлегласць.

Хлопцы рознымі шляхамі здабывалі звесткі (адзін час у іх было радыё), выпытвалі пра становішча на фронце Паліну Сяргееўну, іншых людзей, якія мелі доступ да нямецкіх крыніц.

Навошта яны гэтак рабілі? Можна ўпэўнена адказаць: дзеля сённяшняга дня, калі па вуліцы ходзяць не надта ахайна апранутыя савецкія салдаты. Без гэтага першага дня свабоды ніякай будучыні хлопцы-дружбакі не бачаць. Гэта нібы дзень іх нараджэння, вялікае свята, значэння якога яны яшчэ як след не ўсведамляюць.

ВІНШУЕМ!

# Лідзіі АРАБЕЙ — 75

***Талент — ён ва ўсім талент. У гэтым лішні раз упэўніваешся, калі акідваеш позіркам жыццёвы і творчы шлях, пройдзены Лідзіяй Львоўнай. Багаты яе лёс на значныя падзеі, нямала перажыта, але засталася яна гэткай жа аптымістычнай, бадзёрай і маладой. А з твораў, каторы ні возьмеш, паўстаюць яркія, запамінальныя характары, бачыцца само жыццё, якое ў кожнага сваё, але з многіх лёсаў паступова складаецца тое, што называецца сучаснасцю ці мінулым. Л. Арабей аднолькава ўважліва ставіцца як да таго, што адбываецца сёння, так і да таго, што стала гісторыяй. Таму і былі так прыхільна сустрэты і чытачамі, і крытыкай яе раманы "Іскры ў папялішчы", "Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы", кнігі "Мера часу", "Экзамен", "Ларыса", "Мне трэба ехаць", "Пошукі кахання", "Перавал" і іншыя. Лідзія Львоўна адной з першых глыбока асэнсавала здзейсненае Цёткай, аб чым сведчыць яе даследаванне "Цётка (Алаіза Пашкевіч)", што выйшла яшчэ ў 1956 годзе, аповесці "На струнах буры" і "Стану песняй". Важкія набыткі Л. Арабей і ў галіне дзіцячай літаратуры, сатыры і гумару, перакладу.***

***З днём нараджэння, шаноўная Лідзія Львоўна! Не страчвайце і надалей у жыцці і творчасці бадзёрасці, аптымізму, маладосці!***

Лідзія АРАБЕЙ

# Урокі маленства

ЭСЭ



Усё жыццё зайздрошчу людзям, што нарадзіліся і выраслі ў вёсцы, маленства якіх атулялі лугавыя травы і кветкі, гаі і пералескі, птушыны шчэбет. Зайздрошчу маленству, якое гадавалася побач з цыляткамі і парасяткамі, са сваёй нядужай яшчэ жменькі сыпала корм кураняткам ды качанятам. Такі маленькі чалавек, дзіця прыроды, гадаваўся ў родным яму асяроддзі, вучыўся разумець, што кожная травінка, кветачка — таксама жывыя істоты, а ўсе звяры — і дзікія, і …йскія — вялікія ягоныя сябры.

Хоць я таксама нарадзілася ў вёсцы, у славутай вёсцы Нізок, якая дала свету Кандрата Крапіву і Паўлюка Труса, але яшчэ мяне маленькую маці перавезла ў горад, і я расла ўжо на яго брукаваных вуліцах, хлеб бачыла не ў полі ў каласах, а гатовы, на прылаўках магазінаў, і малако трапляла ў хату не свежанькае, з-пад кароўкі, а зноў-такі з магазіна, дзе тоўстая прадаўшчыца ў белым халаце налівала яго ў збанкі літровымі і паўлітровымі меркамі на доўгіх ручках, такімі, якімі некалі мералі і газу, і гарэлку.

Жылі мы на Нова-Маскоўскай вуліцы, у высокім цагляным будынку, у якім некалі была сінагога. Цяпер ён не захаваўся, яшчэ ў час вайны яго разбамбілі. Вуліца была шумная, па ёй густа хадзілі людзі, ездзілі машыны, гуляць не было дзе. Памятаю, зімою мы, малыя, каталіся на санках з вуліцы Берсана ўніз, на Нова-Маскоўскую. Не разумелі, як гэта небяспечна, саначкі з разгону маглі закаціцца проста пад машыну.

Пад машыну мае саначкі не закаціліся, але аднойчы вось так з разгону трапілі пад ногі чалавеку. Ён не паваліўся, не ўдарыўся, але ўсё роўна вельмі раззлаваўся, узяў тыя саначкі ды імі аб вугал дома — раз, і другі раз.

Прынесла я дадому толькі крывыя палазы і слёзы.

Яшчэ калі было мне гадоў шэсць, маці аднойчы паехала са мною ў вёску Нізок, да сваёй маці, маёй бабкі, якая ў той час там жыла. Памятаю, якім дзівам, якім цудам здаўся мне бабчын агарод — бульба, морква, агуркі, буракі, што растуць проста з зямлі. А мак! Ён акурат збіраўся зацвітаць, ды так павольна вылузваліся з пупышак яго кветкі, а мы ўжо збіраліся вяртацца ў горад, дадому. Надта баялася я, што не ўбачу цвітучага маку. І памаленьку разгарнула адну пупышку, другую, вылузваючы з іх далікатныя, пышныя ружовыя пялёсткі. Дзіця горада, хіба ведала я, што рабіць гэтага няможна, няможна нічога прыспешваць у росце, на ўсё свой час. І была сурова пакараная бабкаю, і на ўсё жыццё запомніла навуку, і памятала, як было мне сорамна.

Потым я яшчэ некалькі разоў прыязджала ў Нізок, ужо большая. І вось — радзіма. Што значыць яна для чалавечага сэрца. Хоць колькі я і пажыла ў Нізку, але голас продкаў, ці што, адгукаецца ў крыві.

Ідучы з Узды, выходзячы з лесу, толькі ўбачу стрэхі нізаўскіх хат, як агортвае хвалюючая любасць, нібы з доўгай дарогі жыцця ідзеш да роднага парога. Радуе, што на тым самым месцы, як і шмат гадоў назад, пры ўваходзе ў вёску, злева, стаіць белы мураваны будыначак крамы, што вядзе наперад тая самая вясковая вуліца — дамы справа, гумны і хлявы — злева. Што на прызбах сядзяць нібы тыя самыя бабулькі, такія знаёмыя, "нізаўскія" ў іх твары. Замілаванне выклікае запрэжаны ў калёсы конь і дзядзька ў шапцы-аблавушцы, які паганяе каня дасціпным нізаўскім слоўкам. І ты вітаешся з усімі, каго спатыкаеш, і з табою вітаюцца — такі наш вясковы звычай.

А калі паварочваю на вулачку, дзе стаіць тая самая хата, у якой я нарадзілася, сэрца зусім замірае ад радаснай сустрэчы. На гэтай вулачцы адмысловы, нідзе няма такога, дробны, як пыл, шараваты пясок, у якім грузнуць ногі. А ў двары таксама адмысловая, нізкая, як шчотка, зялёная сакавітая трава, перавітая дробненькімі лісточкамі трыпутніку. І так знаёма пахне родным, непаўторным, і так знаёма рыпяць дзверы, адчыняючыся ў хату тваіх продкаў...

Не так даўно я зноў пабывала ў Нізку, наведала родную хату, на дзвярах якой вісеў вялікі замок. Ніхто ўжо ў ёй не жыве. Старыя гаспадары памерлі, а маладыя параз'язджаліся хто куды. І балюча ўдарыла па сэрцы пустка вакол хаты. Няма агарода, які некалі так мяне ўразіў, зямля зарасла лебядою ды чартапалохам. І так — не толькі вакол маёй хаты, пусцее зямля, пусцее вёска...

Шмат хто з людзей, успамінаючы маленства, называе яго залатым векам свайго жыцця, шчаслівай парою. На вялікі жаль, я пра сваё маленства не магу так сказаць. Мне было два гады, як памёр мой бацька, гадавалася я пры айчыме, які не меў вялікай адказнасці перад сям'ёю, нават перад роднымі сваімі дзецьмі. Маці даводзілася ўсё цягнуць на сваіх плячах — і на жыццё зарабляць, і з дзецьмі ўпраўляцца, а я, як старэйшая з дзяцей, скора зрабілася яе памочніцаю — і гаспадыняю ў хаце, і нянькаю, змалку зазнала ўсю жаночую работу. А вабіла ж і сваё, дзяцінае.

З ахвотаю вучылася ў школе, вучыцца было лёгка і цікава. Вельмі любіла чытаць. Зайздрошчу цяперашнім дзецям, якім з першых гадоў жыцця купляюць кнігі і яны ўжо з дзяцінства маюць бібліятэкі. Цяпер і я маю неблагую бібліятэку, але ў маленстве ўласных кніг не мела, хіба толькі тыя, што давалі як падарункі за поспехі ў вучобе. Карысталася бібліятэкаю.

Памятаю, як упершыню прыйшла ў бібліятэку па кнігу і як бібліятэкарка кнігі мне не дала, сказала, што я яшчэ малая. І як я плакала ад крыўды.

А потым была першая кніга, якую мне ўсё-такі далі ў той бібліятэцы — Янка Маўр, "ТВТ". Я праглынула яе за адзін дзень, назаўтра прынесла здаваць, каб узяць другую. Бібліятэкарка не паверыла, што я прачытала кнігу, прымусіла расказаць змест. Я падрабязна расказала. З таго дня мне ўжо давалі кнігі. І пасля "ТВТ" пайшлі "Палескія рабінзоны" таго ж Янкі Маўра, апавяданні Змітрака Бядулі, "Міколка-паравоз" Міхася Лынькова, "Дрыгва" Якуба Коласа. У тыя гады асобнымі кніжкамі для дзяцей выдаваліся раздзелы з рамана Віктара Гюго — "Гаўрош", "Казета", з аповесці Шолам-Алейхема — "Хлопчык Мотка" — усё гэта на беларускай мове. Памятаю, з якім хваляваннем, з якім спачуваннем да маленькіх герояў чытала і перачытвала я гэтыя кнігі. І яшчэ — я вельмі любіла слухаць радыё, перадачы для дзяцей. Прыёмнікі тады былі не такія дасканалыя, як цяпер. Чорная талерка рэпрадуктара, што вісела на сцяне, і хрыпела, і трашчала, ды яшчэ дзеці ў хаце шумелі. Я падстаўляла да рэпрадуктара табурэтку, станавілася на яе, прыкладала да рупара вуха — каб не прапусціць ніводнага слова. Якімі ж цікавымі здаваліся мне тады ўсе перадачы! Звычайна яны канчаліся словамі: "Напішыце нам, дзеці, ці спадабалася вам наша перадача, напішыце..." І тут ішла просьба, каб дзеці напісалі пра нешта сваё.

Такі зварот я лічыла адрасаваным уласна мне і не магла пакінуць яго без адказу. І пісала. І атрымлівала з радыёкамітэта лісты, а часам і кнігі ў падарунак за актыўнае радыёслуханне.

А колькі радасці прыносілі кінафільмы! У час майго маленства не было нецікавых фільмаў. Ва ўсякім разе, нам так здавалася. Было шчасцем трапіць у кінатэатр, па некалькі разоў маглі глядзець "Чапаева", "Вясёлых рабят", "Волгу-Волгу". Пра тэлевізары мы ў той час нічога нават не чулі, каб нехта сказаў, што будуць на свеце такія скрынкі, што пастаў яе ў хаце і глядзі сабе кіно — ніхто не паверыў бы, палічыў бы гэта вялікай фантазіяй, казкай.

У час майго маленства ішло асваенне Арктыкі. Лётчыкі заваёўвалі неба, і ўсё гэта накладалася на сэрца жаданнем подзвігу, вабілі нязведаныя далі. Хацелася плаваць па моры з навуковымі экспедыцыямі, хадзіць у паходы з геолагамі. Перад вайною я акурат марыла паступіць у Ленінградскі гідраграфічны тэхнікум. Скончыўшы восем класаў, пайшла працаваць у выдавецтва падчытчыцаю, каб зарабіць грошай на дарогу ды на жыццё ў Ленінградзе, пакуль дадуць стыпендыю. Там, казалі, даюць, а ў школе ўжо трэба было плаціць за навучанне.

Мне падабалася вучыцца, я любіла, паважала ўсіх настаўнікаў і верыла ўсяму, што яны гаварылі. Верыла таму, што гаварылі піянерважатыя, што гаварылі камсамольскія важакі. І ў галаву не прыйшло б сумнявацца ў ісцінах, якія яны нам даводзілі.

Маленства шчаслівае, маленства няшчаслівае... Што такое шчаслівае маленства? Калі ў цябе ўсяго досыць, усяго цераз губу — і смачнай яды, і ласункаў, і цацак, і любяць цябе ўсе, і клопату ў цябе ніякага, ніякіх абавязкаў, толькі жыві на радасць тату і маме.

Але як потым абернецца такое шчаслівае маленства? Як паслужыць сталаму чалавеку? Ці не прывыкне ён чакаць ад жыцця толькі свята? Каб яму падавалі ўсё гатовенькае? Ці не прывыкне, каб за яго рабіў работу нехта? А тата з мамаю не вечныя. Што ж за чалавек вырасце з такога маленства?

Маё маленства мне шмат чаго недадало — і любові, пяшчоты было малавата, і цацак не мела, і змалку прывыкла клапаціцца больш пра некага, чым пра мяне клапаціліся.

Але я ўдзячна майму маленству за тое, што яно навучыла мяне працаваць, навучыла быць незалежнай, навучыла быць самастойнай.

У маёй бабкі, што пражыла ўсё жыццё ў Нізку, была прымаўка:

"Гультай — найгоршы калека".

І гэта так. Чалавек можа быць без рукі, без нагі, чалавек можа быць нават без абедзвюх рук і — заставацца працавітым, умелым майстрам. Я ведаю такога чалавека, блізка з ім знаёмая. І можна быць фізічна зграбным, дасканалым, прыгожым і разам з тым калекам на ўсё жыццё — гэта калі ты гультай.

Маленства патрабуе любові, пяшчоты, але патрабуе і навукі працаваць. Бо ўсё, што створана на зямлі, створана працаю, і калі людзі развучацца працаваць, то загіне род чалавечы. І найбольшы патрыёт не той, хто гаворыць прыгожыя словы пра любоў да радзімы, а хто працуе для яе дабра.

Па дзяцінстве, маладосці нашага пакалення жалезнымі гусеніцамі танкаў прайшла вайна. Мы зведалі голад, холад, страх за свае жыцці. А шмат хто з нашага пакалення загінуў у яе крывавай пашчы. Я памятаю першую армаду нямецкіх самалётаў, якая раніцою 24 чэрвеня 1941 года наляцела на Мінск. Мы жылі тады ўжо на Грушаўскім пасёлку, на заходняй ускраіне Мінска. У ясным сінім небе ад той армады зрабілася чорна. А мы ж не ведалі, што нясуць яны ў сваіх чэравах. І дзеці, і дарослыя, пазадзіраўшы галовы, глядзелі ў неба.

Самалёты мінулі наш пасёлак і раптам — свіст, выццё, выбухі. Мы паразбягаліся хто куды, пападалі на зямлю, якая дрыжэла і стагнала. Але нас не зачапіла. Самалёты, паскідаўшы свае бомбы на цэнтр горада, паляцелі, пакінуўшы над ім слупы пылу і дыму, з якіх вырывалася полымя.

Тры дні, з раніцы да вечара, па некалькі разоў на дзень, наляталі на Мінск нямецкія самалёты і скідалі, скідалі бомбы. Усе жыхары нашага дома сядзелі ў ямах, што павыкопвалі за пасёлкам. І дзецям, і дарослым было вельмі страшна, але намі, падлеткамі, кіравала яшчэ і цікаўнасць, якая аказалася, мабыць, мацней за страх. Калі крышку аціхла бамбёжка, я з дзвюма сяброўкамі пакіраваліся да цэнтра горада.

Мінск ляжаў гарою друзу. То там, то тут датлявала полымя. На вуліцах, між камянёў, абгарэлых ложкаў, валяліся клункі, чамаданы, стаяла швейная машына, сноўдаўся паміж усяго гэтага, невядома як тут апынуўшыся, даволі вялікі парсюк. Здаецца, і ён дзівіўся таму, што вакол рабілася.

У ацалелых дзе-нідзе будынках праз выбітыя вокны відаць былі пустыя кватэры. У іх стаяла мэбля, засцеленыя ложкі, вецер калыхаў фіранку на вакне. Усё папакідалі людзі, ратуючы жыцці. Напалоханыя гэтым мёртвым горадам, вярнуліся мы ў свае ямы.

А далей былі тры гады чорнай ночы акупацыі з вісельнямі па ўсім Мінску, са спаленымі вёскамі, з турмамі, з фашысцкай няволяй. Нас, падлеткаў, у спаленым Мінску радавала кожная вестка з-за лініі фронту. З хваляваннем і радасцю чыталі мы надрукаваныя недзе ў падполлі сінім шрыфтам на папяроснай паперы зводкі Саўінфармбюро, перадавалі іх адно аднаму. А калі прылятаў савецкі самалёт, выбягалі на вуліцу і крычалі, не баючыся ні немцаў, ні паліцаяў:

— Родненькі, лупяні, дай ім, дай!

Не верылася, што бомба, скінутая з нашага самалёта, можа прынесці шкоду сваім.

І было вызваленне, і была перамога, над спустошаным, разбітым Мінскам лунала радасць.

Здавалася, пасля такой вайны, у якой загінулі мільёны жыццяў, зруйнавана безліч гарадоў Еўропы, людзі апамятаюцца і зробяць усё, каб болей войнаў не было, каб навекі загінула пачвара, якая харчуецца чалавечымі жыццямі. Але мінула зусім мала часу і над зямлёю завітаў прывід атамнай вайны, а пасля і вадароднай. Неяк пакуль устрымаліся, не ўзарвалі зямную кулю. А войны лакальныя, не менш страшныя для маленькіх народаў, ідуць і сёння. Не, чалавецтва ніяк не набярэцца розуму.

А тады, пасля той, сусветнай вайны, вярталіся дадому тыя, каго вайна прымусіла пакінуць родныя селішчы. Але дзе жыць, куды ні глянь у Мінску — руіны, папялішчы.

Я памятаю першы экскаватар у Мінску на былой Савецкай вуліцы. Успоўзшы на гару друзу, ён набіраў яго ў чарпак і скідаў у грузавую машыну. Цяпер мы, праходзячы каля такіх экскаватараў, зусім не звяртаем на іх увагі. А тады ён здаваўся такім цудам тэхнікі, што вакол яго цэлымі днямі стаялі цікаўныя, адны падыходзілі, другія адыходзілі, глядзелі, як ён працуе. Меркавалі, колькі спатрэбіцца часу, нават з такімі дужымі машынамі, каб вывезці з горада друз ды накапаць катлаванаў пад новыя будынкі. І ў самых вялікіх аптымістаў выходзіла, што на гэта спатрэбіцца не менш чым пятнаццаць гадоў. А праз пятнаццаць гадоў стаяў новы горад, і не горшы за тыя, што я пабачыла ў свеце, а паездзіла я па зямлі нямала, бачыла і Парыж, і Рым, і Токіо, і Нью-Йорк, і Сан-Францыска, і Вашынгтон.

Жыццё прайшло — як муха праляцела.

Нашаму пакаленню давялося перажыць нямала. Мы балюча перажываем і тое, што засталося ў нас за плячыма, і тое, што адбываецца сёння, — незразумелае, пакутнае, балючае. Наша пакаленне адыходзіць, пакідаючы нашчадкам не вельмі прывабную спадчыну. Ці вінаватыя мы ў гэтым? Мусібыць, вінаватыя, бо мала думалі самі і верылі таму, у чым нас пераконвалі. Спадзяванне ўжо на будучыню, на тых, што будуць жыць пасля нас.



ЧАСАПІС

## Дзейнасць ТБМ у дакументах

Гісторыка-мемарыяльны фонд "Трасцянец" выдаў кнігу "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Дакументы і матэрыялы 1989—1997 гг.". Ва ўступным слове да выдання народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, які доўгі час узначальваў ТБМ, гаворыць: "Гэта кніга — своеасаблівая, далёка не поўная хроніка дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны за першыя восем гадоў яго існавання, — дзейнасці, адлюстраванай у афіцыйных дакументах і матэрыялах (пастановах з'ездаў і канферэнцый, рашэннях рады ТБМ, заявах і зваротах да грамадзян, да міжнароднай супольнасці і інш.). Для тых, хто ўважліва і ўдумліва прачытае кнігу, стане больш відавочнай маштабнасць і больш зразумелай гістарычная значнасць задач, якія паставіла перад сабой і ажыццяўляе ТБМ".

З кнігі можна даведацца, што на працягу шэрагу гадоў штатныя супрацоўнікі таварыства ажыццяўлялі як арганізацыйна-выканаўчыя функцыі, так і сваёй працай цалкам фінансава забяспечвалі ўсю дзейнасць рэспубліканскіх структур ТБМ ад 1989 года да 1995 уключна, што перакрэслівае памылковую думку аб тым, што ТБМ — гэта былая бюджэтная арганізацыя. Аднак як і цяпер, так і тады з боку дзяржавы фінансавых паступленняў таварыству як грамадскай арганізацыі не магло быць паводле дзеючага заканадаўства. І ўсё ж укладальнік кнігі Яўген Цумараў ад імя таварыства выказвае словы ўдзячнасці тагачаснаму Міністэрству культуры і друку Рэспублікі Беларусь за аказаную мэтавую фінансавую і тэхнічную дапамогу ў ажыццяўленні выдавецкай дзейнасці. А таварыствам у гэтым накірунку было зроблена шмат.

У кнігу ўвайшла толькі частка дакументаў і матэрыялаў ТБМ за 1989—1997 гады. Больш поўна разнастайная праца па адраджэнні беларускага слова ўсяго таварыства і яго рэспубліканскай рады знайшла адлюстраванне ў дакументах і матэрыялах, змешчаных на старонках друкаванага органа ТБМ, газеты "Наша слова", абавязкі галоўнага рэдактара якой у 1990 годзе выконваў непасрэдна старшыня таварыства Ніл Гілевіч, а ў 1991—1996 гадах — Эрнест Ялугін.

Выйшла кніга ў свет дзякуючы тэхнічнай і фінансавай падтрымцы Асацыяцыі беларускіх выданняў імя Ф. Скарыны, БГФ "Наша Ніва", Беларускага таварыства "Кніга", рэдакцыі газеты "Турызм и отдых" і інш. Выданне разлічана на даследчыкаў найноўшай гісторыі роднага краю, сяброў ТБМ імя Ф. Скарыны, усіх прыхільнікаў беларускага слова. На жаль, наклад невялікі — усяго толькі 500 асобнікаў.

Н. К.

## "Грэшная душа"




Кніжка Леанарды Юргілевіч "Грэшная душа" выйшла ў серыі "Бібліятэка "Вожыка". Апавяданні і гумарэскі "Цуд", "Інтэрнюрка", "Індывідуальны падыход", "Джамалунгма", "Квітанцыя на парсючка" і іншыя, упэўнены, спадабаюцца чытачам. Самабытная сакавітая мова, сапраўднае веданне побыту, літаратурнае майстэрства і, канечне, пачуццё гумару — вось тое, што зацікавіць кожнага, хто нераўнадушна ставіцца да сучаснай беларускай літаратуры. І асабліва ўсіх тых, хто любіць сатыру і гумар.

Леанарда Юргілевіч працуе ў дзятлаўскай раёнцы, добра ведае жыццё, пра што і піша не толькі ў журналісцкіх карэспандэнцыях, але і ў гумарэсках, сатырычных апавяданнях.

Калі вы ўбачыце і купіце кніжку Леанарды Юргілевіч "Грэшная душа" ў кнігарнях і кіёсках "Белсаюздруку", лічыце, што вам пашанцавала. Бо прачытаеце і — будзеце смяяцца! А смех, як вядома, здымае стрэсы, умацоўвае імунную сістэму, дапамагае пазбавіцца ад дурных думак і кепскіх звычак. Так што смейцеся на здароўе і жывіце з радасцю!

Уладысь ЦВЯТКОЎ

ПЕРАКЛАДЫ

***З 4 чэрвеня па 16 ліпеня 2000 г. на мяжы стагоддзяў адбываецца адна з буйнейшых грамадскіх і культурных падзей, прымеркаваных да сустрэчы новага тысячагоддзя, — міжнародны праект "Літаратурны экспрэс Еўропа 2000".***

***100 літаратараў з 43 краін Еўропы знаходзяцца ў шасцітыднёвай паездцы па маршруце легендарнага Паўночна-Паўднёвага экспрэса, які праходзіць ад Партугаліі праз Іспанію, Францыю, Бельгію, Германію, Польшчу, Літву, Латвію, Эстонію, Расію і Беларусь. Урачысты фінал адбудзецца ў Берліне. У 20-ці гарадах маршруту "Літаратурны экспрэс" робіць прыпынкі, каб у рамках публічных чытанняў, дыскусій і буйных культурных святаў абмеркаваць праблемы агульнаеўрапейскай будучыні, моўнай і літаратурнай разнастайнасці Еўропы.***

***9 ліпеня 2000 г. адбудзецца вялікае тэатралізаванае свята на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы. Сярод рознагалосся літаратур Еўропы будзе годна гучаць і мова Янкі Купалы. 10 ліпеня адбудуцца літаратурныя экскурсіі, дыспуты, семінары ў Доме літаратара, у бібліятэках, літаратурных музеях і кнігарнях Мінска. 11 ліпеня "Літаратурны экспрэс" накіруецца ў Брэст.***

***Праект знаходзіцца пад патранажам Еўрапейскай рады, Еўрапейскай камісіі, ЮНЕСКА і Міжнароднага Саюза чыгункі UIC.***

***З беларускага боку праект "Літаратурны экспрэс" здзяйсняюць Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарвыканкам, Саюз беларускіх пісьменнікаў пры ўдзеле Міністэрства замежных спраў РБ, Дзяржкамітэта па друку Брэсцкага аблвыканкама, а таксама шматлікіх арганізацый і ўстаноў Беларусі.***

***Удзел нашай краіны ў гэтым унікальным праекце засведчыць: беларуская літаратура валодае не меншым патэнцыялам, чым іншыя еўрапейскія літаратуры. Утрэцяе тысячагоддзе нам ёсць што прыўнесці са скарбніц чалавечага духу.***

***Гэта будзе адным са шляхоў Беларусі ў Еўропу, які дапаможа нашай Бацькаўшчыне заняць "свой пачэсны пасад між народамі", каб разам з усім светам крочыць у будучыню.***

***Штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" ўжо не першы раз змяшчае матэрыялы, прысвечаныя "Літаратурнаму экспрэсу". На гэты раз мы пачынаем знаёміць нашых чытачоў з творчасцю замежных удзельнікаў гэтай акцыі.***

Рыхард ВАГНЕР
(Германія)

# Бібліятэка сямідзесятых гадоў

### ВІКТАРЫНА

Мы сядзім перад тэлевізарам. Паказваюць шоу, у якім усе ўдзельнікі апрануты па модзе сямідзесятых гадоў. Гэта віктарына, вядучая Кларыса Б. задае пытанні, на якія апытваемыя павінны адказваць так, быццам жывуць яны ў сямідзесятыя гады. Журы з трох асоб вызначае, адпавядаюць іх адказы атмасферы сямідзесятых гадоў ці не. Каб даць правільны адказ, удзельнікі павінны забыць досвед апошняга дзесяцігоддзя. Гэта ў іх зноў і зноў не атрымліваецца, і журы адхіляе адказы. Чым ты займаўся ў сямідзесятыя гады, пытаецца Кларыса.

### ВЯСНА

Вясна ў сямідзесятыя гады — гэта аднастайныя дні, аднастайныя дні дыктатуры. Фальшывы шум і дзіўная цішыня. Я гавару, ніхто не слухае, я гавару, і часам мне здаецца, быццам і сам сябе не чую. Дзень праходзіць за днём у гэтым горадзе, пра які ніхто нічога не ведае, нават я, яго жыхар. У непакоі я хаджу па яго вуліцах, але нічога не бачу. Маё жыццё складаецца з дзён безаніякіх падзей. Я бегаю, усё яшчэ спадзеючыся натрапіць на нешта падобнае да перамены.

Горад адрэзаны ад свету, ад мінулага, у тым ліку і ўласнага. Існуюць толькі легенды старэйшых, міф пра Малую Вену, аповеды пра жыццё да захопу ўлады камуністамі. Да вызвалення, як на працягу дванаццаці гадоў убівалі мне ў галаву падручнікі, аж пакуль я не паверыў. Ці аж пакуль я не паверыў у адваротнае. Да таго часу, пакуль не заблытаўся канчаткова са словам вызваленне. І мінулае таксама дваістае. Ёсць афіцыйнае мінулае несправядлівага свету і неафіцыйнае, настальгія з біяграфічнай падмалёўкай.

Голая вясна. Дарогі, што маглі б вывесці з горада, ужо праз пяцьдзесят кіламетраў упіраюцца ў прыкметы мяжы: праверка пашпартоў у цягніку і на шашы, вартавыя вышкі ўдалечыні, загарадзі, пра якія хутчэй здагадваешся, чымся бачыш іх. Так блізка не падыдзеш. А калі адважышся, то табе канец. Зайсці на гэтую тэрыторыю раўназначна спробе перайсці дзяржаўную мяжу. Позірк за гарызонт — злачынства. Мяжа прысутнічае тут усюды, мяжа ў свядомасці, мяжа, якую я дзень пры дні спрабую перайсці. Я — жыхар горада, забытага ў сямідзесятых гадах. Малая Вена дзевятнаццатага стагоддзя — гэта румынскі муніцыпіум, у якім прадаецца *брага*. У мяне адабралі мае веды пра сябе і пра гэты горад. Я шукаю горад, шукаю сябе. Збіраю фрагменты неіснуючай існасці.

Па каталожных картках універсітэцкай бібліятэкі я адшукваю кнігі, кнігі "давызваленчага" часу, з якіх можна даведацца захапляльныя гісторыі пра горад. Я даўно ўжо не шукаю чагосьці пэўнага. Калі пачынаю шукаць у каталожных скрынках нешта пэўнае, то не знаходжу нічога. Ахоўнікі новага часу, вартаўнікі існасці даўно ўжо выкінулі такія карткі. Кожны год бібліятэкары атрымлівалі пэўныя загады і выконвалі іх, такіх картак у скрынках не засталося. Я карыстаюся іншым метадам. Я вышукваю незаўважанае, тое, што кантралёры недагледзелі. Я зноў і зноў знаходжу нешта, запаўняю фармуляр на кнігу і здаю яго на абанемент.

### БІБЛІЯТЭКАРЫ

Бібліятэкары бываюць вельмі розныя. Абыякавыя і недаверлівыя, і ўсмешлівыя. Ёсць, напэўна, і такія, што наўмысна не заўважылі некаторыя карткі і зараз з усмешкай рэагуюць на маю знаходку. Яны кідаюць на мяне кароткі позірк, выдаючы адпаведную кнігу, мы на нейкае імгненне становімся саўдзельнікамі. Аднак ёсць і іншыя. Яны звяртаюць увагу на тое, што я бяру на дом кнігі, якія не маюць ніякага дачынення да маёй універсітэцкай праграмы. Яны перагортваюць кнігі і толькі потым аддаюць іх мне з непранікальным выразам твару. Незразумела, ці разглядаюць яны гэтыя кнігі як варожы інструмент. Мабыць, не. У іх няма перакананняў. Аднак мяне яны лічаць у нейкім сэнсе ворагам. Бібліятэкары хутка ўсведамляюць, што з кнігамі, якія я бяру ў бібліятэцы, нешта не тое. Бібліятэкары адчуваюць, што я стаўлю іх пад пагрозу. З уласнага досведу ім вядома, што аднойчы сюды заявіцца нехта з секурытатэ, дзяржбяспекі, і за нешта, магчыма, усяго толькі за нейкі недагляд у сувязі са мной, прыцягне іх да адказнасці.

І наогул, каму вядома, каму можа быць вядома, хто я такі і чым такім займаюся. Магчыма, я замаўляю гэтыя кнігі, каб праверыць іх, бібліятэкараў. Хто ведае, чыё заданне я выконваю. У іх ёсць свой досвед наконт такіх рэчаў. І вось, думаючы пра ўласныя сем'і, бібліятэкары вырашаюць прасігналіць пра мяне. Упаўнаважанаму секурытатэ па універсітэцкай бібліятэцы, які заходзіць сюды кожныя колькі дзён, каб пераканацца, ці ўсё ў парадку, ці не было якіх-небудзь надзвычайных здарэнняў, каб прагледзець фармуляры выданых кніг, спіс чытачоў, з якога ён старанна выпісвае назвы выданых кніг, — ладны кавалак работы, а тут, на табе, зноў дадатак: я.

Бібліятэкары думаюць, што ўсё гэта можа пашкодзіць ім, і даносяць на мяне. Ёсць тут, маўляў, такі дзівакаваты тып, корпаецца гадзінамі ў каталожных скрынках, адшуквае адно толькі нейкія несусветныя кнігі, што не маюць ніякага дачынення да яго будучай спецыяльнасці. Добра, гаворыць упаўнаважаны, паглядзім. Ён свішча праз зубы, быццам ужо зараз здольны вызначыць маштаб справы, але ж у сапраўднасці анічога не разумее, разумее не больш за недаверлівых бібліятэкараў, цяміць толькі, што нешта тут не ў парадку: з якой нагоды яму гэта чытаць. Ён ведае толькі, што яго абавязак — перадаць інфармацыю наверх, і ён занатоўвае назвы кніг.

Бібліятэкары нервуюцца, думаюць; мы павінны былі паведаміць, бо ніколі толкам не ведаеш, што да чаго; яны злуюць на мяне, таму што праз мяне апынуліся ў такім становішчы, што не маглі не данесці на мяне, яны гэтага надта не любяць, але мусілі абараняць сябе, я змусіў іх зрабіць нешта непрыемнае, так бы мовіць, у інтарэсах іх сем'яў. Я для іх нейкі экзістэнцыйны правакатар. Да таго ж я нічога не заўважаю, працягваю вышукваць свае кнігі, і бібліятэкары ненавідзяць мяне, таму што ўпаўнаважаны секурытатэ стаў заходзіць часцей, распытвае пра мяне, даручыў бібліятэкарам занатоўваць спецыяльна для яго, якія кнігі я замаўляю. Праз яго ў нас болып работы, гавораць яны, па-ранейшаму гледзячы на мяне непранікальным позіркам, сціскаючы вусны і не заўсёды адказваючы на маё прывітанне. Яны доўга разглядаюць мае фармуляры, часам уздыхаюць, але я нічога не заўважаю. Здараецца, яны без падставы вымушаюць мяне чакаць. Але я і выгляду не паказваю. Ён нічога не заўважае, гавораць яны. Паглядзі, зноў прыпёрся. Мы намагаемся перасцерагчы яго, а ён нічога не заўважае. Нешта тут не так.

### СЕКУРЫТАТЭ

Я знаходжу новыя і новыя кнігі. Для мяне гэта ўжо нібы наркотык. З іх я даведваюся ўсё больш і больш новых, захапляльных падрабязнасцяў. Ведаю ўжо, што рэстаран на Корса, той, насупраць Опернага тэатра, у дваццатыя гады называўся "Лойд", што там нейкая артыстка давала канцэрт мастацкага свету. Даведваюся, што фабрычны квартал у дзевятнаццатым стагоддзі славіўся сваімі "піўнымі садкамі". А яшчэ я ўжо ведаю, што ведаю пра сацыял-дэмакратыю дваццатых гадоў у нашым горадзе. Я працягваю пошук. І зноў і зноў знаходжу нешта новае. Прабіраюся зігзагам паўз каталожныя скрынкі, не даю бібліятэкарам расслабіцца, нават і не здагадваючыся пра гэта.

Калі ж я раптам заўважаю іх незадавальненне, то тлумачу яго сабе тым, што мностам сваіх замаўленняў дадаю ім шмат лішняй работы. Кнігі, якія я бяру, стаяць, напэўна, у самым аддаленым кутку кнігасховішча, бо пра іх ніколі ніхто не пытаецца. Аднак прычына непрыязнасці бібліятэкараў у іншым, я пра яе нават і не здагадваюся. Прычына ў тым, што супрацоўнік секурытатэ патрабуе ад бібліятэкараў пісаць і здаваць яму анатацыі на "мае" кнігі. І зараз кожную кнігу, што я здаю, бібліятэкары вымушаны чытаць самі, каб напісаць кароткую рэцэнзію для секурытатэ. Бо секурытатэ павінна высвятліць, што такое я вышукваю. Ім жа ва ўсім бачыцца пэўны намер, яны намагаюцца адфільтраваць з маіх зігзагаў паўз каталожныя скрынкі тую мэту, якую я імкнуся рэалізаваць. Гэта антыдзяржаўная мэта — для іх няма ўжо сумневу, што той, хто чытае кнігі падобнага зместу, мае антыдзяржаўную мэту. Не, нават яшчэ прасцей: хто выдаткуе сілы на пошук і чытанне такой колькасці кніг, не абавязковых для атрымання дыплома, той, напэўна, вынайшаў нейкі асаблівы разбэшчаны метад антыдзяржаўнага чытання, і яны імкнуцца выкрыць гэты метад.

### ЗАБЛЫТАНЫ ЧЫТАЧ

Напачатку бібліятэкары ставяцца да свайго абавязку рэцэнзентаў не занадта сур'ёзна. Пагартаюць збольшага, прачытаюць "Змест", потым накрэмзаюць нешта накшталт пераліку галоўных пунктаў зместу з кароткім каментарам. Пішуць так, як звычайна і выконваецца ідэалагічная прынука. Аднак неўзабаве ў секурытатэ на гэта звяртаюць увагу, бо там такія справаздачы патрабуюцца не для падшыўкі. Інцыдэнт хутка дасягае кіраўнічага узроўню, а тым ужо блюзніца надзвычайнае парушэнне парадку. Ну, шэльма, гавораць там. Памыкаецца прыхаваць сваю антыдзяржаўную пазіцыю, але ж не, мы падловім яго. Прынамсі, два лейтэнанты выказваюць асабістую зацікаўленасць у тым, каб супыніць мае інтрыгі. Не падазраючы таго, я стаў ва ўяўленні секурытатэ чымсьці незвычайным. Таму ў хуткім часе бібліятэкарам выносіцца вымова за павярхоўныя справаздачы і спускаецца новая дырэктыва: па два бібліятэкары павінны незалежна адзін ад аднаго чытаць кожную маю кнігу і пісьмова пераказваць яе змест. Ад іх патрабуюць звяртаць увагу на ўсё, што не адпавядае норме, і дакладна адлюстроўваць гэта ў справаздачах. Ім даюць зразумець, што ў нашым грамадстве ёсць і іншыя магчымасці працаўладкавання. На той выпадак, калі выявяцца парушэнні дырэктыў з боку бібліятэкараў. Бібліятэкары калоцяцца. Яны занадта добра разумеюць, пра што

гаворка. Не ўсюды так цёпла, як тут, у бібліятэцы, — дадае чалавек з секурытатэ.

Сам ён апошнім часам зацікавіўся маім выпадкам чыста асабіста. Тое, што напачатку падалося марокай і ўсяго толькі дадатковай работай, дае яму рэальны шанц. Да гэтага ён даўмеўся, калі заўважыў, што начальства зацікавілася інцыдэнтам. Тут нешта ёсць, думае ён. Такія рэчы супрацоўнікі секурытатэ заўважаюць, калі яны таленавітыя, а не проста хуткія на кулакі. Сябе ён лічыць таленавітым. Ён ведае, гэты выпадак — яго шанц. Калі я з ім разбяруся, думае ён, то мне свеціць нешта большае, чым прэмія. Стану оберлейтэнантам і пакіну гэтую нудную бібліятэку, трэба толькі паклапаціцца, каб рэцэнзенты не спалі ў шапку.

Пад рэцэнзентамі ён мае на ўвазе бібліятэкараў. Чатыры на выдачы кніг і яшчэ шэсць у самой бібліятэцы. Супрацоўнік секурытатэ зноў перачытвае іх асабовыя справы. Яго высновa: двое — вельмі надзейныя, сем — больш-менш, цяжка сказаць, ці пра ўсё яны прасігналяць, і яшчэ адзін абсалютна ненадзейны. Гэты ўжо не раз спрабаваў запісваць у агульны каталог тыя кнігі, што павінны захоўвацца ў шафе спецыяльнага прызначэння, ягоныя калегі паведамлялі пра тое неаднаразова. Апошнім часам ён, здаецца, суцішыўся, ва ўсялякім разе, паведамленні больш не паступаюць. Супрацоўнік секурытатэ вырашае пераправерыць яго, бо ніколі не можаш ведаць дакладна. Магчыма, паміж ім і гэтым Заблытаным чытачом існуе нейкая сувязь. “Заблытаны чытач” — кодавая назва, пад якой у актах секурытатэ пазначаны я. А сама справа называецца “Гонка па каталогах”. Абедзве назвы ўзятыя з ранейшых даносаў аднаго з бібліятэкараў. Той паведамляў, што не так даўно ў бібліятэцы з’явіўся нейкі заблытаны чытач, што ганяецца па каталогах ва ўсіх напрамках.

## БІБЛІЯТЭКА СЯМІДЗЕСЯТЫХ ГАДОЎ

Зараз справаздачы бібліятэкараў ужо больш падрабязныя. Можна сказаць, становяцца больш падрабязныя. Баючыся прапусціць нешта, што можа аказацца важным, а іх потым абвінавацяць, што прапусцілі гэта знарок, яны запісваюць амаль усё. Начамі, ледзь не да раніцы, а таксама цэлымі днямі па выхадных яны чытаюць і рэцэнзуюць кнігі, і калі б ім не ставіўся тэрмін, то самі іх справаздачы даўно ўжо сталі б адмысловымі кнігамі.

Надыходзіць час, калі чалавек з секурытатэ абмяжоўвае колькасць старонак у справаздачах, бо не паспявае чытаць іх. Ён патрабуе, каб справаздачы былі не даўжэйшымі, чым на дзесяць старонак. На кожную кнігу пішуцца дзве справаздачы. Чалавек з секурытатэ кожны раз камбінуе пары інакш, каб аўтары не вынайшлі спосаб дамовіцца паміж сабою і нешта ўтаіць.

Што да самой справы, то асаблівага зруху няма, гэта значыць, высветліць маю варожую мэту, ці высветліць яе больш-менш дакладна, немагчыма. Аднак у паасобных кніжках ёсць безліч праблематычных месцаў, дакладней, сумнеўных пасажаў, якія маглі б надта ж спрыдацца ворагам дзяржавы. Уся бібліятэка затручана, гаворыць палкоўнік на абмеркаванні справы ў секурытатэ. І чым больш кніг трапляецца ім на вока, тым больш вусцішна становіцца большасці бібліятэкараў ад сваёй чыннасці. І вось яны ўжо гутараць пра мяне паміж сабою. Ненармальны, кажуць яны, хто ведае, што мае з ім на мэце секурытатэ. Бібліятэкарам сказана, каб яны больш не перашкаджалі мне, каб я мог рабіць тое, што раблю. Праз рэцэнзіі секурытатэ выявіла новую праблему, куды горшую за мяне. А сутыкнуліся яны з праблемай бібліятэкі. Вось ужо дваццаць пяць гадоў бібліятэку тую чысцяць-чысцяць, а яна ўсё яшчэ наскрозь затручаная. І чым толькі бібліятэкары займаліся ўсе гэтыя гады. Іх усіх трэба пераправерыць. Ад Заблытанага чытача карысці непараўнальна больш, гаворыць палкоўнік пры абмеркаванні сітуацыі, калі вырашаецца, што рабіць са мною надалей. Няхай сабе чытае, а бібліятэкары няхай пішуць справаздачы, потым мы запатрабуем ад іх забраць з агульнага каталога карткі на кнігі, якімі цікавіўся Заблытаны чытач. Так мы ачысцім бібліятэку, падагульняе палкоўнік, а што рабіць з гэтым тыпам, вырашым потым.

Атрымаўшы інструкцыі, бібліятэкары ў большасці сваёй абыходзяцца са мною непрыкрыта холадна. Яны па-ранейшаму выдаюць мне запатрабаваныя кнігі без пярэчанняў, на іх ускладзены адпаведны абавязак, прычым у такой форме, пра якую я і здагадвацца не магу, аднак у душы яны пасылаюць мяне да д’ябла. Ён нам усю бібліятэку зруйнуе, гавораць яны паміж сабою, зараз мы павінны ўжо пісаць даносы на нашыя кнігі. Ён правакатар, секурытатэ нацкавала яго на нас, на нашу бібліятэку. Калі ў секурытатэ прыходзіць першы данос пра такія размовы, лейтэнанты смяюцца, а палкоўнік прамаўляе толькі: выдатна.

**Пераклала Галіна СКАКУН**

ВЕРСІІ

# Адкуль ты, Няміга?

Шматвяковая і незвычайная гісторыя невялікай рачулкі Нямігі пачалася ад 1067, калі ўпершыню назва яе з’яўляецца ў сярэдневяковых літаратурных крыніцах — “Аповесці мінулых гадоў” і ў “Слове пра паход Ігаравы”. Потым гідронім знікае з пісьмовых крыніц на значны перыяд і толькі ў XVI ст. у дакументах згадваецца вуліца, з назвай падобнай да яго. У беларускіх дакументах гэтыя вуліцы абазначаліся як “Няміга”, “Нямізская”, “Нямезкая”, а ў польскім напісанні “Niemeza”.

Паводле летапісных крыніц вучоныя выказалі шэраг меркаванняў адносна месцазнаходжання і суаднясення рэчкі Нямігі і горада Менска. Цікавая думка В. Ластоўскага адносна назвы і месцазнаходжання рэчкі. Ён аднёс існаванне рэчкі і старадаўняга горада Неміза да месцазнаходжання сялібы Нямеза, каля Бярэзіны, якую і прапанаваў лічыць летапіснай Нямігай. Да навуковых спрэчак далучаліся не толькі беларускія даследчыкі, але адказы на многія пытанні не атрыманы і па сённяшні дзень. Так і застаюцца нявысветленымі некалькі асноўных момантаў: 1. Геаграфічная лакалізацыя рэчкі Нямігі; 2. Геаграфічная лакалізацыя летапіснага Менска; 3. Наяўнасць у мінулым горада Няміза.

Таямніцу геаграфічнага месцазнаходжання летапіснай Нямігі, на наш погляд, раскрывае паходжанне яе назвы.

Яшчэ ў сярэднявеччы польскі храніст Ян Длугаш называў Нямігу Niemka. Цікавыя тлумачэнні прапанавалі рускія даследчыкі XIX ст. атаясамліваючы яе з ракой Нёман. У. Даль назву Нёмана выводзіў ад двух значэнняў слова “нема”: 1) “нема, нет, негдзе взять”; 2)”край, конец, предел, крайность, нужда”. В. Ластоўскі прапанаваў два варыянты значэнняў паходжання назваў Нёмана і Нямігі. Гэтыя гідронімы ён лічыў за “два найменні крыўскіх рэк”, жаночай і мужчынскай формы ад “нямець”. Ён параўноўвае іх назвы зыходзячы з падобнага ўтварэння літоўскага гідроніма Neris, ракі Вільні, і адносіць гэтую назву да значэння “nera” — няма. Такім чынам, В. Ластоўскі лічачы назву Нямігі крывіцкай па паходжанні, спасылаецца на балцкі варыянт. Прыводзіць ён і прыклад з жывой беларускай гаворкі, дзе слова “немень” ужывалася ў падвойным значэнні: глуш, нямая цішыня і поўнае няменьне, галеча. Яшчэ адзін з варыянтаў назвы Нямігі прапанаваў М. Фасмер, які звярнуў увагу на адмоўны прэфікс у назве левага прытока Волгі: Немда. Такая ж назва, дарэчы, і ў правага прытока Піжмы. Гэты гідронім тлумачыўся як “не медленая” па прынцыпе ўтварэння ад царкоўнаславянскага “ізмъдьти”.

Неаднойчы падкрэслівалася наяўнасць старажытнейшага пласта балцкай гідраніміі на вялікай прасторы сучаснай Беларусі. Бо толькі, менавіта, з часоў засялення славянамі яе абшараў, сталі ўзнікаць славянскія гідронімы. Гэты працэс расцягнуўся на многія стагоддзі і старажытныя балцкія назвы дайшлі да нас праз прызму славянскай мовы. Відавочна, што моўная традыцыя да часу з’яўлення дакументальных крыніц, захоўвала рэшткі старадаўняга балцкага субстрата, уздзеянне якога вызначылася ў славянскай мове не адразу, а праз пэўны перыяд.

У пісьмовых крыніцах гідронім Няміга меў, як мы адзначалі вышэй, два варыянты напісання: з літарай “з”, альбо “г” — Няміга і Няміза. Такія ж варыянты назіраюцца і ў назве вуліцы: “Няміга”, “Нямізская”, “Нямезкая”. Безумоўна, што два гукі “г” і “з” гэта рэлікты старажытнага слова, якое адлюстроўвала адбітак нейкага моўнага пласта. У якой жа мове шукаць карані гэтага слова?

У свой час А. Мейе ўказвае на знікненне гука “г” у славянскіх словах, што паходзілі ад балцкіх. Заўвагу вучонага можна дапоўніць і пашырыць асаблівасцю варыянтнасці знікнення і з’яўлення гука “г”. У шэрагу славянскіх моў адбываецца працэс страты гука “г” з заменай на “з”, напрыклад у словах ад сыходнага *lьga: рускае “нельзя”, старажытнапольскае і славацкае “nielza”, старажытнасербскае “не льза” і, наадварот, беларускае “нельга”. Ва ўсходнеславянскіх мовах гукі “г” на “ж” і “з” змяняюцца ў словах роднасных літоўскай: gyvas — старажытнарускае жывъ; gerve — беларускае жораў, gelezis — жалеза, geltonas — жоўты, girnos — жорны; gaileti — рускае “жалеть”; daug—сіла і беларускае дужы; і адваротная змена “ж” на “г”: zasis — гусь. Гэтыя прыклады сведчаць пра змену прыведзеных гукаў у пачатку слова. Але такі ж працэс адбываецца і пры размяшчэнні гэтых гукаў у канцы слова. Для ўсходнеславянскіх моў даволі характэрна змена гукаў “г”, “ж”, “з” пры скланеннях: Бог — божа — бажніца, бозніца; “князь — княгіня — княжэнне; кніга — кніжка; нага — ножка; Буг (Заходні), у старажытнарускім Бужьскъ, далей назва племені “бужане”. Такім чынам, у славянскіх мовах можна адзначыць уласцівасць змены гукаў “г” на “з”, і “ж” і наадварот. Гэтая асаблівасць характэрна і для слоў, што маюць адзінае паходжанне з балцкімі.

І калі ўлічыць гэтую асаблівасць беларускай мовы, то гідронім Няміга, Няміза павінен паходзіць ад старадаўняй балтыйскай назвы і мог захавацца ў багатым балцкім слоўніку. Адпавядае сугучнасці слоў Няміга і Няміза літоўскі дзеяслоў numegzti (numezga, numezge) — “звязаць (звязваць)”, у якім прысутнічаюць абодва гукі “z” і “g”.

Ад значэння “звязваць” (mazgas) прапанавана тлумачэнне гідроніма Масква. Фармальна блізкія комплексы *mask-, *mazt-, *mast-, і г.д. “обладают кругом так или иначе связанных друг с другом приблизительно одинаковых для балтийского и славянского значений”. У літаратуры ўказваліся прыклады канцэнтрацыі гідронімаў з варыянтамі мозг- (і вытворнымі ад яго мож-) у басейне рэчкі Ніды, прыток Віслы. У беларускіх крыніцах таксама зафіксаваны тапонімы гэтай жа асновы: вёскі Mozgieyli (1658-9 г.), Mizgiry (1784 г.), Мізкгіры (1566, 1603, 1612, 1619 гг.).

**Пятро РУСАЎ.**

ПАМЯЦЬ

# Скарына і Гусоўскі на п’едэсталах



5 мая ўзведзеныя летась ва ўнутраным дворыку БДУ медная і бронзавая выявы Гусоўскага і Скарыны набылі завершаны і, як следства, больш прывабны выгляд. Цяпер помнікі гэтым славутым беларускім дзеячам стаяць, як і належыць, на п’едэсталах, грошы на адліццё якіх выдаткаваў рэктарат універсітэта. На п’едэстале, дзе ўзвышаецца аўтар паэмы “Песня пра зубра”, — сцэна палявання на гэтую сімвалічную для Беларусі жывёліну. На другім — старадаўні алфавіт і скарынаўскія шрыфты. Як кажа А. Белы, старшыня гістарычнага клуба “Спадчына” (што непасрэдна займаўся гэтымі праектамі), цяпер помнік Скарыне яшчэ да ўсяго і помнік беларускай мове.

**К. П.**

*Фота М. ПРУПАСА*

# А набыткі — важкія

Лёс адмераў Леаніду Гаўрылкіну няпоўных 54 гады (нарадзіўся 22 мая 1935 года, памёр 5 лютага 1989-га). Але зрабіў у літаратуры пісьменнік шмат. Першыя апавяданні надрукаваў у часопісе “Маладосць” у 1959 годзе. Выдаў зборнікі аповесцяў і апавяданняў “Рукі не здрадзяць”, “Прашу звольніць мяне”, “Пакінутая на досвітку”, “Вясенні разліў”, “Урок без перапынку”, “Ружы для каварнай жанчыны”. З’яўляецца аўтарам раманаў “Не магу без цябе”, “Зямля дзяцей нашых”, “Матчына хата”, “Застаюся з табой”. Вядомы Л. Гаўрылкін і як сатырык, гумарыст: кнігі “Мадэльер з Баршчоўкі”, “Як Клава мужа шукала”, “Жыццё Ігната Валуна”. Працаваў і ў галіне драматургіі. Напісаў сцэнарый дакументальнага фільма пра П. Броўку “Маўчаць ніколі я не буду”.

А нарадзіўся Леанід Іванавіч у пасёлку Стэп Добрушскага раёна. У 1957 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў адказным сакратаром рэдакцыі Цярахоўскай раённай газеты “Ленінец”, рэдактарам на Гомельскай студыі тэлебачання, галоўным рэдактарам кінастудыі “Беларусьфільм”, сакратаром праўлення СП БССР, а з 1986 года да раптоўнай смерці загадваў аддзелам літаратуры часопіса “Вожык”.

# Не дапісаўшы радок

Нарадзіўся Уладзімір Кудзінаў 27 мая 1935 года ў горадзе Бранску (Расія), памёр 21 жніўня 1990-га. Скончыў горны факультэт Маскоўскага горнага інстытута. Працаваў майстрам, тэхнаруком рудніка, начальнікам кар’ера ў Курскай і Арлоўскай абласцях, майстрам, прарабам на будаўніцтве газаправодаў на Беларусі, старшым майстрам, намеснікам начальніка Мінскага механізаванага кар’ера. З 1967 года — старшы рэдактар аддзела прозы часопіса “Нёман”.

Упершыню надрукаваўся ў 1962 годзе ў газеце “Знамя юности”. Аўтар кніг прозы “Раздзеление радости”, “Предчувствие перемен”, “Сполохи”, “Ольховатская история”, “Первоосень”. На рускую мову пераклаў асобныя творы Вячаслава Адамчыка, Антона Бялевіча, Аляксея Карпюка, Паўла Місько, Івана Пташнікава і іншых.

**Калектыў УП “Выдавецтва “Полымя” выказвае спачуванне галоўнаму рэдактару КРУГЛОВАЙ Людміле Іванаўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю мужа.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса “Полымя” смуткуе з выпадку смерці былога супрацоўніка Віктара Апанасавіча РАКАВА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса “Нёман” смуткуе з выпадку смерці Уладзіміра МАШКОВА і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса “Крыніца” выказвае свой смутак і глыбокае душэўнае спачуванне супрацоўніку рэдакцыі, вядомаму філосафу і культуролагу Валянціну Васільевічу АКУДОВІЧУ з прычыны сканчэння зямнога веку ягоным бацькам.**



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**ЭКРАН**

**Беларускае тэлебачанне**

*10 ліпеня, панядзелак, 13.10* — да 530-ай гадавіны з дня нараджэння Міколы Гусоўскага пакажуць фондавы відэафільм уласнай вытворчасці "Песня пра зубра".

*14 ліпеня, пятніца, 17.35* — нарыс "І парпуровых ветразяў узвівы" да 100-гадовага юбілею Уладзіміра Дубоўкі.

*15 ліпеня, субота, 17.05* — "Арт-клуб" будзе віншаваць з юбілеем артыстку Гомельскага драматычнага абласнога тэатра Ніну Карпаву.

**РАМПА**

Тэатральны сезон скончыўся. Настае пара гастрольная. Нашыя тэатры — за мяжу, замежныя — да нас. Звычайна рускія. У другой палове ліпеня ў памяшканні Купалаўскага свае спектаклі пакажа піцерскі тэатр імя Ленсавета. Квіткі — за 2 тысячы рублёў.

*15 і 16 ліпеня* — "Кароль, дама, валет" У. Набокава.

*17 і 18* — "Самадуры" К. Гальдоні.

*19 і 20* — "Жак і ягоны пан" М. Кундэры.

*21 і 22* — "На тлумным месцы" А. Астроўскага.

*23 і 24* — "Калігула" А. Камю.

**ВЫСТАВЫ**

З 8 ліпеня па 31 жніўня ў Нацыянальным мастацкім музеі будзе адкрыта выстава твораў Марка Шагала "Прысвячэнне Парыжу".

**У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА**

*5 ліпеня.* Пасяджэнне бюро секцыі нарыса і публіцыстыкі.

*7 ліпеня.* Парк імя Я. Купалы (ля помніка). 11.30. Святкаванне дня нараджэння Я. Купалы.

*9 ліпеня.* "Літэкспрэс-2000". Свята "Купалле" ў Купалаўскім мемарыяльным запаведніку "Вязынка".

*10 ліпеня.* "Літэкспрэс-2000". Пасяджэнні-сустрэчы з пісьменнікамі ў бібліятэках і музеях горада.

*10 ліпеня, 18.00.* "Літэкспрэс-2000". Літаратурны вечар у Вялікай зале Дома літаратара.

*18 ліпеня. Б-ка СБП, 12.00.* Урок, прысвечаны юбілею У. Караткевіча.

*20 ліпеня.* Да 100-годдзя Уладзіміра Дубоўкі. Нацыянальная бібліятэка.

Выезд сяброў Бюро секцыі паэзіі ў адзін з гарадоў Беларусі.

## "У народ і край свой толькі веру..."

7 ліпеня Беларусь адзначае 118-я гадавіна народзін слыннага сына зямлі беларускай, народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. У гэты дзень па добрай даўняй традыцыі на сустрэчу з неўміручай паэзіяй вялікага Песняра да помніка Янку Купалу ў парк, што носіць яго імя, на традыцыйнае свята паэзіі прыйдуць прыхільнікі ягонай спадчыны: паэты, навукоўцы, супрацоўнікі музеяў і бібліятэк, моладзь. Паэзія вялікага Купалы заўсёды хвалявала і хвалюе людзей рознага ўзросту і розных прафесій, таму што іменна яго паэзія ўвабрала ў сябе годнасць і знакавасць роднага беларускага слова. Неўміручасць Купалавага радка адлюстроўвае не толькі сацыяльна-бытавыя, але і нацыянальна-вызваленчыя матывы, якія суцэльна знітаваны паміж сабою. Шчымлівыя радкі "Малітвы" бяруць нас у палон:

***Малюся я небу,***
***зямлі і прастору,***
***Магутнаму Богу —***
***ўсясвету малюся,***
***Ва ўсякай прыгодзе,***
***ва ўсякую пору***
***За родны народ Беларусі.***

Купала і Беларусь. Паняцці непарыўныя паміж сабой. Пакінуўшы ў спадчыну свайму народу лёсавызначальную паэзію, Янка Купала адышоў у бессмяроцце. Яго творчасць нам яшчэ трэба асэнсоўваць і асэнсоўваць.

Шчыра запрашаем усіх, каго мацуе дух Купалы і яго прарочая вера ў лепшую будучыню Беларусі, прычасціцца душою і сэрцам да неўміручай Купалавай паэзіі, невычэрпнай крыніцы прыгажосці і хараства роднай мовы.

Свята пачнецца ў 11.30.

**Л. ДАВІДОЎСКАЯ**

## ПАРОДЫІ

### Ці зможа Парыж без мяне?

*Убачыць Парыж —*
*і памерці...*
*Я глянуў —*
*і цёмна ўваччу.*
*Цяпер я баюся смерці —*
*Я зноў у Парыж хачу.*

**Уладзімір ПАПКОВІЧ**

***Убачыць Парыж —***
***і памерці...***
***Убачыў нарэшце. Не ў сне!***
***Аднак неспакойна***
***на сэрцы:***
***Баюся цяпер тае смерці,***
***Бо як жа Парыж...***
***без мяне?***

### Шампанскае на брудэршафт

*Калі ў бакал шампанскае*
*наліта,*
*Назло зіме, хоць мы*
*і ўдзячны ёй,*
*Кажу табе не тост —*
*кажу малітву:*
*Маёю стань,*
*да скону будзь маёй.*

**Мікола ШАБОВІЧ**

*На чатырох вятрах*
*даўно калею,*
*Агонь вачэй у мораку ачах.*
*Наліце мне*
*шампанскага ў лілею,*
*Я вып'ю за наступны*
*лепшы час.*

**Зінаіда ДУДЗЮК**

***Я ад шампанскага***
***заўжды хмялею,***
***Ды твой я добра***
***разумею тост:***
***Напоўніць хочаш***
***ты маю лілею***
***Шампанскім,***
***што з нагоды юбілею***
***Ажно мне скрыню***
***цэлую прынёс.***

***Хоць не была***
***ніколі я святою,***
***Аднак сягоння крыўдна***
***мне да слёз,***
***Бо не змагу, Мікола,***
***стаць тваёю —***
***Ты да мяне крыху***
***шчэ не дарос.***

***Ты ход зрабіў***
***даволі празаічны,***
***А я ж паэтка,***
***і з табой пайшла б,***
***Калі б ты верш мне***
***прысвяціў лірычны***
***І перадаў з лілею публічна***
***На стол мой сціплы***
***ад свайго стала.***

***А потым выпілі б***
***з бакала й кветкі,***
***Каб нараджаліся***
***ў нас вершы-дзеткі!***

### Ну хто другі ўсё сцерпіць гэта?

*Калі не я, скажы,*
*дык хто*

**Павел САКОВІЧ**

*Старое зносіць паліто,*
*Пратопча сцежку*
*ў жухлы сад,*
*Дагледзіць кволых*
*гусянят,*
*Абшчыпле кроп,*
*збярэ гуркі*
*Праполе бульбу й буракі?*
*Калі не я, дык хто другі...*

**Святлана КАРОБКІНА**

***Калі не я, скажы,***
***дык хто***
***Падасць і брыль, і паліто,***
***Памые посуд, твой халат,***
***Дагледзіць шустрых***
***дзіцянят,***
***Абшчыпле кроп,***
***збярэ гуркі,***
***Згатуе боршч, ці суп які,***
***Наварыць бульбы на абед,***
***Каб накарміць цябе***
***як след.***
***А покуль будзеш***
***прагна есці,***
***Зрыфмуе твор радкоў***
***на дзвесце.***
***Як потым***
***станеш засынаць,***
***На вушка будзе***
***верш шаптаць...***

***Калі не я, дык хто другі***
***З табой жыць***
***зможа, дарагі?!***

### Пугаўё ці снікерс?

*З малымі што рабіць?*
*Стрыгуцца модна*
*стрыжкаю,*
*Па лбе іх нельга біць*
*Падчас вячэры лыжкаю.*
*Бо здачы могуць даць,*
*Ці абсмяяць гаворачы...*
*Трасецца барада*
*У дзеда*
*з цяжкай горычы.*

**Максім ЛУЖАНІН**

***Ну хто мне рады дасць,***
***як жыць***
***З такімі вось унукамі?***
***Маўчаць заўжды,***
***што ні скажы —***
***Раты заняты гумкамі.***

***Сваіх успомніўшы***
***бацькоў,***
***За справу ўзяўся крута я:***
***Відаць, кажу, без паяскоў***
***Не абысціся тутака.***

***Хацеў, было, аперазаць***
***Свайго унука большага,***
***Ды што як здачы***
***хлопча дасць?***
***Дубцом, чаго харошага!***

***Па лбе карцела гвазданууць***
***Унукаў неяк лыжкаю.***
***А што,***
***як лыжку адбяруць,***
***Даесці кашу не дадуць?***
***Не, пачакаю крышку я.***

***Ну, не знаходжу***
***выйсця я,***
***Нібыта мыш пад венікам.***
***А, можа, лепш без пугаўя,***
***Са снікерсам і пернікам?***



*Што ж паробіш — мы ж тутэйшыя...*

*Фота Г. ЖЫНКОВА.*

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Фрашкі

### Прыкмета

***На шчасце — посуд біць,***
***І мне здаецца,***
***Прыкмета гэтая***
***Усё яшчэ жыве.***
***А ці на шчасце, хлопцы,***
***Посуд б'ецца,***
***Як б'юць яго***
***На вашай галаве?..***

### Бяссонніца

***— Не спала ноччу я,***
***Пракоп —***
***Брахаў сабака,***
***А ты — хроп!***
***— А ты б заснула,***
***Небарака,***
***Каб гаўкаў я,***
***А хроп сабака?..***

### Шалёныя грошы

***Бядуе Максім:***
***— Да чаго ж мы дайшлі,***
***Што грошай***
***Ніколі не маеш!***
***Шалёныя грошы, —***
***ён кажа, —***
***Пайшлі —***
***Ніяк у руках***
***Не ўтрымаеш!***

### Мацерная мова

***Як размаўляюць***
***сёння***
***У нашай хаце?***
***Паслухаўшы,***
***Пара рабіць выснову:***
***Мы ўжо даўно***
***Забылі мову маці,***
***А знаем толькі***
***Мацерную мову.***

### Тэрміналогія

***Калі частуешся***
***Сівухай, —***
***Дык будзеш, братка мой,***
***Пад мухай.***
***Калі ж каньяк п'еш***
***У кафэ —***
***Тады ты будзеш***
***Пад шафэ.***

### Эпітафія

***— Папера вытрымае,***
***Ды і я — не першы, —***
***Сказаў паэт. —***
***Ты, муза, мне прабач! —***
***І выдаў кніжку***
***Заскарузлых вершаў.***
***...Папера вытрымала.***
***Не сцярпеў чытач!..***

### Пытанне на засыпку

***Усё ты ведаеш***
***І знаеш?***
***Дык адкажы,***
***Як ты мудрэц:***
***Адкуль заўсёды***
***Пачынае гніць***
***Безгаловы селядзец?***

### Лішні доказ

***Забалела зранку***
***Галава?***
***Я б вам раіў***
***Супакоіць злосць —***
***Гэта ж проста***
***Лішні доказ вам,***
***Што яна у вас,***
***Прынамсі, ёсць.***

**Марцін КОЎЗКІ**

## Доля праўды

Няўтульнае наша гарадское жыццё, ратунку няма ад машын. — А на досвітку будзіць вас трамвай? — А аэрадромны гуд? — Вы ўсё, канешне, пра мураваныя дамы, а калі ў блочных жывеш, там чуеш нават, як на другім канцы сусед пайшоў у туалет... Тралейбус наблізіўся да канцавой, і ў салоне запанавала цішыня. — Гэта мне адпачынак на 15 мінут, — за палёгкай уздыхнуў шафёр. — Няпроста, калі паблізу парку жывеш, дзе танцы ноч напралёт.

●

— Мала іонаў у атмасферы, — скардзілася цётка ў двары. Цікава, што гэтую "атмасферу", ужо выкарыстаў Чэхаў для характарыстыкі свайго персанажа. Толькі тады вымаўлялася яно як "атмосфера". Што ж, вырасла з той пары вучонасць цётак у двары.

●

Аўтапартрэт. Адчуваю сябе энергічным і маладым, смелым і гордым. Пакуль не зірне на мяне з люстэрка мятая гэта морда.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намесніка галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8[illegible]
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 29.06.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 3293.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12